

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 16 сакавіка 1990 г. № 11 (3525) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


## М. С. ГАРБАЧОЎ:

**Урачыста клянуся верна служыць народам нашай краіны, строга следаваць Канстытуцыі СССР, гарантаваць правы і свабоды грамадзян, добрасумленна выконваць ускладзеныя на мяне высокія абавязкі Прэзідэнта СССР.**



## З'ЕЗД. КАНСТЫТУЦЫЯ. ПРЭЗІДЭНТ.

**12 сакавіка ў Маскве пачаў работу нечарговы трэці З'езд народных дэпутатаў СССР.**

**У парадак дня З'езда былі ўключаны наступныя пытанні:**

**1. Аб прызнанні паўнамоцтваў новавыбраных дэпутатаў СССР.**

**2. Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) СССР і заснаванні пасады Прэзідэнта СССР.**

**3. Выбранне Прэзідэнта СССР.**

**У ходзе дыскусій дэпутаты пайменным галасаваннем унеслі змены ў асобныя палажэнні Канстытуцыі, якія тычацца эканамічнай і грамадска-палітычнай сістэмы Савецкай дзяржавы. Быў прыняты таксама Закон аб заснаванні паста Прэзідэнта СССР.**

**14 сакавіка на пасяджэнні Пленума ЦК КПСС кандыдатам ад Камуністычнай партыі Савецкага Саюза на пост Прэзідэнта СССР быў вылучаны Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.**

**На З'ездзе народных дэпутатаў СССР разам з кандыдатурай М. С. Гарбачова былі вылучаны для ўключэння ў спіс для галасавання кандыдатуры В. В. Бакаціна і М. І. Рыжкова. У ходзе абмеркавання В. В. Бакацін і М. І. Рыжкоў знялі свае кандыдатуры.**

**Затым адбылося тайнае галасаванне. Большасцю галасоў першым у гісторыі Прэзідэнтам Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік быў выбраны Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў.**

**15 сакавіка, пасля ўрачыстага прынясення прысягі Прэзідэнта СССР, М. С. Гарбачоў выступіў на З'ездзе з прамовай.**

## НЕ ТОЛЬКІ ЮБІЛЕЮ РАДЫ

Паэту-дэмакрату Францішку Багушэвічу — аднаму з зачынальнікаў беларускай літаратуры — былі прысвечаны «багушэвіцкія чытанні», якія адбыліся ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. 21 сакавіка будзе адзначацца 150-годдзе з дня яго нараджэння.

Але не толькі дзеля юбілею сабраліся разам беларускія вучоныя і літаратары. Як падкрэсліў дакладчык віцэ-прэзідэнт АН БССР акадэмік І. Я. Навуменка, вучоныя, пісьменнікі, уся беларуская інтэлігенцыя ў вялікім даўгу перад паэтам. Далёка / не поўнасцю вывучаны яго разнастайная творчасць і выдатная, дастойная пяра раманіста, біяграфія. Невялікі пакуль і спіс сучасных выданняў вершаў і прозы Ф. Багушэвіча.

Нямала «белых плям» творчай біяграфіі паэта «расшыфравалі» ўдзельнікі чытанняў. І гэта — толькі пачатак праграмы святкавання юбілею. У сакавіку купалаўскі тэатр запросіць знаўцаў творчасці Ф. Багушэвіча на агульнагарадскі вечар, прысвечаны яго памяці. У канцы мая — пачатку чэрвеня ў Смаргонскім раёне адбудзецца рэспубліканскае свята паэзіі. У Кушлянах адкрыецца мемарыяльны музей паэта.

Кар. БЕЛТА.

## ДОМ, ДЗЕ ПАСЯЛІЛІСЯ МУЗЫ

Данінай часу, а не модзе стала змена шыльды на былым сталічным культурна-асветным вучылішчы. Абітурыент-90 адчыніць дзверы ўжо новай навучальнай установы — Мінскага вучылішча мастацтваў і культуры.

І справа не ў сучаснай прываблівай назве. Прынцыпова мяняецца структура навучальнай установы. Іншай стане і «палітра» прапануемых тут прафесій. На аддзяленні мастацтваў будуць рыхтаваць выкладчыкаў музычных школ і школ мастацтваў, музычных кіраўнікоў дзіцячых садоў, артыстаў танцавальных ансамбляў, аркестраў і нават лялечных тэатраў. А жадаючых набыць навыкі ў арганізацыі народнай творчасці, кінафотасамадзейнасці, рэжысуры масавых мерапрыемстваў і тэатралізаваных прадстаўленняў, кіраўніцтве калектывамі харавых спеваў, народнага танца або мастацкай самадзейнасці чакаюць на аддзяленні народнай творчасці.

Новая праграма навучання разлічана на раскрыццё творчага патэнцыялу кожнага навучэнца, яго індывідуальных здольнасцей. Яна не звязвае ініцыятыву педагогаў, а наадварот, прадастаўляе ім шырокае поле дзейнасці, дае свабоду ў арганізацыі навучальнага працэсу.

Павысіць узровень культурнага жыцця ў вёсцы, адрадзіць нацыянальныя традыцыі і фальклор — гэта не чарговы лозунг, а рэальная, даўно наспеўшая неабходнасць. Духоўныя патрэбнасці людзей сталі якасна іншымі. Сёння ўжо недастаткова мець у калгасе дабротны клуб, дзе можна паглядзець фільм або наладзіць дыскатэку. Патрэбны добра абсталяваныя цэнтры эстэтычнага выхавання, дзе людзі ўсіх узростаў мелі б магчымасць займацца самай разнастайнай творчасцю. І толькі высокапрафесіянальным спецыялістам — будзем спадзявацца, што іменна такіх выхавае новае вучылішча — пад сілу запаліць яркі агеньчык творчасці ў «ачагах» сельскай культуры.

В. КУКЛОЎ,
кар. БЕЛТА.

г. Мінск.

**17—18 сакавіка, як вядома, адбудзецца другі тур выбараў у Вярхоўны Савет рэспублікі і мясцовыя Саветы. У прыватнасці, у Мінску паўторнае галасаванне адбудзецца ў пераважнай большасці выбарчых акруг. Сярод тых, хто працягвае барацьбу за дэпутацкія мандаты, нямала прадстаўнікоў БНФ «Адраджэнне», ТБМ, іншых грамадскіх арганізацый, партыйных і савецкіх работнікаў. Па Мінску ў Вярхоўны Савет балаціруюцца, прынамсі, сакратар Мінскага ГК КПБ П. К. Краўчанка, першы сакратар Фрунзенскага райкома партыі Л. І. Радкевіч, у Мінскі гарадскі і раённыя Саветы — многія кіраўнікі гарадскога і раённых камітэтаў КПБ.**

# «ГАЛОЎНАЕ—ВОЛЯ ВЫБАРШЧЫКАЎ»

Мікалаю Самуілавічу Стукачу не прывыкаць да выбараў на альтэрнатыўнай аснове... Перад пленумам Партызанскага райкома КПБ, які адбыўся 1 лютага г. г., на вакантнае месца першага сакратара прэтэндавалі адразу адзінаццаць кандыдатаў. Праўда, у канчатковы спіс для галасавання былі ўнесены ўсяго чатыры прозвішчы. Тым не менш, спатрэбілася некалькі тураў, перш чым Мікалай Самуілавіч набраў неабходную колькасць галасоў.

Да гэтага Стукач 25 год працаваў на Мінскім трактарным заводзе, прайшоў шлях ад рабочага да сакратара парткома завода. Скончыў вячэрняе аддзяленне Беларускага інстытута народнай гаспадаркі. Па адукацыі—эканаміст.

**— Мікалай Самуілавіч! Прайшло крыху больш месяца, як вы працуеце на новай пасадзе. З чаго вы пачалі? Якія задачы лічыце галоўнымі ў сваёй рабоце?**

— Пачаў з сустрэч з кіраўнікамі партарганізацый, з радавымі камуністамі, наогул—з жыхарамі раёна. Ведаеце, на МТЗ я кантактаваў з тысячамі людзей. Амаль усіх ведаю ў твар. Гэта вельмі дапамагала ў рабоце, дазваляла заўсёды ведаць настрой завадчан, абстаноўку ў пярвічных арганізацыях.

Той заводскі вопыт вельмі дапамагае мне сёння як сакратару райкома партыі. Да месца прыйшліся і старыя сувязі з кіраўнікамі парткомаў заводаў — маторнага, электратэхнічнага і г. д. А вось работнікаў сярэдняга звяна—напрыклад, сакратароў цэхавых партарганізацый—у сваім раёне ведаю, на жаль, зусім мала. Напярэдадні справаздачна-выбарчай кампаніі і выбараў дэлегатаў на XXVIII з'езд партыі сустрэчы з камуністамі асабліва неабходны. За апошнія тыдні я пабываў на трох партыйных сходах па месцы жыхарства. Гэтыя сустрэчы былі вельмі карысныя, і, думаю, яны павінны ўвайсці ў практыку работы райкома.

Зараз даводзіцца авалодваць і так званай «апаратнай работай». Што ні кажы — а зусім без апарату не абысціся, многае залежыць ад яго кампетэнтнасці. Праўда, унікнуць ва ўсе «тонкасці» пакуль не паспеў—не было часу. Справа ў тым, што апошні месяц супаў з выбарчай кампаніяй, давялося шмат сустракацца з выбаршчыкамі, выступаць. Але выбары для мяне—рэч прынцыповая, да ўдзелу ў іх я стаўлюся з усёй сур'ёзнасцю. У першым туры выбараў у гарсавет нас было сем кандыдатаў. Здарылася так, што маім сапернікам пры паўторным галасаванні тут будзе мой добры знаёмы, чалавек, якога я вельмі паважаю, — Станіслаў Аляксандравіч Карпенка, загадчык кафедры Мінскага філіяла інстытута павышэння кваліфікацыі пры МАЗе. Гэта чалавек цвёрдых прынцыпаў, са сваёй уласнай пазіцыяй, сумленны. Але ж барацьба ёсць барацьба, і аднаму з нас, як ні шкада, давядзецца саступіць...

**— Вы балаціруецеся ў гарадскі (Стаханаўская выбарчая акруга № 131) і раённы (Ванееўская выбарчая акруга № 69) Саветы народных дэпутатаў. У той жа час вы—на чале раённай партарганізацыі. Якімі вам бачацца ўзаемаадносіны паміж партыйнымі і савецкімі органамі, скажам, у раёне?**

— Гаспадаром раёна павінен быць Савет. Сфера дзейнасці райкома—не вытворчасць, а палітыка. Ніякіх каманд з боку партыйных органаў не можа быць. Што тычыцца асабіста мяне, дык, калі мяне абяруць дэпутатам, галоўным для мяне будзе воля маіх выбаршчыкаў.

**— Якія прынцыпы, на ваш погляд, павінны сёння быць у аснове дзейнасці Саветаў?**

— На сустрэчах з выбаршчыкамі *я падкрэсліваў чатыры* асноўныя пытанні. Першае — эканамічная самастойнасць. Яна будзе рэальнай, калі прадпрыемствы, размешчаныя на тэрыторыі Савета, будуць адлічваць у яго бюджэт частку прыбытку. Абавязковая ўмова, каб бюджэт Саветаў фарміраваўся імі самімі, а не даводзіўся зверху. Я падзяляю думку аўтара артыкула ў «ЛіМе» (чытаю яго пастаянна) В. Кругавога «І гэта—эканамічная самастойнасць?» наконт жорсткіх нарматываў ва ўмовах *рэгіянальнага гасразліку*. З-за іх самастойнасць можа абярнуцца фікцыяй.

Другое пытанне, пра якое я ўжо гаварыў,—палітычная самастойнасць Савета.

Трэцяе важнейшае пытанне — дакладней, цэлы комплекс пытанняў—звязана з экалогіяй і ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай аварыі. Неабходна незалежная экалагічная экспертыза. Работа па яе стварэнні ў раёне ўжо вядзецца. Адна з галоўных праблем сёння заключаецца ў тым, што ў нашай краіне практычна няма экалагічна чыстых тэхналогій. Паправіць становішча можна пакуль толькі за кошт валютных сродкаў прадпрыемстваў. Скажам, МТЗ сёлета выдзеліў тры мільёны долараў на вагранку закрытага тыпу ў ФРГ. Думаецца, пакупка сябе апраўдае.

Што датычыць Чарнобыля, то ў нас усё яшчэ няма поўнай інфармацыі аб радыяцыйнай забруджанасці. А плаціць за гэтае няведанне даводзіцца ўсім нам; часам, самым дарагім, — жыццём сваіх блізкіх... Той, хто ўтойваў інфармацыю аб сапраўдных маштабах трагедыі Чарнобыля, павінен адказаць па ўсёй строгасці закона.

І нарэшце, адна з самых надзённых праблем, з якой, мусіць, трэба было пачаць—наша культура, яе сучасны стан. Мяне заўсёды ўражвалі нігілістычныя адносіны людзей да роднай мовы, роднай літаратуры, гісторыі. Я сутыкнуўся з гэтым, калі яшчэ працаваў сакратаром парткома. Вялікіх намаганняў каштавала адкрыць на заводзе курсы па вывучэнні беларускай мовы і культуры (а адным з першых крокаў была старонка «Роднае слова» ў «Тракторе»). Давялося і ўладу прымяніць, каб прыцягнуць да курсаў сакратароў партарганізацый.

Мінулай восенню я пабываў у Канадзе разам з самадзейнымі артыстамі Дома культуры МТЗ, сустракаўся з беларусамі, якія там жывуць. Вы б бачылі, з якой прагнасцю яны лавілі кожнае слова на роднай мове, як цікавіліся ўсім, што звязана з беларускай культурай!

Безумоўна, многае для адраджэння нацыянальнай культуры можа і павінна зрабіць наша творчая інтэлігенцыя. Дарэчы, я нядаўна пабываў у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Сакратара партбюро СП В. Супрунчука ведаю даўно, знаёмы з некаторымі іншымі літаратарамі. Але мне вельмі хацелася б, каб нашы кантакты з пісьменнікамі і з пісьменніцкай арганізацыяй наогул сталі пастаяннымі. Думаецца, праблемы, *якія* так востра адчувае інтэлігенцыя і якія закранаюць усё наша грамадства, нельга вырашыць без яе ўдзелу.

**Гутарыў Віталь ТАРАС.**

# ВЫБАРЫ З БАНАНАВАЙ СУШКАЙ

Чаргі да выбарчых кабін не было. Чарга віравала ў суседнім пакоі, дзе ўвішная буфетчыца, на дзіва ветлівая і на гэты раз не гаваркая, надзяляла людзей імпартнай бананавай сушкай...

Члены выбарчай камісіі ў спісах выбаршчыкаў нашых прозвішчаў не знайшлі, але не збянтэжыліся, не папрасілі прабачэння, дапісалі нас у доўгі выбарчы папірус, выдалі бюлетэні для галасавання. У нашай сям'і — пяцёра выбаршчыкаў. Збянтэжыліся, хутчэй за ўсё, мы, звыклыя да ўсталяванага за многія гады рытуалу: кожны выбаршчык мае свой уласны спісачны нумар, ты атрымліваеш бюлетэні, твая клетка на плане выбарчага ўчастка закрэсліваецца — усё, можаш ісці галасаваць.

Вось і зараз, калі я пішу гэтыя радкі, недзе стракочуць машынкі, друкуюцца новыя спісы, рыхтуюцца новыя клеткі, новыя бюлетэні для паўторнага галасавання. Хвалююцца члены выбарчых камісій, яшчэ больш хвалююцца кандыдаты ў дэпутаты, і, здаецца мне, менш за ўсіх хвалююцца выбаршчыкі. Здаецца, мы пачынаем прывыкаць і да выбарчых гульняў, і да абяцанак-цацанак новых кандыдатаў, наслухаўшыся іх на сходах, мітынгах, сустрэчах, начытаўшыся іх асабістых выбарчых праграм.

У выбаршчыкаў ёсць ужо сякі-такі вопыт. Я ўважліва, як і многія, сачу за дзейнасцю Вярхоўнага Савета СССР. Часам яго пасяджэнні нагадваюць вострасюжэтную п'есу, дзе ўжо выявіліся галоўныя дзейныя асобы, статысты і звычайныя гледачы. Шмат пазітыўнага ўжо зроблена імі, нашымі пасланцамі ў вышэйшы орган краіны. І гэта бясспрэчна. Шкада толькі, што прынятыя законы пакуль што не дзейнічаюць, *што шмат* часу аддаецца дыскусіям па пытаннях, накшталт такога: будаваць мост перабудовы ўздоўж альбо ўпоперак ракі? І міжволі пачынаеш адчуваць, што адвечная шырокая плынь жыцця людскога цячэ па сваіх жыццёвых *законах*, дзе ёсць свае віры і перакаты, свае радасці і засмучэнні, свае цяжкасці і трагедыі. Не хачу вінаваціць і галоўных рэжысёраў, і дзейных асоб — дэпутацкі корпус, мабыць, у іх свае клопаты і праблемы, бо яны нагадваюць часам студэнцкіх прагульшчыкаў, якіх трэба сілком заганяць на лекцыі. Хто, скажыце, мог раней прадбачыць, што на пасяджэннях, дзе па сутнасці вырашаецца будучыня народа і краіны, не будзе ставаць кворуму?

Крыху расчароўвае мяне і дзейнасць дэпутатаў ад Беларусі. Адных у зале зусім не відаць, другія ціха дрэмлюць, не заплюшчваючы вачэй, трэціх, здаецца, больш цікавяць глабальныя, планетарныя праблемы, чымсьці свае, скажам, звязаныя з чатырохгадовай трагедыяй нашага народа. Амаль апошнім паставілі пытанне аб ёй на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета СССР. І нашы пасланцы не абурыліся, не ўгнявіліся, не пакінулі залу пасяджэнняў у знак нязгоды.

А трагедыя працягваецца. Нядаўна «Чырвоная змена» надрукавала лісты дзяцей з абпраменёных раёнаў, поўныя болю, адчаю, безвыходнасці. У гісторыі нашага народа ёсць кніга, якая ўзрушыла свет: «Ніколі не забудзем». А цяпер, у нашы дні, пішуцца старонкі новай кнігі, а дакладней — другі том вышэйназванай, — аб трагедыі і бацькоў, і дзяцей, усяго народа, які стаў заложнікам ведамаснай некампетэнтнасці і дзяржаўнага раўнадушша.

Вось вытрымка з паведамлення ТАСС ад 5 мая 1986 года: «У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС на адрас Савецкага ўрада ад замежных дзяржаў, розных арганізацый, прыватных кампаній і асобных грамадзян паступаюць выказванні спачування і прапановы аб аказанні дапамогі.

ТАСС упаўнаважаны паведаміць, што Савецкі ўрад выказвае шчырую ўдзячнасць усім, хто выказаў сваё спачуванне, годнае разуменне таго, што адбылося, і прапанаваў садзеянне і дапамогу. У цяперашні час асноўныя ўзнікаючыя патрэбнасці па ліквідацыі вынікаў аварыі задавальняюцца ўласнымі магчымасцямі...»

Гэта дзіўна: мільёны рублёў, сабраныя сумленнымі людзьмі, якія адгукнуліся на чарнобыльскую бяду, аселі ў бяздонных кішэнях Мінатамэнерга. Сорак мільярдаў рублёў наяўнымі вытрусілі з дзяржаўнай скарбонкі кааператывы, вярнуўшы народу толькі каля двух. Гэта амаль столькі, колькі ўсесаюзны ўрад плануе атрымаць ад скарачэння арміі і ваенных праграм. На дазіметры пакуль што не выдзелена ні рубля.

Калі ўрад не можа гарантаваць бяспечнага пражывання на роднай зямлі сваім грамадзянам — падаткаплацельшчыкам, калі ўрад не можа гарантаваць сваім грамадзянам бяспекі нават на вуліцах.. нават

## З ПОШТЫ ГЭТАГА ТЫДНЯ

### ІМУНІТЭТ І ТАК АСЛАБЛЕНЫ...

**Я хацеў бы зноў узняць пытанне аб немэтазгоднасці ўвядзення на тэрыторыі Беларусі летняга часу («ЛіМ» пісаў пра гэта неаднойчы).**

**У друку паведамлялася ўжо што эканамічныя выгады ад гэтага мерапрыемства не вельмі пераканаўчыя. А вось негатыўны ўплыў на здароўе людзей відавочны.**

**Мае назіранні сведчаць, што амаль увесь красавік для многіх з'яўляецца часам балючай адаптацыі. Асабліва гэта датычыць дзяцей, падлеткаў, хворых з сасудзістай паталогіяй і інш. Назіраецца павышаная стамляльнасць, санлівасць, падзенне тонусу. Гэта ў сваю чаргу прыводзіць да зніжэння працаздольнасці на працы, у школе, у іншых навучальных установах. Справа ў тым, што пераход на летні час пагражае зрывам біярытму, што патрабуе ад арганізма значнай перабудовы дзейнасці многіх сістэм. Гэта таксама зніжае стан псіхічнага здароўя і павышае рызыку ўзнікнення псіхасаматычных захворванняў. Гэты перыяд лягчэй пераносяць толькі людзі з пароды «жаваранкаў», але такіх меншасць.**

**Трэба мець на ўвазе, што мы жывём па маскоўскім часе, а значыць прачынаемся прыкладна на гадзіну раней часу астранамічнага. Пры ўвядзенні летняга часу гэта розніца павялічваецца да дзвюх гадзін.**

**Такое рашэнне мае асабліва вялікае значэнне для насельніцтва Беларусі. Зрыў біярытму зніжае імунітэт, які і так аслаблены пад уздзеяннем радыяцыі.**

**Ф. ГАЙДУК,**
**загадчык кафедры псіхіятрыі Мінскага медінстытута, доктар медыцынскіх навук.**

### СПЕВЫ— НЕДАРЭЧЫ

**Адбыліся выбары, вынікі надрукаваны ў газетах. Але я хацеў бы падзяліцца сваімі ўражаннямі пра тое, што заўважыў на гэтых выбарах. Галасаваў я ў мікрараёне «Уручча», выбарчы ўчастак № 54. Жанчына, якая выдавала бюлетэні, ветліва растлумачыла мне: «Пакідайце толькі адно прозвішча *ў спісе, астатніх выкрэслівайце*». Тое ж самае раілі і іншым выбаршчыкам. А ці законна даваць такую параду? Я ведаю, што можна выкрасліць і ўсе прозвішчы кандыдатаў, гэта справа выбаршчыка. Але ж не ўсе, напэўна, гэта ведалі. Такім чынам некаторыя выбаршчыкі свядома былі ўведзены ў зман. Як разумець такую вось «параду»?**

**Цяпер пра зусім іншае. Паведамлялася, што 26 красавіка мяркуецца правесці тэлевізійны чарнобыльскі марафон для збору грошай. Акцыя добрая і, несумненна, патрэбная. Але я лічу, што спевы і танцы ў гэты дзень недарэчы. Дзень 26 красавіка на Беларусі павінен быць днём смутку і жалобы. Хацеў бы, каб па рэспубліканскім радыё і ТБ не перадавалі забаўляльных перадач і вясёлай музыкі. Гэта страшныя ўгодкі для Беларусі. Добра было б, каб і ЦТ і Усесаюзнае радыё таксама прадумалі адпаведную праграму на гэты дзень.**

**П. ЛУБОЎСКІ.**
г. Мінск.

***Лічылася вялікай удачай**, калі гістарычны будынак, хоць і не скарыстоўваўся па прамым прызначэнні, але трапляў у рукі разумнага, культурнага гаспадара (дакладней, арандатара). Мінскаму Чырвонаму касцёлу пашчасціла, бо ягоны сённяшні гаспадар — Саюз кінематаграфістаў Беларусі. Дзякуючы гэтай акалічнасці будынак захоўваецца ў прыстойным выглядзе. Жыве, працуе на культуру. Тут праходзяць выстаўкі, прагляды і абмеркаванні фільмаў, творчыя сустрэчы. У Доме кіно праходзіла ўстаноўчая канферэнцыя таварыства «Мартыралог Беларусі», на якой быў утвораны арганізацыйны камітэт Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне». Тут збіраліся на пасяджэнні і семінары сябры Сойма БНФ. Дом Кіно прыняў у свае сцены Асамблею народаў «Чарнобыльскі шлях». Тут на час выбарчай кампаніі размясціўся агітацыйны цэнтр творчых саюзаў Беларусі і Беларускага народнага фронту.**

**Відаць, менавіта грамадзянская актыўнасць беларускіх кінематаграфістаў падштурхнула гарадскія ўлады да думкі перадаць (ці, дакладней, вярнуць)**

ПРАЕКТ

# Статут Саюза пісьменнікаў БССР

## I.

1. Саюз пісьменнікаў БССР — прафесійная добраахвотная творчая арганізацыя беларускіх празаікаў, паэтаў, драматургаў, літаратурных крытыкаў, перакладчыкаў. СП БССР арганізацыйна аб'ядноўвае таксама пісьменнікаў, якія пішуць на іншых мовах народаў СССР, замежных краін і пастаянна жывуць у Беларусі.

2. СП БССР дзейнічае на аснове Канстытуцыі БССР, кіруецца законамі Беларускай ССР, Статутам СП БССР, актыўна ўдзельнічае ў грамадска-палітычным і культурным жыцці рэспублікі, спрыяе развіццю і прапагандзе беларускай літаратуры і мовы.

3. Саюз пісьменнікаў БССР з'яўляецца самастойнай і незалежнай грамадскай арганізацыяй. На аснове федэратыўных сувязей уваходзіць у Саюз пісьменнікаў СССР, супрацоўнічае з творчымі арганізацыямі пісьменнікаў савецкіх рэспублік і зарубежных краін. Змест супрацоўніцтва, правы і абавязкі бакоў устанаўліваюцца канкрэтнымі дагаворамі.

4. Важнейшымі абавязкамі Саюза пісьменнікаў БССР з'яўляюцца абарона годнасці, добрага імя пісьменніка, забеспячэнне яму ўмоў для практычнай рэалізацыі свабоды слова і друку, яго творчых правоў, прафесійных і сацыяльных інтарэсаў, аховы яго творчай спадчыны.

5. Саюз пісьменнікаў БССР лічыць непарушным прынцып роўнасці ўсіх яго членаў, незалежна ад нацыянальнай і расавай прыналежнасці, мовы творчасці, знаходжання на адміністрацыйных пасадах ці ў выбарных органах.

6. Саюз пісьменнікаў прызнае свабоду творчасці несумяшчальнай з любой формай цэнзуры, за выключэннем абмежаванняў, што тычацца ваеннай і дзяржаўнай тайны, прапаганды таго, што забараняецца заканадаўствам.

7. Саюз пісьменнікаў БССР мае права заканадаўчай ініцыятывы. Усе заканадаўчыя і іншыя нарматыўныя акты, якія маюць непасрэднае дачыненне да літаратурнай і выдавецкай дзейнасці, аўтарскіх правоў, сацыяльнага становішча пісьменніка, яго маральных і матэрыяльных інтарэсаў, выпрацоўваюцца і ўводзяцца ў дзеянне толькі пры ўдзеле Саюза пісьменнікаў БССР.

8. У адпаведнасці з Канстытуцыяй БССР Саюз пісьменнікаў Беларусі вылучае, а таксама рэкамендуе працоўным калектывам кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР, БССР, мясцовыя Саветы, вядзе агітацыю за іх выбранне.

9. Саюз пісьменнікаў БССР для рэалізацыі пастаўленых мэт:

а) стварае філіялы (аддзяленні СПБ у абласцях. Спрыяе дзейнасці творчых аб'яднанняў і асацыяцый пісьменнікаў, літаратурных аб'яднанняў;

б) праяўляе клопат аб спадчыне беларускай літаратуры і іншых нацыянальных літаратур, якія склаліся ў рэспубліцы;

в) садзейнічае перакладу беларускай літаратуры на іншыя мовы і перакладу літаратуры народаў свету на беларускую мову;

г) пашырае міжнародныя літаратурныя сувязі;

д) супрацоўнічае з беларускімі пісьменнікамі, перакладчыкамі, выдаўцамі, якія жывуць за межамі Беларускай ССР, Савецкага Саюза;

е) ва ўстаноўленым парадку стварае выдавецтвы, выпускае часопісы, газеты і іншыя перыядычныя і неперыядычныя выданні;

ж) рэкамендуе сваіх прадстаўнікоў у рэдкалегіі газет і часопісаў, рэдакцыйныя саветы выдавецтваў, камісіі Саюза пісьменнікаў СССР; фарміруе рэдкалегіі, саветы выдавецтва СПБ,

з) разглядае планы выпуску твораў мастацкай літаратуры ва ўсіх выдавецтвах рэспублікі і дае свае рэкамендацыі;

і) аб'яўляе конкурсы, прысуджае свае прэміі, вылучае кандыдатаў на Дзяржаўныя і іншыя прэміі, дзяржаўныя ўзнагароды і ганаровыя званні;

к) арганізуе канферэнцыі, літаратурныя вечары, адзначае юбілейныя даты і г. д.

## II.

10. Членам СП БССР можа быць аўтар, творы якога маюць самастойнае літаратурнае значэнне, выдадзены асобнымі кнігамі або пастаўлены на сцэне.

11. Прыём у СП БССР ажыццяўляе пленум СПБ індывідуальна пры наяўнасці заявы, рэкамендацыі трох членаў СП, творчай секцыі і прыёмнай камісіі тайным галасаваннем. Прынятым лічыцца той, за каго пададзена 2/3 галасоў ад прыняўшых удзел у галасаванні членаў праўлення. Членам СП БССР выдаецца членскі білет. Член СП Беларусі адначасова з'яўляецца членам СП СССР.

У асобных выпадках членам СПБ можа быць прыняты пісьменнік, які не з'яўляецца грамадзянінам БССР, СССР, але піша па-беларуску і жыве ў Беларусі.

12. Член СП мае права:

а) выбіраць кіруючыя і рэвізійныя органы СПБ і быць абраным у іх;

б) рэкамендаваць кандыдатаў для паступлення ў члены СПБ;

в) прымаць удзел у з'ездах і агульных сходах пісьменнікаў Беларусі з правам рашаючага голасу; быць абраным дэлегатам з'езда СП СССР, а таксама ў склад яго кіруючых органаў;

г) уносіць прапановы, выказваць і адстойваць сваю думку па ўсіх пытаннях, звязаных з дзейнасцю СПБ;

д) атрымоўваць усе звесткі, звязаныя з дзейнасцю СПБ ці органаў яго кіравання;

е) карыстацца матэрыяльнай падтрымкай з фондаў СПБ;

ж) звяртацца да кіраўніцтва СПБ ці яго падраздзяленняў па пытаннях абароны аўтарскіх правоў, за любой іншай юрыдычнай і маральнай падтрымкай і дапамогай пры вырашэнні творчых пытанняў;

з) прысутнічаць асабіста пры абмеркаванні яго грамадскай дзейнасці ці паводзін;

і) устанаўліваць прамыя, мінуючы УААП, сувязі з выдавецтвамі зарубежных краін;

к) выйсці са складу СПБ.

13. Члены СПБ абавязаны:

а) не парушаць Статут СПБ, выконваць рашэнні з'езда, агульных сходаў, пленумаў, прэзідыума (сакратарыята);

б) прымаць удзел у дзейнасці СПБ;

в) плаціць штогадовыя членскія ўзносы. Памер уступнага і штогодняга ўзносу ўстанаўліваецца з'ездам.

14. Член СПБ можа быць выключаны з СПБ за грубае парушэнне Статута СП, пісьменніцкай этыкі, крымінальнае злачынства, шматгадовую творчую бяздзейнасць (акрамя выпадкаў страты працаздольнасці па хваробе ці па старасці). Пытанне аб выключэнні члена СП вырашае пленум СПБ.

## III.

15. Вышэйшым кіруючым органам СПБ з'яўляецца з'езд. Ён склікаецца не радзей аднаго разу ў 4 гады. Нечарговы з'езд можа быць скліканы праўленнем СПБ альбо па патрабаванню 1/3 членаў СПБ, альбо рэвізійнай камісіі.

З'езд лічыцца правамоцным, калі ў ім удзельнічае 2/3 членаў СПБ.

16. З'езд пісьменнікаў Беларусі:

а) прымае Статут СПБ, уносіць у яго папраўкі;

б) вызначае асноўныя кірункі дзейнасці СПБ;

в) выбірае тайным галасаваннем на альтэрнатыўнай аснове старшыню СПБ. Выбраным лічыцца той, за каго пададзена 2/3 галасоў. Калі ні адзін з прэтэндэнтаў не набраў кваліфікаванай большасці галасоў, праводзяцца паўторныя выбары з 2-х кандыдатаў, што набралі найбольш галасоў, па прынцыпе простай большасці. Адзін і той жа чалавек не можа быць абраны на пасаду старшыні СПБ больш, чым на два тэрміны запар;

г) выбірае тайным галасаваннем простай большасцю праўленне СП: ад 8 членаў СП — аднаго, рэвізійную камісію — ад 15 — аднаго, членаў праўлення Літфонду ад 20—аднаго;

д) выбірае адкрытым альбо тайным галасаваннем простай большасцю галасоў дырэктара і галоўнага рэдактара выдавецтва СПБ, галоўных рэдактараў газет і часопісаў СПБ;

е) зацвярджае справаздачу праўлення СПБ, рэвізійнай камісіі, праўлення Беллітфонду, дае ацэнку іх рабоце.

17. Агульны сход пісьменнікаў Беларусі склікаецца штогод для разгляду актуальных пытанняў дзейнасці СПБ. Пры неабходнасці праводзіць перавыбары і давыбары па пунктах «г» і «д».

18. У перыяд паміж з'ездамі кіраўніцтва дзейнасцю СПБ ажыццяўляе праўленне СПБ.

19. Праўленне СПБ:

а) прымае новых членаў СПБ;

б) выбірае прэзідыум (альбо сакратарыят);

в) склікае з'езд СПБ, робіць справаздачу перад ім;

г) тайным галасаваннем простай большасцю галасоў выбірае намеснікаў старшыні (сакратароў) СПБ (не больш чым на 2 тэрміны запар), а таксама выбірае прэзідыум (альбо сакратарыят) СПБ з разліку — 1 ад 20 членаў СПБ;

д) арганізуе, падтрымлівае і каардынуе дзейнасць тэрытарыяльных філіялаў (аддзяленняў), іншых інстытутаў СПБ (асацыяцый, аб'яднанняў, камісій, саветаў выдавецтваў і г. д.), зацвярджае іх статуты;

е) зацвярджае рэдкалегіі выданняў СПБ;

ж) прапануе кандыдатуры на атрыманне літаратурных прэмій;

з) кіруе Беллітфондам, усімі структурнымі падраздзяленнямі СПБ і ажыццяўляе кантроль за фінансава-гаспадарчай дзейнасцю;

і) вызначае характар супрацоўніцтва СПБ з іншымі творчымі арганізацыямі, умовы ўступлення СПБ у розныя творчыя асацыяцыі, правы і абавязкі СПБ як калектыўнага члена такіх асацыяцый;

к) утварае камісіі і творчыя секцыі СПБ;

л) кіруе ўсімі іншымі справамі СПБ у перыяд паміж з'ездамі.

20. Пленумы СПБ склікаюцца не радзей 2 разоў у год. Пленум праўлення з'яўляецца правамоцным, калі ў ім прымае ўдзел не менш 2/3 членаў.

21. Прэзідыум (альбо сакратарыят) праўлення СПБ:

а) кіруе дзейнасцю СПБ у перапынках паміж пленумамі праўлення;

б) склікае пленумы праўлення;

в) дэлегіруе прадстаўнікоў СПБ у рэдкалегіі газет і часопісаў, якія не з'яўляюцца выданнямі СПБ, у саветы выдавецтваў, кінастудый, калегіі Дзяржкамдруку, Дзяржтэлерадыё, Мінкультуры і г. д., а таксама ў камісіі, рэдкалегіі выданняў, выдавецтваў Саюза пісьменнікаў СССР.

22. Пасяджэнні прэзідыума (сакратарыята) склікаюць не радзей аднаго раза ў 2 месяцы.

23. Філіялы (аддзяленні) СПБ утвараюцца, калі на пэўнай тэрыторыі пражывае не менш 10 членаў СПБ. Аддзяленні абараняюць інтарэсы членаў СПБ, якія ўваходзяць у іх, могуць выдаваць альманахі ці калектыўныя зборнікі твораў, рэкамендуюць для паступлення ў члены СПБ. Філіялы (аддзяленні) выбіраюць старшыню (сакратара).

24. Падрабязныя справаздачы аб рабоце з'ездаў, пленумаў, прэзідыума (сакратарыята) публікуюцца ў друку. Выдаюцца стэнаграфічныя справаздачы з'ездаў СПБ.

25. Рэвізійная камісія сочыць за выкананнем Статута СПБ, правярае фінансава-гаспадарчую дзейнасць СПБ, Беллітфонду і яго падраздзяленняў, выдавецтва СПБ, пра вынікі праверак паведамляе агульнаму сходу пісьменнікаў, праўленню ці прэзідыуму СПБ.

26. Выбірае старшыню і намесніка, трымае справаздачу перад з'ездам СПБ. Старшыня рэвізійнай камісіі і яго намеснік удзельнічаюць у пасяджэннях прэзідыума (сакратарыята) з правам дарадчага голасу.

Рэвізійная камісія прадстаўляе пленуму праўлення сваё заключэнне па справаздачнаму дакладу прэзідыума (сакратарыята) СПБ.

27. Прававая камісія займаецца вырашэннем спрэчных прававых і творчых пытанняў. Па даручэнню прэзідыума (сакратарыята) яна ўдзельнічае ў падрыхтоўцы і абмеркаванні нарматыўных актаў, якія маюць адносіны да ўрэгулявання аўтарскіх правоў, абароны пісьменніцкіх інтарэсаў.

28. Прыёмная камісія папярэдне разглядае і рыхтуе кандыдатаў для прыёму ў члены СПБ. Яе рашэнні носяць рэкамендацыйны характар.

29. Замежная камісія ўтвараецца для наладжвання творчых кантактаў з замежнымі літаратурамі і культурна-асветніцкімі арганізацыямі, выдавецтвамі, дзеячамі літаратуры і перакладчыкамі, прапаганды беларускай літаратуры і мовы за рубяжом.

30. Пры неабходнасці могуць утварацца іншыя пастаянныя ці часовыя камісіі, пісьменніцкі суд гонару.

31. Для актывізацыі творчай дзейнасці ўтвараюцца секцыі па жанрах (прозы, паэзіі, драматургіі, крытыкі, дзіцячай літаратуры і г. д.).

Старшыні камісій і секцый, іх сакратары выбіраюцца простай большасцю галасоў адкрытым альбо закрытым галасаваннем на арганізацыйных пасяджэннях і секцый.

32. Саюз пісьменнікаў Беларусі валодае правамі юрыдычнай асобы з поўнай фінансава-гаспадарчай самастойнасцю. Ён мае свой рахунак у банку і свабодна распараджаецца сродкамі. Сродкі СПБ складаюцца:

а) з членскіх узносаў;

б) дзяржаўных (бюджэтных) асігнаванняў;

в) паступленняў ад грамадскіх і іншых арганізацый і ўстаноў, якія падтрымліваюць дзейнасць СПБ;

г) даходаў ад выдавецкай і іншай дзейнасці;

д) сродкаў, што паступаюць ад замежных фірм і прыватных асоб;

е) адлічэнняў у Беллітфонд ва ўстаноўленым законам парадку.

33. Саюз пісьменнікаў Беларусі мае права набываць маёмасць, заключаць дагаворы, ствараць гаспадарча-разліковыя і кааператыўныя прадпрыемствы, якія адпавядаюць мэтам Статута, карыстацца крэдытамі, прад'яўляць іскі і адказваць па ісках у судах і дзяржаўным арбітражы; праводзіць знешнеэканамічную дзейнасць, выкарыстоўваючы для гэтага сродкі свайго валютнага фонду; прадстаўляць інтарэсы пісьменнікаў і па іх даручэнню ўступаць у дагаворна-прававыя адносіны з зарубежнымі выдавецтвамі і іншымі арганізацыямі па ажыццяўленню аўтарскіх правоў; выступаць паўнамоцным прадстаўніком члена СПБ па яго даручэнню і даверанасці ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх арганізацыях для абароны яго інтарэсаў.

34. СП БССР можа быць ліквідаваны пастановай з'езда СП, якая павінна быць прынята большасцю галасоў не менш 2/3 усіх членаў.

## ЗА РАДКОМ ПЕРАПІСУ

**Здаецца, зусім нядаўна мы былі «аб'ектамі» Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1989 года ў Беларускай ССР. Актыўны ўдзел у асвятленні гэтай надзвычай важнай кампаніі прымала і наша газета. Між іншым, «ЛіМ» пісаў і пра пэўныя хібы ў арганізацыі перапісу. Многія нашы чытачы ў сваіх лістах у рэдакцыю (большасць іх была апублікавана) адзначалі няпэўнасць, недакладнасць многіх пытанняў у перапісных бланках. Асабліва гэта тычылася выяўлення роднай мовы апытваемых. Былі выпадкі, калі некаторыя лічыльшчыкі на месцах перапісу рабілі спробу дыктаваць людзям, які запіс ім рабіць у графе «Ваша родная мова». Звычайна «агітацыя» ішла не ў карысць мовы беларускай...**

**І вось вынікі перапісу, нарэшце, апублікаваны. Якая ж яна, сённяшняя дэмаграфічная сітуацыя на Беларусі? Па-першае, колькі нас цяпер? Як сведчыць перапіс, на 12 студзеня 1989 года—10 мільёнаў 200 тысяч чалавек. У параўнанні з 1979 годам колькасць насельніцтва рэспублікі павялічылася на 639,2 тысячы чалавек, або на 7 працэнтаў. Разам з тым, нельга не звярнуць увагу на тое, што сярэднегадавы прырост насельніцтва за апошнія дваццаць гадоў зменшыўся з аднаго да 0,7 працэнта. І яшчэ. Калі прырост гарадскога насельніцтва за апошняе дзесяцігоддзе склаў 2,4 працэнта, дык сельскага за гэты час паменшала на 2 працэнты. У гэты адрэзак часу адбыўся самы вялікі адток сельскага насельніцтва (у 1959—1969 гг. яно памяншалася штогод на 0,8 працэнта, у 1969—1978 гг.—на 1,8 працэнта).**

**Сумная і пакуль што незваротная тэндэнцыя. З кожным годам скрозь на Беларусі ўсё большае вёсак і вёсачак, населеных толькі старымі людзьмі, якія засталіся тут дажываць свой век. Невыносную тугу выклікаюць і гэтыя сіроцкага выгляду селішчы, і нішчымныя палеткі, пазбаўленыя здаровых, працавітых рук, засмучае знікненне адвечнай любові да зямлі, да сялянскай працы, адыход у нябыт многіх традыцый культуры і побыту народа.**

**Праблемы, праблемы... За мінулыя дзесяць гадоў прырост працаздольнага насельніцтва склаў па рэспубліцы ўсяго 138,7 тысячы чалавек, або 2,5 працэнта. Колькасць асоб старэй працаздольнага ўзросту павялічылася за гэты перыяд на 24 працэнты, у той час, як насельніцтва вырасла толькі на 7 працэнтаў.**

**Звяртаюць на сябе ўвагу звесткі аб насельніцтве ўсіх нацыянальнасцей Беларусі. У час перапісу нацыянальнасць указвалася апытанымі на аснове іх самасвядомасці. Колькасць беларусаў за апошняе дзесяцігоддзе ўзрасла з 7568 тысяч да 7905 тысяч, рускіх—з 1134 тысячы да 1342 тысячы, палякаў—з 403 да 418 тысяч і г. д.**

**Пры перапісе разам з нацыянальнасцю ўлічвалася родная і другая мова народаў СССР, якой свабодна валодаюць апытаныя. Як сведчаць дадзеныя, 77,7 працэнта насельніцтва рэспублікі лічаць роднай мову сваёй нацыянальнасці (сярод беларусаў—80,2 працэнта).**

**На жаль, Дзяржкамстат БССР, які праводзіў перапіс насельніцтва, не ўлічыў дэмаграфічных змен у рэспубліцы, звязаных з чарнобыльскай катастрофай, якая прывяла да эвакуацыі часткі насельніцтва з раёнаў, забруджаных радыеактыўнымі выкідамі, павышэннем узроўню смяротнасці, зніжэннем нараджальнасці сярод насельніцтва Беларусі.**

**М. З.**

**Радзім ГАРЭЦКІ,**
**акадэмік АН БССР**

# Ці вучоныя вінаватыя?

**Ліст у рэдакцыю**

ЧАРНОБЫЛЬ ные ў сэрцы і не дае спаць спакойна...

І не дзіва: увесь свет да гэтага часу з жахам успамінае Хірасіму, а тут на нас звалілася многа дзесяткаў Хірасім. Найбольшая частка гэтага нябачнага, але магутнага і бязлітаснага знішчальніка трапіла на Беларусь, і зноў, ужо каторы раз за гісторыю, беларускі народ у цісках генацыду...

Асабліва шырока абмяркоўвалася праблема Чарнобыля ў час перадвыбарчай кампаніі. Абмяркоўвалася і на сходах, і ў друку. Усіх хвалююць пытанні: чаму здарылася гэтая катастрофа, хто вінаваты, чаму мы так доўга не ведалі сапраўднага становішча з забруджваннем тэрыторыі, чаму так марудна высяляюць з зоны людзей і г. д.

Пасля вядомага мітынгу 25 лютага першы сакратар ЦК КПБ Я. Я. Сакалоў «праясніў» некаторыя пытанні. Аказваецца, «...кіраўніцтва рэспублікі адмовілася ў пачатковы перыяд аварыі Чарнобыльскай АЭС ад тых сродкаў, якія выдзяляла краіна для ліквідацыі гэтай бяды», таму што «асноўныя рэсурсы былі пушчаны» на тое, каб «спыніць рэактар. Калі настаў час дзейнічаць далей, высветлілася, што ні саюзная, ні наша рэспубліканская навука па сутнасці ніякіх дадзеных не мелі. Не было такога вопыту і ў сусветнай практыцы. Толькі ў апошні час паявілася не навука, а парасткі навукі і ў саюзнай акадэміі, і ў нашай». Так напісана ў скарочанай стэнаграме адрэдагаванай гутаркі, якая адбылася ў тэлестудыі пасля мітынгу, а непасрэдна з тэлеэкрана яшчэ больш цвёрда гучала, што ва ўсіх бедах вінаватая навука, вінаватыя вучоныя.

Трохі раней у газетах было надрукавана, што на пасяджэнні ў Прэзідыуме Савета Міністраў БССР «...зноў прагучала занепакоенасць у сувязі з пражываннем людзей у раёнах, забруджаных радыёнуклідамі»... «І як весці на заражаных землях сельскую гаспадарку? На гэтыя пытанні неадкладна павінны адказаць навука, медыцына, Дзяржаграпром, органы мясцовай улады. Такое даручэнне зроблена. Сярод адказных за выкананне прэзідэнт АН БССР У. П. Платонаў, міністр аховы здароўя У. С. Улашчык, першы намеснік старшыні Дзяржаграпрома Я. Ф. Сухарукаў. На работу адпушчаны дні — заключэнне неабходна прадставіць у лютым». Адсюль зноў можна зрабіць вывад, што вучоныя (ды і мясцовыя ўлады таксама) амаль за чатыры гады нічога не вывучылі, нічога не ведаюць, не далі да гэтага часу ніякіх прапаноў.

І вось перад самымі выбарамі 2 сакавіка спецыяльныя карэспандэнты М. Бацян і В. Рошчын у «Рабочай трыбуне» змясцілі артыкул «Ахвяры застою», які ў той жа дзень тэрмінова на першай старонцы перадрукаваў «Вячэрні Мінск». У артыкуле ў зняважлівым тоне ідзе абраза нашых выдатных вучоных былога прэзідэнта АН БССР акадэміка М. А. Барысевіча і члена-карэспандэнта АН БССР В. Б. Несцярэнкі, якія як быццам ніякай трывогі ў сувязі з Чарнобылем ніколі не выказвалі, у друку не выступалі, а зараз прыпісваюць усё гэта сабе, «тонка адчуваючы кан'юнктуру ў барацьбе за дэпутацкі мандат».

Такіх выказванняў ад кіраўніцтва і апаратных работнікаў аб ролі навукі і вучоных можна было чуць нямала. Так, першы сакратар Гомельскага абкома партыі А. А. Грахоўскі патрабаваў, каб І. М. Нікітчанку, Я. П. Пятраева і іншых пазбавілі вучоных ступеняў. Вось так паступова знаходзяцца «вінаватыя». Знаёмая карціна з адносна недалёкага нашага мінулага: яшчэ трохі — і гатовы «ворагі народа». А гэта так проста, звыкла і не трэба галаву ламаць. Добра, што настаў іншы час. Але многія на такое клююць...

І нездарма 1 сакавіка, калі мне давялося праводзіць у Доме палітасветы сустрэчу кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР ад Беларускага экалагічнага саюза з выбаршчыкамі, першая запіска была з пытаннем аб віне вучоных у справе дрэннай ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. У адказ віцэ-прэзідэнт АН БССР І. І. Ліштван паведаміў, што новы склад Прэзідыума АН БССР, выбраны ў сакавіку 1987 года, падаў з таго часу больш за дваццаць дакладных запісак кіраўніцтву рэспублікі з рознымі прапановамі, у тым ліку і аб неабходнасці тэрміновага высялення жыхароў з забруджаных радыёнуклідамі тэрыторый. Пазіцыя беларускіх вучоных пакладзена ў аснову Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі вынікаў аварыі, прынятай Вярхоўным Саветам БССР.

Член-карэспандэнт АН БССР, старшыня Прэзідыума Беларускага аддзялення УАСГНІЛ І. М. Нікітчанка дакументальна даказаў, што, пачынаючы з першага месяца пасля аварыі, вучоныя - аграрнікі падрыхтавалі шэраг вельмі канкрэтных (і, як паказаў час, у сваёй аснове правільных) прапаноў аб тым, як весці сельскую гаспадарку ў забруджаных раёнах, а самае галоўнае — забараніць вытворчасць сельскагаспадарчых прадуктаў на тых плошчах, дзе яны не могуць быць чыстымі. На жаль, большасць прапаноў не была ўлічана ЦК КПБ і ўрадам рэспублікі і засталася на паперы. Словы вучоных маглі чуць шматлікія тэлегледачы, бо сустрэча досыць падрабязна перадавалася па тэлебачанні 2 сакавіка.

Зараз мы шмат ведаем пра аварыю на Чарнобылі. Асабліва шмат публікацый і выступленняў было ў 1989 годзе. Нарэшце была адкрыта і надрукавана схема забруджаных радыенуклідамі тэрыторый. Досыць шырока адлюстроўвалася ў друку часта драматычная барацьба розных канцэпцый — так званай 35-бэрнай (Міністэрства аховы здароўя СССР) і беларускіх вучоных. Вядома і тая больш адкрытая і смелая палітыка, якую праводзіў апошнім часам наш урад па вырашэнні пытання ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. Асабліва задавальняе зварот да ўсіх краін свету аб дапамозе, які ці то з-за сціпласці, ці то сарамлівасці ўрада БССР затрымаўся амаль на чатыры гады.

Але неабходна ўспомніць яшчэ раз некаторыя моманты першых гадоў. Няўжо навука не мела ніякіх дадзеных аб аварыях такога тыпу? Зразумела, буйная аварыя такіх памераў здарылася ўпершыню. Але ж некалькі дзесяткаў гадоў да яе была чэлябінская, аб якой мы даведаліся толькі цяпер. А ў выніку яе было перaселена больш за 25 тысяч жыхароў значна менш населенай, чым Беларусь, Чэлябінскай вобласці. І дагэтуль стаіць там закрытая, без жыцця, забруджаная шматкіламетровая зона, падобная на «зону Сталкера» фантастаў Стругацкіх. У той час ахвяры выбуху паслухмяна перасяляліся з зоны, радуючыся, што яшчэ так добра абышлося і яны жывыя, а астатнія савецкія «вінцікі», усё больш набліжаючыся да сапраўдных манкуртаў, бадзёра будавалі сталінскі сацыялізм пад песню «Как хорошо в стране Советской жить...». Пра чэлябінскую аварыю ёсць важныя для нас матэрыялы, але яны дагэтуль закрытыя. Апрача таго, ёсць дадзеныя і па аварыях у іншых краінах. Таму матэрыялы ўсё ж былі і спецыялісты, у тым ліку савецкія і беларускія, іх ведалі.

Спачатку галоснасць аб нашай аварыі ішла па сцэнарыі, які быў і ў Чэлябінску, але яна напалохала суседзяў за мяжой — «розных там шведаў», і была парушана звыклая наша сістэма маўчання. Ды і вецер перабудовы ўжо досыць моцна задзьмуў. Давялося абвясціць. Але бадзёрасць мы, як заўсёды, не трацілі: ішлі на першамайскую дэманстрацыю, правялі ў Кіеве велагонку міру, адгулялі ў Брагіне футбольныя матчы, паказалі па тэлебачанні, як у забруджанай зоне мы «железным конем» (які ўздымае вялізнае воблака радыенукліднага пылу) «и посеем и вспашем», бачылі бесклапотны твар і чулі супакойны голас міністра аховы здароўя аб тым, што хвароб на Гомельшчыне стала значна менш... А «бяздушная імперыялістка» жалезная лэдзі Тэтчар у той час тэрмінова вывозіла дзесятак сваіх студэнтаў з Кіева, аб чым мы з пэўнай доляй сарказму паведамлялі па тэлебачанні і ў друку. Каб не было «панікі», мы рабілі выгляд, што ў нас усё нармальна. Маўчалі і адцягвалі ўвагу насельніцтва іншымі весткамі ад балючага. А ў суседняй Польшчы ў гэты час кожны дзень паведамлялі, у якім напрамку ішлі хмары, давалі парады аб тым, што трэба старацца не трапляць пад дождж, не пускаць дзетак на вуліцу, пайсці пад душ пасля вяртання дахаты і г. д.

В. Б. Несцярэнка — у той час дырэктар Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР — як спецыяліст першы зразумеў усе памеры бяды і таму адразу ж пачаў біць трывогу, непасрэдна званіў М. М. Слюнькову, пісаў у ЦК КПБ, даказваў неабходнасць тэрміновага адсялення людзей. Тое ж самае рабіў акадэмік М. А. Барысевіч — як прэзідэнт АН БССР. Я згодзен, што, відаць, не толькі гэта было прычынай адлучэння іх ад пасад. Але іх смелую грамадзянскую пазіцыю ў той час не перакрэсліць. Я вельмі добра памятаю, як прыблізна праз два тыдні пасля аварыі М. А. Барысевіч у суботу, нягледзячы на выхадны дзень, тэрмінова сабраў усіх дырэктараў інстытутаў АН БССР. Перад намі выступіў В. Б. Несцярэнка, які толькі што вярнуўся з Чарнобыля і тэрыторыі вакол яго, і падзяліўся сваімі ўражаннямі. Усхваляваным голасам, які некалькі разоў абрываўся ад падступаўшых слёз, ён расказваў нам аб жудасным становішчы, аб жыхарах, якія трапілі ў зону і якіх, на яго думку, тэрмінова трэба перасяляць. Прэзідэнт адзначыў, што рэспубліка ў бядзе і што нам усім неадкладна трэба прыняць усе намаганні, каб вывучыць становішча і дапамагчы нашаму народу. Мы адразу ж падрыхтавалі праграму работ і пачалі працаваць... Але жудасная сакрэтнасць і адсутнасць інфармацыі, якія перашкаджалі каардынацыі работ, бясконцыя абрыванні адпаведнымі ўстановамі ініцыятывы («не дапусціць панікі!», «пакладзеш партбілет!») рабілі нашы намаганні малаэфектыўнымі. Да свайго перавыбрання і ад'езду ў Маскву М. А. Барысевіч уважліва сачыў і кіраваў работамі АН БССР па чарнобыльскай тэматыцы. В. Б. Несцярэнка не адхіляўся зусім — пад яго кіраўніцтвам праводзілася радыяцыйная здымка, зроблены індывідуальны дазіметр «Сасна».

Больш практычныя ўкраінцы ўсчалі трывогу адразу, эвакуіравалі больш за 100 тысяч жыхароў, а ў нас, у беларусаў, усё было ціха... З так званай фармальна - бюракратычнай 30-кіламетровай зоны вывезлі 25 тысяч жыхароў беларускіх вёсак... Толькі пасля смелых выступленняў Алеся Адамовіча ў сродках масавай інфармацыі пачалі больш часта ўпамінаць і Беларусь. А зараз патрэбна перасяляць яшчэ звыш 100 тысяч жыхароў.

Трэба ўсвядоміць, што цалкам ліквідаваць (гэта значыць, прывесці тэрыторыі ў дааварыйны стан) вынікі катастрофы нам не ўдасца. Спатрэбяцца стагоддзі, каб пазбавіцца ад радыеактыўнага бруду. На жаль, да гэтага часу мы маем толькі самую агульную карціну распаўсюджання радыенуклідаў і то практычна гэта датычыць цэзію і часткова стронцыю. Была ж выкінута значная колькасць розных відаў элементаў —ад торыю да трансуранавых, — да якіх дадаліся так званыя «гарачыя часцінкі» і рэчывы, што прымяняліся пры тушэнні пажару (свінец, даламіты, барый, кальцый, магній і інш.). Усё гэта распаўсюджвалася не толькі ў залежнасці ад ветру, дажджу, але і ад геалагічнай будовы, ландшафтаў, гравітацыйных анамалій і г. д. На ўсё гэта зараз накладаецца міграцыя радыенуклідаў—як прыродная, так і тэхнагенная. Атрымалася вельмі вялікая стракатасць у іх распаўсюджанні. Таму неабходна зрабіць на ўсёй тэрыторыі рэспублікі дзяржаўную эколага-геахімічную здымку — як агульную (маштабу 1:200 000), так і дэталёвую, у гарадах і вёсках, каб дайсці з часам да кожнай хаты і да кожнага падвор'я. Такая здымка павінна ўлічваць і іншыя шкодныя рэчывы (свінец, нітраты і інш.), бо яны разам з радыенуклідамі павялічваюць небяспеку ўдвая. Трэба даць народу індывідуальныя дазіметры, прытым таннейшыя, чым па мяркуемай зараз папярэдняй цане. Прынамсі, гэта можна зрабіць у першую чаргу за кошт аднаго з віноўнікаў аварыі Мінатамэнерга, які ў дадатак яшчэ і прысвоіў 65 мільёнаў рублёў, сабраных савецкімі людзьмі на ліквідацыю чарнобыльскай бяды. Калі людзі будуць мець дазіметры, яны змогуць знайсці па ўсёй тэрыторыі Беларусі яшчэ многа новых небяспечных плям радыенуклiднага забруджвання. Кожны чалавек павінен ведаць, у якіх умовах ён жыве.

Многа канкрэтных важных прапаноў было зроблена вучонымі на нядаўняй выязной сесіі Прэзідыума АН БССР у Магілёве. Яны дапаўняюць раней прынятую Вярхоўным Саветам БССР праграму, якую трэба выконваць, не чакаючы згоды Масквы і ператварэння яе ў агульнасаюзную праграму. Адно другому не перашкаджае. Трэба не шукаць вінаватых, а спяшацца ратаваць людзей.

ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЕМ

# Пра дом і падмурак

Як бібліёграфа па адукацыі, г. зн. як чалавека, так ці інакш звязанага з літаратурна-крытычнай дзейнасцю, мяне заўсёды дзівіла здольнасць асобных нашых крытыкаў пісаць цэлыя старонкі і развароты «пра ўсё і ні пра што» і спрытна абыходзіць тую адзіную задачу, дзеля якое, на маю думку, і існуе крытыка — гэта знаходзіць у літаратурным моры арыгінальны, цікавы, з мастацкага і з гістарычнага боку каштоўны твор і старацца так пра яго напісаць, каб звярнуць увагу нешматлікіх беларускіх чытачоў.

Я бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што летась у беларускай прозе з'явіўся сапраўды мастацкі твор, які абавязана была б заўважыць і справядліва ацаніць «сур'ёзная» крытыка. Ён называецца «Свой дом», частка 1 «БНР» («Маладосць», 1989, № 1), аўтар Генрых Далідовіч.

За выключэннем «Вячэрняга Мінска», дзе В. Козіч у кароткім аглядзе змагла «разабраць» цэлую трылогію — «Гаспадаркамень», «Пабуджаныя» і «Свой дом», і аднаго абзаца ў «ЛіМе», дзе Т. Грамадчанка піша, што «Свой дом» мог бы стаць адкрыццём, калі б з'явіўся трохі раней, — нідзе больш ніякай згадкі ў друку мне ўбачыць не давялося. Тады я сам, і як чытач, і як бібліёграф, вырашыў напісаць гэты водгук, з адзінаю мэтаю: каб на тое, што спадабалася мне, звярнулі ўвагу чытачы.

У нашай літаратуры быў ужо феномен Караткевіча, які праз выдумку, праз прыгодніцка-фантастычнае ў сваіх творах прымусіў значную частку маладых беларусаў палюбіць гісторыю, паверыць нават у тое, чаго ў большасці выпадкаў не было і не магло быць. Але тут можна спрачацца, як той казаў, да трэціх пеўняў: ці Караткевічавы раманы выклікалі гэтую новую хвалю нацыянальнай свядомасці, ці хваля ў сваёй «бурапеннасці» вынесла іх на грэбень вядомасці?

Выхад «Свайго дома», сапраўды, падпаў на такі час, калі гэтая хваля не тое, каб збіралася адхлынуць, але не такая ўжо і «бурапенная», як чатыры-пяць гадоў таму. «Гісторыі замкаў» і «дзікія паляванні каралёў» любым цвярозадумным чалавекам успрымаюцца цяпер у лепшым выпадку як добрыя старыя казкі.

Чым больш мне будуць казаць пра магутнасць ранейшай Беларусі, тым больш мне будзе здавацца, што з мяне смяюцца. У такіх выпадках хочацца крыкнуць: «Годзе! Часы легендаў і казак прайшлі, пакінем іх беларускім дзеткам, а мне дайце што-небудзь больш праўдападобнае, бліжэйшае і па часе, і па духу».

Частка першая рамана «Свой дом» адлюстроўвае ніякі не «ўчарашні ўзровень нашых гістарычных ведаў», як піша Т. Грамадчанка. Гэта — першы ў афіцыйным беларускім друку раман, у якім БНР і БССР не супрацьпастаўляюцца, а паказваюцца ва ўзаемасувязі. Калі БССР — наш дом, дык БНР, несумненна, падмурак, і гэта ўдала, на канкрэтных фактах і па-мастацку даказана пісьменнікам. Дзея адбываецца ў вельмі важны і крытычны для гісторыі Беларусі час. Вось як ацэньвае яго аўтар вуснамі аднаго са сваіх герояў: «Як вы ведаеце, бальшавікі і немцы заключылі мір у Бярэсці... Савецкі ўрад, Ленін дабіліся часу для перадышкі. Мы з вамі не ведаем, колькі будуць гэтыя адмысловыя заручыны, стануць на ногі бальшавікі ці не, але адно мы бачым, адчуваем сваёй скурай добра: як і якой цаной заключаны гэты хаўрус. Каб дабіцца яго, бальшавікі пайшлі на агромністыя страты. Для нас, беларусаў, асабліва жахліва, што Масква і намі, братамі, славянамі, заткнула кайзеру рот, кінула чатыры пятых нашых зямель яму пад ногі на глум і грабеж... Такім чынам, ніхто пра Беларусь не думаў і не думае, ніхто не клапоціцца, мы сіроты, уніжаныя і зняважаныя, ахвяры чыіхсьці «вышэйшых інтарэсаў»...

Другі герой рамана, Лашковіч, вось як тлумачыць непазбежнасць «спажыць свой пакуль што адзіны шанец»: «Што да нашай арыентацыі на Маскву ці Берлін, давайце пра гэта вельмі не ўпамінаць. Сам час расставіць усе акцэнты. А тое, што і ў Маскве, і ў Берліне будзе на языку, у вушах «Беларуская Народная Рэспубліка», то ўжо і гэты звон павінен саслужыць сваё. Урэшце, прывучыць да нас».

Як вядома з гісторыі, пачуты Масквою звон гэты для стварэння Беларускай Рэспублікі саслужыў вельмі многа. Я не чытаў пакуль ніводнага беларускага рамана, у якім так званыя нацыяналісты мелі б станоўчыя рысы. Гэтае нязменнае літаратурнае «табу» ў творы Г. Далідовіча ўпершыню парушана.

Вядома, што за шмат якімі з герояў рамана стаяць канкрэтныя прататыпы: Лашковіч — Ластоўскі і, мабыць, Лёсік; Аўторак — Серада; Баравік — Грыб; Скураны — Скірмунт; Еўзікаў — Езавітаў; Ян і Антон Лапкінскія — Іван і Антон Луцкевічы; Нядоля — Гарун і г. д. Як бачым, гэта ўсе тыя «здраднікі», якія пасля ўцёку з Мінска «законнае ўлады» адзіныя асталіся ў горадзе, са сваім народам, тыя самыя «здраднікі», якія пазней, у 1925 годзе, амаль усе вернуцца з замежжа, паверыўшы амністыі — вернуцца, каб працаваць і жыць са сваім народам, служыць яму.

Упершыню ў афіцыйным друку, арганічна ўпісваючыся ў змест рамана, падаюцца тры Устаўныя Граматы да народа Беларусі. І чытач можа зробіць выснову, што Граматы не нясуць у сабе анічога ні здрадніцкага, ні крамольнага.

Аднак, нягледзячы на аб'ектыўную, амаль дакументальную гістарычнасць, «Свой дом» перадусім — твор мастацкі. Дарма, што тут мала знешніх дзеянняў — кампенсацыя ідзе за кошт выдатна будаваных дыялогаў, унутранай насычанасці, драматызму становішча невялікай кучкі людзей, пастаўленых гісторыяй у экстрэмальныя ўмовы.

Пластычная і жывая мова Г. Далідовіча ў рэдкіх месцах прымушае «спатыкнуцца», напрыклад, аб такое: «...Скураны... адразу ж паслаў пакаёвага па калегаў па іхняму яшчэ і цяпер падпольнаму Мінскаму народнаму прадстаўніцтву». І наступны сказ: **«Пасля,** калі прыйшлі акрыялы **пасля** радыкуліту генерал Петрыкевіч...» Але, зрэшты, калі К. Федзін, перачытваючы Талстога, захацеў перарабіць адзін сказ у граматычна-правільны, — вядома, у яго нічога не атрымалася.

Не зусім па-беларуску будзе ўсюднае «канечне» ў значэнні «вядома», альбо часціна «то» ў значэнні «дык» і інш. Усё гэта мне асабіста бачыцца выдаткамі неўнармаванай па сённяшні дзень мовы, калі пісьменнікі прымушаны кіравацца не правіламі граматыкі, а ўласным густам.

Згадайма і больш істотны недахоп, пра які пісала В. Козіч, — да прыкладу, псіхалагічнага плана. Ён тычыцца вярбоўкі Ландэрам Васількевіча, Нямкевіча і Нядолі, якія, як вядома яшчэ з «Пабуджаных», далі слова не змагацца супраць мясцовай Савецкай улады. Перад сваімі ўцёкамі Ландэр вярбуе іх «для разведкі і для падпольнай работы». Агульнымі словамі ён дакляруе, што калі хто і паможа беларусам, дык

*Чытаючы часопісы*

# Ман, Золатаў і іншыя

У чарговы раз да падзей Вялікай Айчыннай вайны звярнуўся Іван Шамякін — часопіс «Маладосць» у двух сёлетніх нумарах апублікаваў яго новую аповесць «Ахвяры». Пісьменнік зноў — каторы раз — выяўляе сябе першапраходцам. Аповесць «Ахвяры» — расказ пра тое, як молах сталінізму не абышоў і лёсаў тых, што са зброяй у руках абаранялі Радзіму.

Тэма гэтая трагічная і балючая. Ды сталася так, што доўгі час пісьменнікі не маглі да яе падступіцца: спрацоўваў механізм недазволенасці, архіўных сакрэтаў. Між тым, баяздольнасць краіны падарвалі не толькі масавыя рэпрэсіі 1937—1941 гадоў. Падазронасць, варагаманія рабілі сваю справу і ў час вайны. Берыеўцы расфарміроўвалі цэлыя часці, якім удавалася выйсці з акружэння, расстрэльвалі без суда і следства кожнага, у кім бачылі ворага (Пра гэта, дарэчы, І. Шамякін гаварыў у «ЛіМе» 8 верасня 1989 года ў прадмове да ўрыўка з «Ахвяраў»). Асабліва ж нашкодзілі берыеўцы партызанскаму руху і, найперш, падполлю. Падпольшчыкі і так вымушаны былі праяўляць звышасцярожнасць. А тут яшчэ дырэктывы аб пільнасці, жорсткія ўказанні супрацоўнікаў НКУС партызанскаму кіраўніцтву. Фашысты не маглі гэтага не ведаць і ўмела працавалі на энкэвэдзісцкі апарат. Не толькі засылалі шпіёнаў і дыверсантаў, але рабілі «ворагамі» і саміх падпольшчыкаў, партызан. Пасля раптоўных арыштаў, аблаў некаторых з іх нечакана выпускалі, ствараючы тым самым такія сітуацыі, у праўдападобнасць якіх сапраўды цяжка было паверыць.

Падзеі аповесці адбываюцца пад Мінскам, у адным з атрадаў, які ўзначальвае былы дырэктар спіртзавода Аляксей Іванавіч Ман. Пісьменнік не малюе яго героем. Наадварот, у Мане як быццам нічога геройскага. І. Шамякін свядома «зазямляе» яго, сцвярджаючы, што барацьбу з ворагам вялі не нейкія звышлюдзі, а тыя, хто часта ў паўсядзённым жыцці не надта кідаўся ў вочы. Уласна кажучы, і не Ман ён, а... Манюк. «Але калі служыў у пачатку дваццатых гадоў у Чырвонай Арміі і неяк, у адказ на чыёсьці запытанне растлумачыў сэнс слова Манюк, камісар, латыш, інтэрнацыяналіст, аматар нямецкай літаратуры, у арыгінале чытаў, параіў скараціць немілагучнае беларускае слова, са значным сэнсам. Так і запісалі, у той час армія з'яўлялася заканадаўцам, партбілет выпісалі на Мана». Аляксея Іванавіча гэта не надта турбавала. Наканаванасць лёсу таксама як быццам лёгка перажыў: толькі «другая палавіна трыццаць сёмага і першая трыццаць восьмага выпадала з яго біяграфіі. Выхаваў дзвюх дачок і сына, які змагаецца з ворагам недзе на Поўначы. Праз гады Аляксей Іванавіч не растраціў жыццялюбства, аптымізму, захаваў своеасаблівую сялянскую хватку, якая дапамагае яму знаходзіць выйсце з самага, здавалася б, безвыходнага становішча.

Па-сялянску мудрым, разважлівым бачаць свайго камандзіра і байцы. З павагай ставяцца да яго і камісар атрада Ігар Кіпень і начальнік штаба Брагінскі — былы кадравы ваенны, капітан, цяжка паранены пры абароне Мінска і ўратаваны намаганнямі падпольшчыкаў.

Дарэчы, пра тое, як Брагінскі трапіў у атрад Мана,— цэлая гісторыя.

Аляксей Іванавіч кінуў вока на Брагінскага, калі ўбачыў яго ў атрадзе свайго сябра Дзядзюлі. Убачыў і пазайздросціў: спадабаўся капітан, які загадваў збройнай майстэрняй. Для зайздрасці была і іншая прычына: «у Дзядзюлі — трэць атрада акружэнцы. А ў Мана — ніводнага, усе мясцовыя хлопцы, некаторыя служылі ў арміі, толькі двое ці трое дараслі да камандзіраў аддзяленняў, не вышэй». Але не такі Дзядзюля, каб аддаць баявога камандзіра. Толькі ж і Ман не лыкам шыты: «вытаргаваў» Брагінскага за... тры пуды сала.

Вайна многае перайначвала ва ўзаемаадносінах між людзьмі, адначасова многае і спісвала, дыктуючы свае ўмовы і законы. Але ніякімі ўмовамі, ніякімі абставінамі нельга апраўдаць смерць нявінных людзей, здраду, маладушша. Мана ж з гэтаю купляй-продажам, як і Дзядзюля, зразумець можна. Аляксей Іванавіч пра атрад думаў, рупіўся аб тым, каб зрабіць яго як мага больш баяздольным. З думкай пра сваіх байцоў ішоў на такі абмен і Дзядзюля: у Мана з харчам лепей, значыць, можа падзяліцца за ласку — даць яму ваеннага спецыяліста.

Пісьменнік не абмінае і такой праўды вайны. Яна не прыніжае чалавека, а, наадварот, узвышае яго. Ман, Дзядзюля ішлі на магчымае і немагчымае, дазволенае і недазволенае, бо наперадзе ў іх была галоўная і вялікая мэта — барацьба з ворагам.

У аповесці як быццам свядома здымаецца арэол рамантычнасці з партызанскай барацьбы, тым самым знікае і стэрэатып, да якога многія прывыклі. Партызанскі рух, на жаль, не мінула і такая ганебная з'ява, як спроба спецорганаў трымаць яго пад сваім каўпаком, умешвацца ў справы камандзіраў не толькі тады, калі гэтага вымагалі абставіны ці задачы, але і без падстаў на гэта, што відаць і на прыкладзе атрада Мана.

Аўтар пераканаўча паказвае, што з'ява гэтая бярэ пачатак у трыццатых гадах. Золатаў, прысланы па заданні Цанавы для выканання важных спецзаданняў, і тут прытрымліваецца звыклых прынцыпаў, калі людзей хапалі нечакана і гэтаксама нечакана расстрэльвалі без суда і следства ці, у лепшым выпадку, адпраўлялі за краты, у ссылку. Галоўнае для Золатава — зламаць волю чалавека, паставіць яго на калені. Дзеля гэтага неабходна неабмежаваная ўлада. Вось і спрабуе ён узяць у свае рукі атрад. Ды людзі давяраюць Ману. Золатаў вымушаны адступіць, затаіўшы на Мана звярыную злосць. Інакш і быць не магло: «Якаў Міхайлавіч ненавідзеў псіхалагічныя тонкасці, людзей ненавідзеў, якіх цяжка «раскусіць», расшчапіць на клеткі. А ён жа таксама лічыў сябе псіхолагам». Пакрысе і выкрывае І. Шамякін «псіхалагізм» аднаго з прывадных рамянёў сталінска - берыеўска-цанаўскай машыны, якія і ў ваенныя часы, прымітыўна разумеючы задачы барацьбы з ворагам, нарабілі столькі зла.

Як наладзіў сваю работу ў атрадзе Золатаў? Замест таго, каб самому з групай накіравацца ў Мінск, ён аціраецца ў атрадзе Мана. Ён баіцца рызыкаваць, баіцца за ўласнае жыццё. А факты для перадачы ў Маскву патрэбны, яшчэ як патрэбны. Толькі дзеля чаго? «Толькі б мець факты. А там ён дасць такую інфармацыю, якая дойдзе да самога Лаўрэнція Паўлавіча, а ў таго даволі ўлады, каб прымусіць Панамарэнку навесці парадак у атрадах і лічыцца з прадстаўнікамі НКУС».

Пісьменнік расказвае, якім чынам гітлераўцам удалося не толькі знішчыць Мінскае камуністычнае падполле, якое дзейнічала ў горадзе з ліпеня 1941 года па верасень 1942-га, а і дыскрэдытаваць яго. На варожую правакацыю «клюнулі» і нашы спецслужбы. Ухапіўся за яе і Золатаў. Дык як і не ўхапіцца: група бяздзейнічае, а тут звесткі, што падполле арганізавалі самі немцы ў правакацыйных мэтах. Радыёграма Золатава спрацавала. З'явілася вядомая радыёграма П. Панамарэнкі, датаваная лістападам 1942 года. У ёй гаварылася, што «нямецкая разведка ў Мінску арганізавала падстаўны цэнтр партызанскага руху з мэтай выяўлення партызанскіх атрадаў, засылкі ў іх ад імя гэтага цэнтра здраднікаў, правакацыйных дырэктыў і ліквідацыі партызанскіх атрадаў», што, маўляў, фашысты стварылі чарговы такі ж правакацыйны цэнтр. І П. Панамарэнка загадваў: «у мэтах папярэджання пранікнення ў атрады варожай агентуры партызанскім атрадам з прадстаўнікамі якіх бы то ні было арганізацый з Мінска ў сувязь не ўступаць і ніякіх дадзеных аб дыслакацыі, колькасці, узбраенні і дзеяннях атрадаў не даваць».

Як заўсёды, І. Шамякін паўстае майстрам сюжэта. Асабліва востра разгортваецца лінія, звязаная са Стасем Шабовічам, смелым, адважным юнаком, які выконвае заданні падпольшчыкаў. Гэта пастаянна трымае чытача ў псіхалагічным напружанні. У думках спрабуеш па-свойму «пракруціць» тую ці іншую сітуацыю, паспрабаваць высветліць, а як павінен дзейнічаць хоць бы той самы Стась Шабовіч...

Не толькі драматычна, але трагічна развіваюцца падзеі ў аповесці. Золатаў, адчуваючы, што Ман усё ж не дазволіць яму вяршыць суд над Шабовічам, якому ён верыць, выкарыстоўвае адсутнасць камандзіра атрада. Забівае Стася метадам, апрабіраваным яшчэ ў мірных умовах — як быццам за аказанне супраціўлення. Паспрабуй, дакажы, што і як. Маўчыць лес, а людзі... таксама маўчаць будуць. Засумняваўся было Брагінскі, дык і яго... Самазабойства. Таксама, паспра-

«толькі вялікая Расія і справядлівая Савецкая ўлада». Васількевіч і Нямкевіч чамусьці вераць гэтым словам — чамусьці, бо аргументаў у Ландэра няма абсалютна ніякіх. Васількевіч кажа: «Мы будзем змагацца супраць акупанта і яго паслужлівых марыянетак», г. зн. супраць сваіх нядаўніх блізкіх сяброў і паплечнікаў, якія, да слова, марыянеткамі пакуль яшчэ проста ў часе не сталі, бо немцы ў Мінск не прыйшлі.

У адрозненне ад В. Козіч я ўпэўнены, што эпізоды вярбоўкі выпісаны такім, а не іншым чынам наўмысна, як адзін з мастацкіх прыёмаў, калі свядома за аснову бярэцца няправільны псіхалагічны тон, а менавіта: слабае перамагае моцнае. У прыведзеных вышэй выпадках слабае — гэта агульныя, «барабанныя» словы Ландэра і Крыніцкага, а моцнае — доказы Лашковіча, Скуранога, Лапніцкіх. І гэта супярэчыць і мастацкай, і ўвогуле ўсялякай логіцы, калі, вядома, Васількевіч, Нямкевіч і Нядоля — шчырыя і разумныя людзі, якімі і выводзіў іх пісьменнік, а не запраграмаваныя робаты. Тым больш, калі ведаеш, што пад Нядоляю паказаны Алесь Гарун.

На маю думку, такім мастацкім прыёмам пісьменнік самым дакладным чынам перадае атмасферу тых гадоў — калі цвярозая, разумная логіка падчас нічога не вартая, калі ўладарыць логіка барабанных, бяздумных слоў. І пры пэўных абставінах гіпнатызм ідэі настолькі можа здацца вабным сваёй уяўнай прастатою і яснасцю, што сотні разумнейшых людзей авечкамі пабрыдуць за фанатычнымі «пастухамі»...

**А. ФЕДАРЭНКА.**

**буй дакажы. Разумее ўсё Ман. Але разумее і тое, што супраць Золатава ён бяссільны.**

**Значыць, даравацць смерць Шабовіча, Брагінскага? Не можа ён даравацць. Тады дзе выйсце? І. Шамякін «падказаў» Аляксею Іванавічу адзіна магчымае. Калі Ман разам з Золатавым паехалі ў вёску забіраць Аксану, па дарозе назад Іван Аляксеевіч раптам звярнуў з бальшака. З усяго разгону падводы ўляцелі ў вёску, дзе былі паліцэйскія. Для пэўнасці камандзір атрада «выхапіў з кішэні пісталет і стрэліў у бок школы, прытармазіўшы трохі коней».**

**Тое, што адбылося далей, магчыма толькі ў дэтэктыўным творы, але, тым не менш, успрымаеш як верагоднае, бо яно стасуецца з манаўскай безаглядаасцю, адпавядае яго «партызанству» ў лепшым значэнні гэтага слова. «Выскачылі з будынка паліцаі, трое, з вінтоўкамі. Кулі ціўкнулі над санямі. Золатаў стаў на калені, павярнуўся тварам назад, выхапіў пісталет і стрэліў у далёкіх ужо паліцэйскіх. Стрэліў тройчы.**

**І раптам Ман таксама паваліўся побач з Аксанай, перакуліўся на спіну і... моцна ўдарыў Золатава ў спіну. Той перакуліўся цераз нізкі задок саней. Узнімаліся на новы круты ўзгорак, і Золатаў пакаціўся па слізкай дарозе ўніз, пісталет яго паляцеў убок».**

**Ды ўсё ж памыліўся Ман: людзі, падобныя Золатаву, умеюць выкруціцца. Энкэвэдэшнік досыць хутка знайшоў сабе новых гаспадароў. Як адбываўся гэты пераход Золатава на службу да немцаў, мы не ведаем. Толькі ці так важна гэта? Галоўнае, што пісьменнік таленавіта сцвердзіў: чалавек, выхаваны па законах подласці, застанецца подлым. Прозвішча ў чалавека не тое? Як сказаць. Сапраўды ўжо, Золатаў дык Золатаў, большага падлюкі пашукаць — не знойдзеш...**

**Аповесць «Ахвяры» І. Шамякіна, як і «Аблава» В. Быкава, «лагерная проза» С. Грахоўскага, П. Пруднікава, А. Кавалёва і іншых, пашырае наша ўяўленне пра час, калі над усім і ўсімі вісела «жалезная рука», паказвае, да чаго гэта прывяло.**

**НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.**

**Секцыя крытыкі СП БССР, якая звычайна выносіць на абмеркаванне пытанні агульнага характару, на гэты раз адышла ад традыцыі і абмеркавала творчасць маладога паэта Анатоля Сыса. Гаворка ішла ў асноўным пра кнігу «Пан Лес», што выйшла летась і мела чытацкі рэзананс. З выступленняў удзельнікаў пасяджэння, іх ацэнак, назіранняў, развагі і заўваг (мы друкуем скарочаныя стэнаграмы) складваецца як бы калектыўная рэцэнзія. Яе і прапануем увазе чытачоў «ЛіМа».**

# «Каб не змялела дадзенае...»

**С. КАВАЛЁЎ.** Вельмі добра, што секцыя крытыкі і літаратуразнаўства вырашыла прысвяціць сённяшняе пасяджэнне разгляду творчасці не чарговага лаўрэата або юбіляра, а маладога паэта. Анатоль Сыс з'явіўся на даляглядзе беларускай літаратуры ў 1986 годзе, у 1988 выдаў у «Бібліятэцы «Маладосць» свой першы зборнік вершаў.. Чалавечая неардынарнасць, эксцэнтрычнасць і артыстызм А. Сыса спрыяюць яго папулярнасці як паэта. Ніводзін «малады пісьменнік» не ўваходзіў, мабыць, так шпарка ў «дарослую літаратуру», як ён. Вялікую ролю адыграла і яго лідэрства ў суполцы «Тутэйшыя», якая ў тыя часы была адзіным парушальнікам спакою ў рэспубліцы.

Я разглядаў ужо зборнік «Агмень» у рэцэнзіі «За шыльдай поспеху», таму спынюся зараз на кнізе, што выйшла ў серыі «Першая кніга паэта», але па ліку аказалася другой, — на зборніку «Пан Лес». Паколькі большасць прысутных з'яўляецца прыхільнікамі творчасці А. Сыса, то засяроджу ўвагу на выдатках яго творчасці, на тым, што мяне не задавальняе ні як крытыка, ні як чытача.

На жаль, асабіста мяне «Пан Лес» у значнай ступені расчараваў. Уяўляўся ён мне куды лепшым і куды больш цэласным, мяркуючы па вершах «Маналог Апанаса Філіповіча», «Пацір», «Дух», «Пацеркі», «Кола», напісаных у асноўным у 1987 годзе і неаднойчы чытаных паэтам на розных вечарынах і пасяджэннях «Тутэйшых». Але новых, незнаёмых мне вершаў такога ўзроўню ў зборніку аказалася няшмат, затое шмат — нецікавых, прахадных, вучнёўскіх.

Чытаючы «Пан Лес», усё ж такі стамляешся ад незлічоных храмаў, крыжоў, прарокаў, ад бясконцых зваротаў да Бога хрысціянскага і паганскіх багоў, ад празмерна высокага «штылю». Заўважаецца відавочная тэматычная і вобразная замкнёнасць, абмежаванасць — магчыма, свядомая і зададзеная ўласнымі поглядамі паэта на свет і паэзію.

Эгацэнтрызм паэта, энергія яго лірычнага «я» не дапускаюць падчас у кнігу наша чытацкае «я», не нараджаюць суадчування, не запрашаюць да гутаркі. Складваецца ўражанне, што паэту і аднаму добра ў ім створаным свеце, што яму не патрэбен суразмоўца і суадчувальнік, а хіба толькі захоплены глядач, уражаны натоўп. Гэтым Сыс адрозніваецца ад усіх паэтаў свайго пакалення.

Зразумелае імкненне (і абавязак, магчыма) пісаць вершы на высокім узроўні («узроўні Сыса») прыводзіць да ўяўнай глыбакадумнасці, тэатральнасці, ненатуральнасці думак і пачуццяў («Браты», «Гэта памятае толькі маці...», «Натхненне», «Паэт», «Суд птушак», «Званы» і іншыя).

Падчас здзіўляе і слабая тэхніка вершаў. Возьмем, напрыклад, рыфмы: грахі — рукі, лён — дом, паэтам — рэкі, дзірван — храм і інш. Цяжка апраўдаць чымсьці з'яўленне падобных радкоў: «Узгалоўем да ўсходу сонца рэкі спяць...», дзе праз назоўнікі амаль немагчыма прабіцца да сэнсу.

Такім чынам, «Пан Лес» — нібы кілім, прыгожыя, майстэрскія ўзоры на якім чаргуюцца з прарэхамі і безгустоўнымі малюнкамі. І гэта заканамерна, бо шукаць, прагнуць вышыні — заўсёды цяжэй і небяспечней, таму кожны паэт мае права на пралікі і няўдачы. Але ў такім разе — права і абавязак крытыка знайсці і паказаць іх.

**І. ЧАРОТА.** Мне давялося быць выдавецкім рэцэнзентам кнігі «Пан Лес», і таму я ведаю яе добра. Але перш пра іншае. С. Сокалаў-Воюш, А. Мінкін, А. Глобус, А. Сыс — да кожнага з гэтых паэтаў у чытачоў і ў нас, крытыкаў, склалася сваё стаўленне. Сокалаў-Воюш — здольны, таленавіты чалавек, які найбольш працуе на аўдыторыю слухацкую. У Мінкіна паэзія «ад галавы», ад адукаванасці. Глобус прыкметна выяўляе імкненне да авангарду. У адрозненне ад іх, Сыс прыйшоў у паэзію з назапашаным вопытам — не з кніжак выцягнутым, а дадзеным ад бога. Я быў, памятаю, прыемна ўражаны рукапісам. Тут С. Кавалёў кінуў закід наконт лішку багоў. Гэты кірунак можна назваць міфалагізацыяй. У Сыса няма спекуляцыі на тэматыцы, а ёсць натуральнае выяўленне творчых схільнасцей.

У абодвух зборніках цяжка знайсці і дзесятак вершаў, напісаных у адной форме. Думаю, дэталь немалаважная. Безумоўна, перад намі асоба адораная, і я падзяляю той клопат, каб не знікла, не змялела дадзенае. Вось чаму трэба звярнуць увагу на новыя публікацыі — яны пакажуць нам кірунак руху паэта.

**М. БАРСТОК.** Я пагадзілася ў асноўным з ацэнкамі Сяргея Кавалёва. У кнізе мнагавата вершаў, цьмяных па сэнсу. Шмат незразумелых слоў, напрыклад, **карстагі, ройста, кастрага.** Чытаеш верш, як рэбусы, якія трэба разгадваць. Сярод іх «Апакаліпсіс», «Спаўзаючы з церня», «Чорная быль». Зашмат вершаў пра смерць. Прывяду такія радкі: «Ты натхніш мяне на смерць, чалавек, цяжарны богам». У адным з вершаў 12 разоў паўтараецца слова «слёзы». А ўвогуле пасля першай кнігі Л. Галубовіча гэта прыкметны выхад паэта да чытачоў.

**У. ГНІЛАМЁДАЎ.** Каб не зайсці нам у такі лес, з якога цяжка выбрацца... Крытыка без канцэпцыі паэзіі зразумець цяжка. Галоўнае, на мой погляд, пытанне, звернутае да кожнага з паэтаў: хто ты? Пра каго б хацеў расказаць? Што ўнёс новага ў нашу паэзію?

Згодзен з тым, што А. Сыс — цікавая з'ява ў нашай маладой паэзіі. Можна спадзявацца, што будзе плённы працяг, развіццё. Ужо першы верш з кнігі «Пан Лес» прымушае з увагай аднесціся да аўтара.

**Як святарны абраз,**
**людзі вынеслі маці з пажару,**
**Бы вужаку, маланку аддзёрлі**
**ад белых грудзей,**
**каб суцішыць пакуты —**
**паклалі пад цёмную хмару**
**і, каб смагу спатоліць,**
**размову вялі аб вадзе...**

Тут што важна? Ёсць нацыянальнае светаадчуванне. Непрыдуманыя падрабязнасці мяне хвалююць болей, чым пераўвасабленні.

З аднаго боку, у паэта — характар лідэра, ён эгацэнтрык, з другога заўважаецца няўменне раскрыць гэты характар. Зусім няма знешняй біяграфіі. Язычніцкі антураж, можа, і цікавы для моладзі, але мне перспектыўным такі шлях не здаецца.

**У. КОНАН.** Традыцыйная паэзія (не толькі беларуская, але славянская, еўрапейская, хрысціянская) паводле структуры паэтычнага думання — асацыятыўная. Паэт пільна ўзіраецца ў бясконцыя праявы быцця, шукае і знаходзіць там духоўны пачатак, выяўляе яго ў пластычных слоўных вобразах. Але нашае стагоддзе спарадзіла новы тып мастацтва, якое грунтуецца на вобразнай рэфлексіі адносна быцця. Кансерватыўным традыцыяналістам здаецца, што ўся «рэфлексійная» паэзія — другасная. Але гэта не так. Другаснасці і звычайнай банальнасці хапае ўсюды — і ў традыцыйных паэтаў, і ў наватараў, альбо, як казалі раней, у «мадэрністаў». А. Сыс паэт па сваім лёсе. Ён імкнецца стварыць новы, яшчэ небывалы паэтычны космас з элементаў пераасэнсаванай рэчаіснасці і духоўна перажытай культуры, пры гэтым спалучае абедзве плыні. Верш-уступ да зборніка «Неапаленая купіна» пачынаецца сімвалічнай прытчай (ці вершам у прозе), а канчаецца метрычным вершам урачыстага складу. У першай частцы «прачытваюцца» традыцыі «позняга» Алеся Разанава, у другой — рамантыка Уладзіміра Караткевіча.

Пры бясспрэчнай самабытнасці паэтычнага таленту А. Сыса ў яго кніжках ёсць відавочныя і схаваныя алюзіі на паэтычны свет папярэднікаў: М. Багдановіча, Янкі Купалы, Максіма Танка. Праз настаўнікаў Анатоль далучыўся да высокіх традыцый беларускай паэзіі. Не вонкавае перайманне настаўнікаў, а генетычная повязь, пераўвасабленне, адчуванне сябе звяном гісторыі народа, яго культуры, яго лёсу. Пераўвасабленне — норма мастака, а значыць, і паэта. Часам яно становіцца дэманстрацыяй сваёй пазіцыі, свайго светабачання. Паэт хоча, каб у ім бачылі вогнепаклонніка, язычніка. Аднак ён больш хрысціянін, чым яму здаецца.

**Т. ЧАБАН.** С. Кавалёў падкрэсліў адзіноту А. Сыса як паэта: яму не патрэбен суразмоўца, добры сябар. Мне думаецца, гэта таму, што ён укаранёны ў род — у яго ёсць маці, бацька, Радзіма, зямля, пан Лес. Ён ідзе ад праасноў. Назіраецца дзіўнае спалучэнне духу славянскага Пана і нашага лесуна. Тое, што мы называем міфалагізмам, ёсць і ў М. Шэлехава, але там больш этнаграфізму, а тут ёсць адраджэнцкая мэта. Сёння працэс адраджэння трагічны, ён пачынаецца не з уваскрасення, а са здзірання калек са слоў, адраджэння паняццяў. Паэтычныя сімвалы сталі паэтызмамі. Свет як ваўкалак — ён двоіцца, абарочваецца падманам. Агонь таксама жывы і падманны, раса штучная (так называецца адзін з вершаў)... Двоістасць кнігі светапоглядная, яна ад двоістасці свету. Сапраўдныя — гэта ваўкалак, гадзюка, груган, яны не прытвараюцца. Наўкола — зганьбаванне і падмена святынь.

**І сталі дружна, шчыра,**
**шчыльна,**
**як на касьбе ці на сяўбе,**
**паэт сказаў: п'ём за Айчыну!**
**І кожны выпіў за сябе...**
**(«ПАЦІР»).**

«І адратуе свет стыхія», — піша паэт. Але каб стварыць космас з хаосу, утаймаваць стыхію — патрэбна майстэрства. Небяспечна ва ўсім давярацца імпульсу. У кнізе «Пан Лес» ёсць узвінчанасць, самапаўторы і нават банальнасці тыпу «Жыццё вялікая мана». Лічу, што «Агмень», выдадзены «Бібліятэкай «Маладосці» быў тактычнай памылкай. Раннія вершы ў нас звычайна выдаюць у выбраным.

**М. МУШЫНСКІ.** Адпрацаваная, акадэмічная стылістыка не заўсёды можа падыходзіць да кніг маладых аўтараў. Я асабіста з вялікай радасцю чытаў і першую, і другую кнігу Сыса. Што кідаецца ў вочы? Тое, што паэт творыць сваю рэальнасць. Ён адчувае небяспеку ўяўнай паэтычнасці, «паэзы», свядома ідзе цяжкім шляхам тварэння, пераадолення слова.

**Н. ПАШКЕВІЧ.** Я адчуваў супярэчлівыя пачуцці, чытаючы маладосцеўскую кнігу Сыса. «Пан Лес», аднак, мяне абнадзеіў больш. Кніга істотна адрозніваецца ад першай, да яе цягне, яе хочацца зняць з паліцы і перачытаць. Калі вызначаць аблічча паэта, яго ўнутраны стан, трэба сказаць, што тут сышліся пачуццёвая стыхія і жаданне ўзняцца на інтэлектуальны ўзровень у пазнанні свету. Вабіць працэс пазнання, занатаваны аўтарам, яго няўрымслівасць, незаспакоенасць. Пры ўсёй раскудлачанасці паэтычнай прычоскі, вершы яго падабаюцца больш, чым прыгладжаныя, прылізаныя ў некаторых нашых паэтаў і паэтэс.

**Г. ШУПЕНЬКА.** Сумненняў ніякіх няма: Анатоль Сыс — паэт. У большасці яго вершаў поўная адпаведнасць малюнка і пачуцця. Але калі не ўпадаць у эйфарыю ў ацэнках, то ўсё ж трэба думаць пра дакладнасць слова. «Калдыбалася труна на плячах сыноў і ўнукаў...» Што гэта? Дзе такое існуе? Ці паэт, які ўзнаўляе язычніцкія звычаі, не ведае спрадвечных рытуалаў? Скажам прама: ёсць яшчэ над чым працаваць.

**Д. БУГАЁЎ.** Прымаючы экзамены ў студэнтаў, я высветліў, што А. Сыс на філфаку аказаўся самым папулярным з паэтаў. Яго імя ведалі і тыя, хто не прэтэндаваў на пяцёрку. Думаю, гэта невыпадкова. Паэт ён сучасны, смелы, бунтоўны. Бо калі паэт у маладосці не бунтуе, то з яго наўрад ці што атрымаецца. У кнізе «Пан Лес» моцна гучаць патрыятычныя матывы, ёсць навізна, сучаснае адчуванне тэмы. Адраджэнцкія матывы гучаць у яго трагічна, і ў гэтым таксама адметнасць паэта. Успомніце «Маналог Алеся Гаруна»:

**Я — тут! Я шугаю полымем!**
**Праз боль я з сябе бяру**
**каменні рукамі голымі**
**і гэткім, як сам, дару.**

**Дай бог, каб маё каменне**
**Жар-птахам дайсці змагло**
**да тысячных пакаленняў**
**і сэрцы іх апякло!**

А. Сыс абвострана ўспрымае слова, мову, долю паэта, самаахвярнасць паэта. Ён эксперыментатар, а гэта нашай паэзіі надзвычай патрэбна. У свой час «Гвалт над формай» Грамыкі сучаснікі высмеялі, не зразумелі. Добра, што ёсць прадаўжальнікі...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**



●

Пустазеллем скрозь буяе ніва,
Ну, а поле — вокам не абняць.
Дзеячы застойнага разліву
Заклікаюць добра працаваць.

А ужо ж як шчыра працавалі,
Дружна пралівалі пот і кроў —
Будучае наша набліжалі.
Дык здароў жа, светлае,
здароў!

Што глядзіш і крыва,
і з папрокам?
Па указцы ўяўнай праваты
Мы ішлі такім бадзёрым крокам,
Так рашуча.
Толькі не туды.

На шляху калдобіны і звівы,
Старт далёка,
фініш не відаць...
Дзеячы застойнага разліву
Угары няўстойліва сядзяць...

●

Што ёсць страта
і што ёсць драма?
Нам няпроста адказы шукаць.
Дзе калісь узвышаліся храмы,
Там сілосныя вежы стаяць.

## Выстаўка

Відовішча: мастак каля карцін.
І не адзін, вядома, не адзін...

Знаёмыя, калегі і радня
Усведамляюць урачыстасць дня.

У прадчуванні шчодрага стала
Шчадрэюць камплімент і пахвала.

А на карцінах, дробных і вялізных,
Усё, што мы назвалі рэалізмам.

Тут будзень гераічны наш і шэры
Смакуецца без усялякай меры.

Абветраныя твары, краявіды
Напісаны старанна, самавіта,
Сяброўак распаўнелыя ўжо станы
Упэўненай рукой адлюстраваны.

Ды раптам між карцін мільгне
такая —
Някідкая, жывая, трапяткая, —

Што ты даруеш гэтыя паўзалы,
Дзе праўда, мусіць, і не начавала.

## Півоня

Півоня паволі пялёсткі губляла,
Пакорна сваёй пазбаўлялася плоці.
Сваё адцвітанне яна сустракала,
Што каву — ужо ацяжэлыя госці.

Ўсё мае канец.
То не намі, не намі
Прыдумана, сцверджана.
Мы — спадкаемцы
Тых ісцін, што люд здабываў пісягамі,
Крывавымі, страшнымі, —
проста на сэрцах.

**Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК**

# ПСІХ

## АМАЛЬ НЕВЕРАГОДНАЯ ГІСТОРЫЯ



Калі ўжо не пашанцуе, дык кругом. Атрымаўшы адмоўны адказ з самай высокай інстанцыі, на якую была апошняя надзея, Віктар, высокі, спартыўны, са знешнасцю, прыцягальнай для жанчын, перачытаў пісьмо некалькі разоў. З афіцыйнага бланка з прыгожымі літарамі зрабіў самалёцік, запускаў яго, гойсаў па пакоі, як хлапчук. Паглядзеўшы на люстру, знайшоў моцны шнур, зрабіў пятлю, накінуў на шыю. Падсунуўшы стол да люстры, залез на яго. Замацаваўшы другі канец шнура за кручок, на якім трымалася люстра, скокнуў. Люстра адарвалася разам з кручком, упала на падлогу разам з Віктарам. Убеглі суседзі, усё зразумелі. Выклікалі міліцыю. Як і належыць у такіх выпадках, Віктара адвезлі ў псіхіятрычную бальніцу.

Дэпрэсія, знясіленне нервовай сістэмы — вызначылі ўрачы. Першыя дні ён бестурботна спаў пад уздзеяннем медыкаментаў. Потым пачаў прыглядацца да суседзяў. У палаце іх было чацвёра. Двое былі яўныя шызафрэнікі. Адзін, літаратар, які захапіўся выкрыццём сталінізму, бачыў галюцынацыі, нечакана сярод ночы рагатаў: «Перастаньце, Іосіф Вісарыёнавіч! Я баюся козыту!». Другі, маўклівы, палахліва скідваў з адзення ўяўных насякомых. Але ў трэцяга, Сымона, худога старога, гадоў сямідзесяці, з сівой барадой і вальтэраўскім профілем, Віктар не знайшоў ніякіх псіхічных расстройстваў. Ён быў ветлівы, настроены дабрадушна, ставіўся да Віктара са спагадай. І аднойчы Віктар па просьбе старога расказаў сваю гісторыю.

Яшчэ тры гады таму Віктар Асокін быў на кані. Спецыяліст па дарожным пакрыцці, загадваў лабараторыяй навукова-даследчага інстытута. Быў кандыдатам тэхнічных навук, аўтарам сотні публікацый і некалькіх дзесяткаў аўтарскіх пасведчанняў. З адходаў хімічных прадпрыемстваў (у прыватнасці, лаўсанавых, гідролізных — такіх адходаў горы, ніхто не ведае, куды іх падзець) ён прапанаваў спосаб будаўніцтва дарожнага пакрыцця — моцнага, надзейнага, таннага і нават рознага колеру. Ён гаварыў, што цвёрдыя дарогі з адходаў пойдуць не толькі да кожнай вёсачкі — да кожнай фермы. Аднак супраць яго планаў паўстала Міністэрства дарожнага будаўніцтва рэспублікі на чале з усемагутным міністрам Шадрыпавым. Справа ў тым, што міністэрству нявыгадна будаваць танныя дарогі і яно зрабіла ўсё, каб скампраметаваць ідэю Віктара. Але вынаходца быў моцным арэшкам. Пісаў у высокія інстанцыі, стукаўся ў дубовыя дзверы. Скончылася тым, што яго ідэя была адхілена (маўляў, дарожнае пакрыццё атрымліваецца таксічным, што было, вядома, няпраўдай), лабараторыя перапрафіліравана, а сам Асокін застаўся без работы. Ён не толькі не атрымаў належачыя яму дваццаць тысяч рублёў за эканамічны эфект ад укаранення аднаго са сваіх вынаходстваў (белы пластык для падзяляльных палос), але і само гэта вынаходства было ануліравана, маўляў, матэрыялы аб ім Віктар заўчасна абнародаваў у друку. Судовую справу ён прайграў. Вопытныя юрысты, якіх павучаў Шадрыпаў, дарма хлеб не елі. Віктар не здаваўся. Пісаў, званіў, патрабаваў аб'ектыўных камісій і экспертыз. Сустракаўся са спецкарамі «Правды», «Известий», «Социндустрии». Азнаёміўшыся з відавочнай выгадай яго прапаноў, журналісты гаварылі: «Як? І гэта да гэтага часу не ўкаранёна?! Мы вам дапаможам! Не сумнявайцеся!» Але калі даведваліся, што ў ЦК супраць, іх запал астываў. Пасля адной публікацыі за мяжой з далёкай Японіі прыйшоў ліст: «Згодны супрацоўнічаць на вашых умовах». Калі Віктар паказаў гэта загадчыку аддзела ЦК па навуцы, той сказаў: «А хто вас прымушае адказваць?». Нягледзячы на гэта, Віктар напісаў на англійскай тэкст у Японію, дзе выказаў станоўчыя адносіны да прапановы бізнесменаў. Як жа яму было прыкра, калі тыдні праз тры ліст вярнуўся як няправільна аформлены. Ён парваў яго і больш гэтым не займаўся. Не вытрымаўшы, яго пакінула жонка, забраўшы з сабою дзіця: «Я выходзіла замуж за нармальнага інжынера, а не за генія!».

Выслухаўшы, стары ўсміхнуўся: «Правільна зрабілі чыноўнікі!» — «Правільна?!» — «Рана нам добрыя дарогі. Разбіваемся на кепскіх, а дай скорасныя... — Паглядзеўшы на пахмурнелага Віктара, усміхнуўся: — Ведаеш, у чым твая бяда? Ты вельмі сур'ёзна ставішся да жыцця! Калі фартуна павярнулася да цябе добранькай попкай, пра што думае сапраўдны мужчына? Як зняць з яе штанцы і... дабіцца ўзаемнасці». Ён дадаў яшчэ некалькі фраз, якія не перакладаюцца на замежныя мовы. Віктар здзівіўся: «Сямён, колькі табе гадоў?» — «Хіба я не гаварыў? Дзевяцьсот!» Так, гэты біблейскі стары быў мудры, быццам пражыў сотні гадоў. «Калі нельга змяніць сітуацыю, — павучаў ён Віктара, — трэба ставіцца да яе з гумарам». — «А калі не да гумару?» — «Тады ты сапраўды ненармальны. Чытаў усходніх філосафаў — індыйскіх, кітайскіх?» — «Не даводзілася». — «І ты хацеў скончыць самагубствам, не азнаёміўшыся з іх працамі?!» — «Сымон, чаму ты тут? Я не бачу ў цябе адхіленняў». — «Ведаеш, якая ў бухгалтара пенсія? А цэны? Калі грошы канчаюцца і стамляюся ад глупства жонак, я выкідваю які-небудзь фартэль і мяне прывозяць. Адпачываю, кайфую за кошт дзяржавы. Прыглядаюся да хворых, каб ведаць, што адмачыць у наступны раз. А што рабіць, калі ты затрымаўся ў гэтым жыцці?» — «Але чаму — сюды?» — «Мяркуеш, што вар'яты — толькі тут? Павер мне, за сценамі бальніцы іх больш. Інакш твае дарогі працягнуліся б па ўсёй краіне!».

Дзякуючы Сымону, Віктар хутка пайшоў на папраўку. Гэты мудры хітраваты сімулянт, часам грубаваты і цынічны, умеў узняць настрой, уздзейнічаў на яго дабратворна. «Ты лобам спрабаваў прабіць сцяну. А гэта шкодна для здароўя. Разумны чалавек знайшоў бы хітры шлях у абход».

«Асокін, да вас жонка», — сказала маладзенькая медсястра. Віктар засмуціўся: «Як вар'ят я магу не выходзіць?» — «Можаце, — усміхнулася медсястра, — але ўсё ж жонка...» Віктар выйшаў у дворык, убачыў расфарбаваную, модна апранутую палавіну, ад якой пахла парфумай, а ўбаку, за дрэвамі — машыну з яе пяшчотным сябрам. «Ты што мяне ганьбіш?!» — наляцела яна. Віктар падышоў да жонкі, паглядзеўшы па баках, ціха сказаў: «Заўтра ляцім на Марс! Не забудзь мясарубку». Падміргнуўшы, павярнуўся і пайшоў у палату. «Ах, так? — абурылася яна. — Разводжуся!».

Перад выпіскай пажылы ўрач спытаў: «Віктар Дзмітравіч, чаму вы не працуеце?» — «Калі б у вас адабралі медыцыну — пайшлі б у кухары?» Урач памаўчаў. «Хочаце добрую параду? Плюньце! У сорак гадоў не позна пачаць спачатку. Далей ад хіміі! Калі там верхаводзіць Шадрыпаў. Чым заняцца? Арганізуйце кааператыў! Нечаканы! З вашай энергіяй і разваротлівасцю... Падатрыце нос праціўнікам!»

«А чаму б не адкрыць справу?» — падумаў Віктар. На дачы прыяцеля пабудаваў вялікую цяпліцу, пачаў вырошчваць кветкі. У хляве завёў трусоў. Але, успомніўшы краты ў бальніцы, выпусціў звяркоў на радасць малышні і жах суседзяў.

Вечарам уключыў радыёпрыёмнік і, слухаючы нядобрыя галасы, піў. Раптам у галаву прыйшла нечаканая ідэя, засмяяўся: «Сымон, ты маеш рацыю!».

На наступны дзень рашуча ўвайшоў у гарвыканком: «Хачу ўзяць у арэнду... грамадскі туалет».

Трэба сказаць, што незадоўга да гэтага горад наведала нямецкая, з ФРГ, дэлегацыя. Прымалі гасцей шырока, але пасля вяртання дадому ў інтэрв'ю «Нямецкай хвалі» госці маляўніча распісалі стан нашых туалетаў: «Дзе б мы ні былі, калі ўзнікала неабходнасць, то паварочвалі аўтобус і імчалі да гасцініцы. Карыстацца іншымі туалетамі не маглі з-за бруду і смуроду». Быццам ніхто не слухае замежнае радыё, а навіну даведаліся ўсе. Гарадскія ўлады пакутліва шукалі выйсце са становішча. Тут якраз і з'явіўся Віктар з прапановай давесці гарадскія туалеты да еўрапейскага ўзроўню, зрабіўшы іх платнымі. «Як вы гэтага даб'ецеся?» — «Сакрэт фірмы. Магу толькі сказаць — прыбіральшчыца будзе атрымліваць, як міністр».

Даўно закончылася перадача «Да і пасля апоўначы», а бацькі горада ніяк не маглі вырашыць — аддаваць туалеты прыватніку, тым больш, кандыдату навук, ці не. Большасцю ў адзін голас рызыкнулі, агаварыўшы, што інваліды, удзельнікі вайны, ветэраны будуць карыстацца бясплатна. Улічылі, што ў горадзе стануць частымі замежныя госці — чакаецца будаўніцтва сумеснага прадпрыемства па перапрацоўцы скуры.

Даведаўшыся, што Асокін, парушальнік спакою, пераключыўся на мадэрнізацыю гарадскіх туалетаў, міністр Шадрыпаў з палёгкай усміхнуўся: «Па Фомцы шапка, па Ярэме каўпак!».

Віктар разгарнуў бурную дзейнасць. Адшукаў Сымона і ўгаварыў старога стаць бухгалтарам кааператыву. Узяў буйную пазыку. Заказаў моднае сантэхабсталяванне, знайшоў абліцовачную плітку з пяшчотным малюнкам, сімпатычныя імпартныя свяцільні. У гарадскім туалеце загучала меладычная музыка, пачалі працаваць азанатары і кандыцыянеры. Ля ўвахода з'явілася зручная мэбля, столікі з газетамі і часопісамі. Знайшлося месца аптэчнаму кіёску, дзе прадаваліся таксама настоі і адвары гаючых траў пры страўнікавых захворваннях. Ахапіў работай не толькі самазабойцаў-няўдачнікаў, з кім пазнаёміўся ў бальніцы, але і шызафрэнікаў, ціхіх і маўклівых.

Было ўрачыстае адкрыццё з прамовамі, аркестрам, пераразаннем стужачкі. Здымалі аператары тэлебачання, вечарам праграма «Час» удзяліла гэтай падзеі сюжэт.

Невычарпальны на фантазію Віктар працягваў пошукі. Для аматараў маляваць на сценах устанавіў у кабінах грыфельныя дошкі, вынікам чаго з'явілася першая гарадская выстава эратычнага малюнка, якая нарабіла шмат шуму. Побач з традыцыйнымі тэкстамі («Тут быў Косцік», «Жора + Надзя») з'явіліся лозунгі і палітычнага характару, што адлюстроўвала агульныя працэсы дэмакратызацыі ва ўмовах абмежаванай галоснасці. Гэта напалохала ўлады. Яны загадалі міліцыі канфіскаваць «размнажальную тэхніку» з кабін, як у пратаколе былі названы грыфельныя дошкі.

*Музыка*



# ЖЫВЕ Ў ДУШЫ ДАБРЫНЯ

**Штрыхі да партрэта народнай артысткі БССР І. ШЫКУНОВАЙ**

У ГЭТЫЯ дні ў ніжнім фае Дзяржаўнага тэатра оперы і балета разгорнута цудоўная фотавыстаўка, прысвечаная юбілейнай даце салісткі оперы, народнай артысткі БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Ірыны Шыкуновай. Раней мне здавалася, што пра Ірыну Сямёнаўну я ведаю амаль усё, бо разам з ёю мы вучыліся ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, спявалі — спачатку ў опернай студыі кансерваторыі ў студэнцкія гады, потым амаль 10 гадоў на сцэне ДАВТа, выступалі ў канцэртах, рабілі запісы на радыё, удзельнічалі ў тэлеперадачах. Але, прагледзеўшы ўсю выстаўку, я зразумеў, наколькі мала ведаю з таго, што зрабіла за 25 гадоў сваёй творчай працы яна — выдатная артыстка, майстар опернай сцэны, а наогул вельмі сціплая, добрая, з адкрытай душой да ўсіх, беларуская жанчына.

Гэта пра яе голас казаў італьянскі маэстра А. Мерліні: «У вас, сеньёра, bella voce. Яго дала прырода вашай радзімы».

Гэта яна выканала больш за 30 оперных партый-роляў, амаль кожная з якіх, асабліва ў нацыянальным рэпертуары, мае права ўвайсці ў скарбніцу нашай беларускай нацыянальнай музычнай культуры.

Гэта пра яе сцэнічныя вобразы пісала музыказнаўца І. Зубрыч: «...глыбока адчуваючая, непахісна веруючая ў высакароднасць чалавека Тацяна, упартая і свавольная Катарына, адданая ў сваім каханні Мікаэла, чароўная Сюзанна, гордая і помслівая Донна Анна, палкая і гарачая Нэда, не здатная адстаяць сваё каханне паэтычная Марфа, бясконца жаноцкая Мімі...»

Гэта пра яе сказана ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі»: «Стварыла шэраг яркіх, запамінальных вобразаў. Найбольш значныя партыі нацыянальнага рэпертуару: Юзэфа («Яснае світанне» А. Туранкова), Марфачка («Алеся» Я. Цікоцкага), Аксана («Калі ападае лісце» Ю. Семянякі), Клава («Сцежкаю жыцця» Г. Вагнера)... Аўгіння ў тэлефільме паводле оперы «У пушчах Палесся» А. Багатырова...»

Гэта яна садзейнічала поспеху оперы Д. Смольскага «Сівая легенда», стварыўшы вобраз Ірыны, за што ўпершыню ў оперным выканальніцтве Беларусі атрымала Дзяржаўную прэмію. Тое была падзея выключнага значэння для нашага музычна-тэатральнага мастацтва, свайго роду вяха на шматгадовым шляху развіцця нацыянальнага опернага жанру.

Гэта яна гастралявала амаль па ўсіх гарадах Беларусі, многіх гарадах нашай краіны, у ГДР, Польшчы, Фінляндыі, Францыі з нязменным поспехам.

Гэта яна... Так, многае зрабіла І. Шыкунова — пра што я ведаў, чуў, але пра што ў будзённай мітусні забыўся, а зараз, паглядзеўшы фотавыстаўку, згадаў. Добра, што ёсць юбілеі, калі мы можам неяк азірнуцца на пройдзены шлях, прыпыніцца хоць на хвілінку, успомніць, ацаніць, пагутарыць...

**— Ірына Сямёнаўна! Вы ведаеце, цяпер студэнты не заўсёды з павагай ставяцца да сваёй альма матэр — кансерваторыі, не толькі Беларускай, наогул, да свайго месца вучобы, да сваіх настаўнікаў. Ці ўспамінаеце вы гады сваёй вучобы, сваіх настаўнікаў?**

— Кансерваторыю наогул успамінаю з удзячнасцю, хоць у час вучобы не ўсё ў мяне было гладка. Але і тады я не адчайвалася, не злавалася на людзей, а шукала з імі кантактаў на глебе дабра і ўзаемаразумення. І пра сваіх настаўнікаў я таксама думаю з удзячнасцю. І не толькі пра непасрэднага педагога па спецыяльнасці І. Б. Масленікаву, па класе якой я скончыла кансерваторыю і якая дапамагла мне вырашыць шмат прафесійных праблем. Гэта і кіраўнікі опернай студыі — дырыжоры І. Гітгарц, Р. Рубінштэйн, рэжысёр Ю. Ужанцаў, і выкладчыкі музычных дысцыплін М. Мінянкова, А. Кашперава і многія іншыя. Кожны з іх у свой час дапамагаў мне, і я ім удзячная на ўсё жыццё.

Успамінаю я і сваіх настаўнікаў у «Ла Скала» — маэстра А. Мерліні і канцэртмайстра А. Пастарына. І хоць прабыла я ў Італіі не так многа часу, але памяць пра гэта захавалася ў мяне на ўсё жыццё.

**— Над чым вы там працавалі?**

— Як і ўсе стажоры, развучвала партыі з італьянскай опернай класікі. З маэстра Мерліні мы падрыхтавалі дзве партыі з опер Д. Вердзі: Віялету («Травіята») і Дэздэмону («Атэла»). Наогул жа, мы шмат займаліся ў класах, вучыліся і на спектаклях «Ла Скала», дзе ў той час спявалі сусветна вядомыя Н. Гяураў, Б. Нільсан, М. Фрэні, П. Капучылі, Д. Раймондзі, а дырыжыраваў К. Абада.

**— Ці давялося вам спяваць партыі Віялеты і Дэздэмоны ў нашым тэатры на італьянскай мове?**

— Не. Прыехаўшы дамоў, адразу перавучыла іх па-руску. На італьянскай мове яны, безумоўна, гучалі б лепш, але тут я думала і пра ансамбль, дзе ўсе мае партнёры спявалі па-руску, і пра слухачоў, якія не ведаюць італьянскай мовы.

**— Ірына Сямёнаўна, ці памятаеце вы першыя гады сваёй працы ў тэатры? Якія ў вас былі ўзаемаадносіны са старэйшымі калегамі? Ці ёсць розніца ва ўзаемаадносінах паміж моладдзю і вашым пакаленнем, цяпер ужо старэйшынамі тэатра, параўнальна з тым часам?**

— Безумоўна, я памятаю першыя гады сваёй працы ў тэатры. Адзін год я была стажоркай, і мне ўсе дапамагалі: дырыжоры І. Абраміс, Т. Каламійцава, рэжысёр Д. Смоліч і калегі на сцэне — С. Друкер, А. Генералаў, Т. Ніжнікава, В. Глушакоў, М. Пушкароў, В. Кірычэнка, В. Ганчарэнка. Яны давалі прафесійныя парады і нават сачылі за маёй вакальнай формай. Наогул, між салістаў былі цёплыя, добразычлівыя ўзаемаадносіны. Мы былі аднадумцамі. Менавіта гэтага бракуе цяпер. Яшчэ мне здаецца, што сённяшняя моладзь, якая толькі прыйшла ў тэатр, не ставіцца да майстроў сцэны з належнай павагай. Вельмі часта дазваляе сабе выказвацца надта рэзка на іх адрас, не маючы на тое прафесійнага права. Не магу гэтага сказаць пра ўсіх, не. Такія салісты, як Н. Руднева, Л. Крывёнак, І. Журко, А. Кеда, І. Шупеніч, не дазваляюць сабе такога. Але ж ёсць і тыя, хто хоча адразу сцвердзіць сябе. Як мне здаецца, ім не хапае ўнутранай культуры, самакрытычнасці.

**— А якія яшчэ праблемы тэатра вас хвалююць?**

— Лічу галоўнай праблемай тэатра рэпертуар і занятасць салістаў. Раней мы ставілі да шасці спектакляў на год. Якое гэта было шчасце! А цяпер ставім 1-2 — і гэта бяда для ўсіх, якая вынікае з, на жаль, кепскага стаўлення ў грамадстве да культуры наогул. Пра гэта ўжо гавораць адкрыта і на з'ездах народных дэпутатаў, і на сесіях Вярхоўнага Савета. Мастацтва і грошы, як геній і зладзейства, рэчы не сумяшчальныя. Гаспадарчы разлік і тэатр таксама не сумяшчаюцца. Тэатр без пэўнай датацыі існаваць не можа. Не хапае грошай на пастаноўкі, не заняты калектыў, няма творчага задавальнення, няма і творчага, і прафесійнага росту.

Тут яшчэ можна сказаць і пра гастролі. За апошнія 4-5 гадоў оперная трупа не выязджала на гастролі за межы Беларусі. Вядома, мы ў першую чаргу павінны абслугоўваць нашых слухачоў, але выезд у іншыя рэспублікі ці за мяжу стымуляваў бы таксама рост прафесійнага ўзроўню калектыву.

**— Дык, можа, оперная трупа ў нас слабая? Балет вось выязджае за мяжу амаль штогод і ўсюды — поспех...**

— На-добраму мы зайздросцім балету: там артысты маюць і творчае задавальненне, і

# ПСІХ

## АМАЛЬ НЕВЕРАГОДНАЯ ГІСТОРЫЯ

**(Пачатак на стар. 8—9).**

Зноў насалоджваўся — госць фірмы! — у трохпакаёвым нумары атэля «Хілтан» («карыстайцеся фруктамі, напіткамі — за ўсё заплачана»). Падхапіўся сярод ночы, пісаў формулы рэакцый да раніцы. З такім натхненнем ён даўно не працаваў. Потым прыняў душ.

У дзверы пастукала Акіка. «Добрай раніцы! Не разбудзіла?» — «Куды вы зніклі?» — спытаў Віктар. «Справы». — «Уначы?» — «Думаю, вы не сумавалі», — з прытоенай рэўнасцю сказала Акіка. «Вось і памыляецеся — мне вас так не ставала! Я спадзяваўся, што разам правядзём ноч», — сказаў ён, гледзячы на яе запытальна. «Для гэтага існуюць іншыя жанчыны», — яна паставіла на стол чамаданчык. «Што гэта?» — «Камп'ютэр». — «Навошта?» — «А як вы выкладзеце тэхналогіі? Хіба дома вы мадэліравалі без камп'ютэра?» — здзівілася Акіка. «Быў, вядома, — схлусіў Віктар, — але прасцейшы» — «Ён звяжа вас з любой бібліятэкай». Акіка настроіла камп'ютэр на голас Віктара, на рускую мову. «Дзень добры, — сказаў камп'ютэр механічным голасам. — Мяне завуць Гошам. Будзем працаваць разам. Гатовы выканаць усе вашы каманды». Віктар прапанаваў камп'ютэру простую хімічную рэакцыю. Той імгненна ўзнавіў яе ход на экране дысплея. Віктар даваў усё новыя і новыя заданні, ускладняючы, і камп'ютэр імгненна іх выконваў. Тады Віктар наўмысна дапусціў грубую памылку. Камп'ютэр указаў на гэта: «Умовы задачы дадзены няправільна». Віктар настойваў на сваім. Камп'ютэр сказаў: «Магчыма, вы стаміліся. Не жадаеце адпачыць?» Віктар і Акіка засмяяліся. «Даруй, Гоша, — сказаў ён, захапляючыся такой зручнай навінкай. — Гэта быў жарт». Выключыўшы камп'ютэр, нягучна спытаў у Акіка: «Не чуе?» — «Думаю, што не». — «Побач з ім я адчуваю сябе дурнем!..»

Віктар і Акіка дамовіліся сустрэцца пазней.

Бадзёры і жыццярадасны паехаў у наша пасольства, затым у гандлёвае прадстаўніцтва, лёгка ўзбег па прыступках. Усюды яго віталі, як героя.

Афармляючы дакументы, гаварылі пра спецыфіку Японіі. Віктар прамаўчаў, задуменна ўсміхнуўся. Супрацоўнік прадстаўніцтва, выпешчаны прыгажун Уюноў, запытальна паглядзеў. Віктар растлумачыў: «Я думаў, гейша — толькі для прыемнай размовы. Калі засталіся ўдвох, яна прапанавала... Але я адмовіўся». Уюноў ціха сказаў: «Ну і дурань. Калі такая фірма запрашае, то гарантуе тайну, здароўе і вышэйшы кайф! А гейшы за цябе адвалілі тысяч дзвесце ен». Віктар падцяў вусны.

Гаворачы аб мяркуемай здзелцы, Уюноў задаволена паціраў рукі: «Калі шчыра, такой шчодрасці ад капіталістаў не чакалі — грошыкі лічыць умеюць!» Віктар успомніў учарашні расказ дацэнта, які працуе па навуковым абмене і жыве на студэнцкую стыпендыю. «Дарэчы, колькі я атрымаю?» — запытаў Віктар. «За тэхналогіі — паўпрацэнта ад дагаворнай сумы. А зарплата — як ва ўсіх камандзіраваных. Калі б ты быў футбалістам, эстраднай зоркай...» — усміхнуўся Уюноў. «Мала». — «Ды ты што! Калі пачнуць будаваць дарогі па ўсім свеце — ого!» — «Трыццаць працэнтаў. У доларах». — «Што?! Ты не звар'яцеў? У нас не таргуюцца!» Віктар дастаў з кішэні амерыканскую газету, купленую напярэдадні, кінуў на стол. У ёй паведамлялася, што сын вядомага савецкага апаратчыка выклаў шэсць тысяч долараў за паляванне на бізонаў у нацыянальным парку. Другі сынок вядомага дзеяча ў казіно раздаваў чаявыя сотнямі. «Адкуль у іх валюта? Трыццаць!» — «Скажы дзякуй за гэта! Хто ты такі?» — «А ты хто такі!» — «Паслухай, імгненна шуганем дамоў! Пашлем такую цялегу — не адмыешся! Гейшы, разумееш... Камуніст?» — «Трыццаць працэнтаў! У доларах!» — «Ашалеў? За што?» — «За ўсё! За ўсіх! Чаму перашкаджалі, абкрадвалі! За хамства! Прыніжэнні! За звязаныя рукі!..» — «Прывёз бы кучу барахла! А можаш — увогуле нічога!» Віктар раптам зусім спакойна сказаў: «Кантракт я не падпішу». — «Зараз? Калі мы так стараемся наладзіць адносіны? Добра. Пагарачыліся. Я пазваню на радзіму».

Звязаліся з Масквой. Атрымалі адказ: «Не ствярайце прэцэдэнта, інакш любы вынаходца сядзе на галаву. Угаварыце!»

Але — хоць дзейнічалі і ўгаворамі, і пагрозамі — падпісаць кантракт Віктар адмовіўся. Выляцеў з Токіо са скандалам. У міжнародным аэрапорце стрыманыя японцы не маглі зразумець, з-за чаго сварацца ўзрушаныя рускія. «Буду з табой шчырым, — сказаў Уюноў. — Японцы заявілі: калі застанешся, яны гатовы падпісаць яшчэ два пагадненні, вельмі для нас важныя. Мы даўно іх дабіваліся! Ты ж патрыёт?» — «Выкручвайцеся самі!» Уюноў памаўчаў. «Хочаш падкласці свінню? А мы ў Маскве паведамім — убачыўшы ўзровень іх тэхналогій, спалохаўся... Ты ж здрэйфіў?» — «Рабіце, што хочаце», — Віктар накіраваўся да стойкі бара. «Добра, пачакай. Чорт з табой! Хоць намыляць шыю... Згодны на твае ўмовы». — «Позна». — «Адмаўляешся?! Ты сапраўды псіх!» Так, моцна насаліў! Цяпер чакай з Масквы непрыемнасцей. Жлоб! Асенізатар! Уявіў сябе Мендзялеевым!

Па радыётэлефоне выклікаў Акіка. Здзіўленая, прымчала ў аэрапорт. Ёй не ўдалося ўтаіць трывогі і хвалявання. «Віктар! Прэзідэнт кампаніі хоча тэрмінова сустрэцца з вамі!» — «Навошта?» — «Калі вас пераманьвае іншая фірма, ён згодны павялічыць ганарар». — «Акіка, справа не ў гэтым, — ён паклаў руку на яе пальцы. — Я павінен насаліць нашым бюракратам! Іншага выпадку не будзе!» — «З-за гэтага хочаце ахвяраваць сваім будучым?! Я праўду казала — у Расіі вайна працягваецца... А вы — камікадзе. Загіну сам, але ворагаў узарву... Віктар, чалавек павінен жыць спакойна, працаваць, а не ваяваць! Кахаць, расціць дзяцей...» Відаць, за гэтыя некалькі дзён іх адносіны змяніліся, пацяплелі, узнікла нешта большае, чым сяброўства. «Віктар, не ведаю, што са мной... Я ўжо не тая дзелавая жанчына, якой была раней... Вы жартуючы спыталі, ці магла б я выйсці за рускага... Сёння ў мяне іншы адказ». — «Вось як! І колькі вам абяцала фірма?» — «Я думала, вы разумнейшы», — адказала яна са слязьмі на вачах. «Даруйце». — «Віктар, вы настолькі ўражлівы, быццам з вас знялі скуру... Для вашай душы я ствару гаючыя ўмовы...» — «Не, Акіка». — «Віктар, злосць — дрэнны дарадчык. Такія справы нельга рашаць пад уплывам нянавісці! Застаньцеся!» — «Вы нават не ўяўляеце, як яны мне перашкаджалі... Усё жыццё!» — «Веру. Чыноўнікі атрымаюць вымову, адробяцца сполахам. А вы, таленавіты вучоны — зноў без любімай работы?» — яна раскрыла парасон.

Аб'явілі пасадку на Маскву.

«Застаньцеся, Віктар! Без вас тут пастаянна будзе ісці дождж...».

«Бывайце, Акіка, — ён яе пацалаваў. — Папрасіце за мяне прабачэння ў прэзідэнта», — і пакрочыў да самалёта.

Дома запіў. Убачыўшы гэта, жонка, якая вярнулася, — справы ў мужа пайшлі добра, можна і вярнуцца, — папрасіла старога знаёмага (з Віктарам яны працавалі ў лабараторыі) звадзіць яго

матэрыяльнае таксама. Многае залежыць, як мне здаецца, ад стаўлення да нас нашых кіраўнікоў. Наконт прафесійнага ўзроўню опернай трупы можна меркаваць паводле яе выступленняў на дэкадах і фестывалях, пра што ў прэсе заўсёды былі ў асноўным добрыя, а то і хвалебныя водгукі.

**— Ірына Сямёнаўна, з гэтага года вы пачалі выкладаць у кансерваторыі. Ці не было ў вас жадання заняцца педагагічнай працай раней, і, наогул, як вы да яе ставіцеся?**

— Мяне і раней запрашалі выкладаць, але я лічыла сябе яшчэ не гатовай да гэткай адказнай працы. Спачатку, на маю думку, трэба самой набыць неабходны вопыт і веды, каб было што перадаваць маладым. Некалькі гадоў я дапамагала стажорам у тэатры і адчула, што, напэўна, змагу пачаць педагагічную дзейнасць і на кафедры спеваў БДК. Да гэтага роду дзейнасці стаўлюся з вялікай адказнасцю. Ну, а пра тое, што ў мяне атрымаецца, будзе відаць па выніках маёй працы.

**— Ірына Сямёнаўна, задам вам і традыцыйнае пытанне: вашы творчыя планы?**

— Ведаеце, хоць я цяпер яшчэ і маю нядрэнную вакальную форму, але, што тут зробіш, у салістак-жанчын творчы век даволі кароткі. Мужчынам у гэтым сэнсе можна пазайздросціць — іх прафесійнае жыццё, не ў прыклад нашаму, значна даўжэйшае. Я яшчэ адчуваю ў сабе сілы і хацела б выканаць партыі Манон у оперы Д. Пучыні «Манон Леско» ці Адрыены Лекуўрэр у аднайменнай оперы Ф. Чылеа. Думаю, што знайшлася б для мяне яшчэ і партыя ў новай беларускай нацыянальнай оперы. Але... Але ўсё ж асноўнае ў будучым звязваю з педагагічнай дзейнасцю. Хацела б вучыць людзей не толькі прафесійным таямніцам, але, наогул, — дабру...

**Леанід ІВАШКОЎ.**

Фота Ул. КРУКА.

# Наш новы тэатр

## Развагі драматурга з нагоды адной ідэі

На базе Палаца Рэспублікі, што будуецца на Кастрычніцкай плошчы, мае быць адкрыты новы тэатр.

Цудоўная прапанова Міністэрства культуры. Пачнём з таго, што назавём, і не ўмоўна, гэтую ўстанову Новым Беларускім Тэатрам (НБТ). Чым не назва? Новы, бо ўзнікае ў новы час. Новы, значыцца, адраджэнцкі, а не «преобразованный» з нечага. Беларускі — сам сабе, каб ніхто ні з чым яго не блытаў. І няхай ён пад гэтай назвай жыве і канкурыруе з іншымі. Можа, ён іншыя і не зацьміць, але і ў канкурэнтаздольнасці яму адмаўляць падстаў няма. Можа, менавіта яму суджана набыць сваё нацыянальнае аблічча?..

На маю думку, мастацкі савет (як калектыўны орган тэатра па творчых пытаннях) павінен камплектавацца з творчых асоб, што працуюць у штаце, а таксама з ліку вядомых дзеячаў тэатра і пісьменніцкай грамадскасці. Пастаянныя рэжысёры ў штат не дапускаюцца. Яны запрашаюцца мастацкім кіраўніком тэатра са згоды мастацкага савета на паасобныя спектаклі.

Пажадана, каб пры НБТ пад кіраўніцтвам драматурга тэатра, або якога іншага аўтарытэтнага драматурга была створана студыя-школа маладых і пачынаючых драматургаў з ліку асоб, якія спрабуюць свае сілы ў літаратуры для тэатра. Пажадана, каб такая студыя была і для пачынаючых акцёраў (самадзейнікаў з народа). Яна б выяўляла народныя таленты для работы ў НБТ, садзейнічала б іх адбору для мэтавай падрыхтоўкі ў мінскім тэатральна - мастацкім інстытуце.

Рэпертуарная палітыка тэатра павінна базіравацца на беларускай драматургіі і інсцэніроўках найлепшых твораў беларускай прозы і паэзіі, якія паднімаюць і высвечваюць гістарычнае мінулае беларускага народа, яго трагічны і гераічны лёс, ставяць актуальныя праблемы жыцця нацыі ў сённяшніх умовах. Права вызначэння рэпертуару застаецца за мастацкім саветам.

Асабіста лічу, што ў першыя гады існавання НБТ мог бы здзейсніць рэтраспектыўны паказ беларускай драматургіі ад школьнай драмы XVIII стагоддзя праз усе яе этапы развіцця — да Макаёнка і Караткевіча. Гэта дало б магчымасць раскрыць вочы і абудзіць свядомасць гледача на тое, што ў нас была і ёсць гісторыя, была і ёсць драматургія нацыянальна адметная, ёсць нацыянальны тып беларуса са сваім абліччам, характарам, псіхічным складам і іншымі чалавечымі адзнакамі.

Калі ж гаварыць пра сацыяльную скіраванасць рэпертуару і сацыяльны заказ тэатра драматургам, то прадметам іх мастацкага даследавання маглі б стаць шмат якія падзеі, што вызначылі лёс нацыі на доўгія гады: напрыклад, у старажытным Полацку, у гісторыі Вялікага княства Літоўскага. (Адно «праяўленне» каралевы Боны ў нашым краі чаго варта!) Калі ўзяць больш раннія падзеі, скажам, эпоху Вітаўта, то яны невычарпальныя на тэмы, праблемы і сюжэты. Калі ж раскрываць нашу гісторыю праз яе герояў, то на сцэну маглі б выйсці Кірыла Тураўскі, Ефрасіння Полацкая, Усяслаў Чарадзей, Вітаўт, Канстанцін Астрожскі з яго барацьбой супраць татарскіх набегаў, Францыск Скарына, Мікалай Гусоўскі, Ян Вісліцкі, Васіль Цяпінскі, Казімір Лышчынскі — наш Джардана Бруна, Сімеон Полацкі — першы беларускі і рускі драматург і выхавацель юнага Пятра Вялікага. А тэма паўстанняў Вашчылы, Андрэя Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага? Праз веліч асобы толькі і можна паказаць веліч падзей, што зафіксавала гісторыя.

Зонай асобай увагі маглі б стаць падзеі ад Курлоўскага расстрэлу да ўтварэння Беларускай ССР. Наш гістарычна неінфармаваны глядач мог бы быць нечакана збянтэжаны і падобраму ўражаны гэтым. Толькі ўявіце сабе, якія фігуры паўстаюць перад намі ў гэтым звязку: Фрунзе, Жылуновіч, Тарашкевіч, Янка Купала, Чарвякоў, Прышчэпаў, а з другога боку Мяснікоў, Кнорын, Берман і ім падобныя «інтэрнацыяналісты».

Усе падзеі гісторыі і сучаснасці Беларусі вартыя мастацкага даследавання. І да ўсяго гэтага можна дайсці, калі зацікавіць пішучых і думаючых людзей перспектывай, накіроўваць іх спробы і пошукі, заахвочваць маральна і матэрыяльна. На станаўленне Новага Беларускага Тэатра спатрэбяцца гады, бо неабходна будзе стварыць яго цэнтрам беларускай нацыянальнай тэатральнай культуры, да якога пацягнуліся б і пісьменнікі, і мастакі, і рэжысёры, а галоўнае — гледачы.

Не думаю, што ўсё атрымаецца адразу. Будуць поспехі, будуць і няўдачы, якіх не трэба баяцца, ад якіх не трэба засмучацца. Ісці на любыя эксперыменты свядома і смела. Трымаць у рэпертуары толькі тое, што трымаецца гледачом. Усё няўдалае лічыць вучобай, трэніроўкай, эксперыментам, якія б падказвалі шлях драматургам, рэжысёрам, самому тэатру. Толькі так можна адрадзіць і даць прастору развіцця беларускай нацыянальнай драматургіі і яе тэатру. Толькі так можна вывесці на сцэну любую жыццёва важную праблему. Толькі пры такіх умовах на сцэну можа выйсці нацыянальны герой з адметным нацыянальным характарам, які ў нас заўсёды быў, ёсць і, спадзяюся, будзе...

І апошняе. Тэатр павінен быць на дзяржаўным утрыманні. Мастацтва патрабуе ахвяр. Разумныя дзяржаўныя дзеячы на гэтыя ахвяры заўсёды ішлі. Бо затраты на фарміраванне свядомасці грамадзян любой дзяржавы вярталіся з вялікім працэнтам неацэнных прыбыткаў.

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ.**

ў рэстаран і даведацца—ці не закахаўся?

«Што з табой?»—спытаў прыяцель, калі добра выпілі. «Саня, я тут не магу! Там — пылінкі здзьмухвалі! Містэр Асокін! Містэр Асокін! Вярнуўся—халодная абыякавасць, хамства кіраўнікоў... Задыхаюся!»—«Чаму не падпісаў?»—«Знарок! На злосць усім чыноўнікам!»—«Хіба справа ў іх? Механізм не працуе».—«Яны—і ёсць механізм!» — «Шадрыпаў робіць так не таму, што дрэнны—манапаліст! Калі б такіх фірм было некалькі, ён стаў бы перад табой на калені і маліў: «Віктар Дзмітравіч! Прадайце вашы вынаходніцтвы! Абыходзяць канкурэнты!» Пакуль жа спіць спакойна, дарогі могуць зусім не будавацца!—Памаўчаўшы, Саня прапанаваў: — Віктар, давай арганізуем дарожны кааператыў! У піку Шадрыпаву. Цяпер праб'ём!» Нечакана Віктар абазваў яго апошнімі словамі. Прыяцель сказаў: «Ты ж марыў ва ўсе вёскі правесці асфальт! А чым займаешся? Дзярмом!» — «Правільна. Усё жыццё я займаўся ім!»—«Што, каму ты даказаў?»—«Пайшоў ты!.. Яны мяне яшчэ пазнаюць!»—«Што ты зробіш — насыплеш солі на хвост?»—«Пабачыш!»

Кінуў піць. Сабраў супрацоўнікаў: «Ёсць палацы спорту, навукі, культуры. А чаму б не адгрукаць... наш палац?» З улікам замежнага вопыту пабудаваў некалькі раскошных устаноў, даўшы ім гучныя назвы—«Тадж Махал», «Альгамбра», «Банзай» (будынак ва ўсходнім стылі). Дзяўчаты ў кімано (пераможцы гарадскога конкурсу прыгажосці), загрыміраваныя пад японак, склаўшы рукі клінком, нізка кланяліся кожнаму, хто ўваходзіў: «Дзякуем вам, што наведалі нас». На пытанне правяраючага, ці не стамляюцца дзяўчаты за дзень, Віктар адказаў: «Я плачу столькі, што не стамляюцца». — «Навошта процьма туалетаў?!» — захваляваліся чыноўнікі. «Хоць чагосьці павінна быць удосталь!» Захапіўся перабудовай старых туалетаў. «Даеш перабудову!»—красаваліся транспаранты. Укараніў мноства дзіўных навінак. І народ паваліў валам. Выходзячы з кабіны, старэнькая сказала здымаўшаму аператару тэлебачання: «Я пражыла доўгае жыццё. Але не памятаю, каб мне калі-небудзь было так добра...». Пажылы мужчына сказаў са слязьмі на вачах: «Калі б такі туалет з'явіўся ў гады першых пяцігодак, сваё жыццё я пражыў бы інакш». Даваў інтэрв'ю тэлебачанню і Віктар: «Запоўніць паліцы магазінаў—архіскладаная задача! Калі не можам людзей накарміць, апрануць, абуць, пабудаваць добрае жыллё, дык хоць забяспечым іх сучаснымі санвузламі!» Уніклівыя журналісты пыталіся: «Чаму вы перасталі будаваць дарогі?»—«Мне заўсёды быў цікавы жывы чалавек! Яго духоўны свет! Тое, што кітайцы азначаюць іерогліфам «дэн». Рады, што спраўдзілася мая мара!»

Уладкавацца да яго на службу было не проста, асабліва вялікі конкурс быў у тыя ўстановы, куды наведваліся іншаземцы. «Што вас прываблівае ў гэтай рабоце?»—старанна экзаменаваў ён прэтэндэнта, кандыдата навук, які ведаў некалькі замежных моў. «Кантынгент. Буду прыкладаць намаганні па стварэнні агульнаеўрапейскага дома».—«Пахвальна».

У горадзе можна было пачуць свецкія размовы: «Учора з мужам былі ў «Брыстолі». Якая музыка!»—«А нашай сям'і больш падабаецца «Савой». Выстава маладых авангардыстаў фенаменальная!»—«Заўтра ў «Імперыяле» спявае Ала Пугачова. Але дзе дастаць білеты?»

«Ён здзекуецца з нас!—абураліся чыноўнікі. — Мордай ва унітаз!» Бацькі горада не маглі дараваць Віктару не толькі высокіх заробкаў, не толькі таго, што яго прадпрыемства было самым працвітаючым у эканоміцы горада, але і папулярнасці яго ўстаноў. Іх наведвалі больш ахвотна, чым палац прафсаюзаў і дом палітасветы. «Лепшае ў горадзе—туалеты!»—захапляліся іншаземцы, адзначаючы ўзросшую якасць жыцця насельніцтва.

Арганізаваў акцыянернае таварыства «Сарцір». Адкрыў філіялы ў іншых гарадах. «Віктар Дзмітравіч, звоняць са Смаленска—закрываюць гарадскі туалет, у якім патануў чалавек». — «Купляйце!» Рабіў заўвагу віцэ-прэзідэнту: «Мала думаеце аб прыбытку! Не працуеце над прыцягненнем новых кліентаў!» — «Неўраджайны год!»—апраўдваўся намеснік.

Арганізаваў продаж піва, хлебнага квасу і іншых напіткаў паблізу ад сваіх устаноў. Адкрываў дадатковыя ларкі «Сокі-воды» ў дні футбольных матчаў. Ахапіў паўднёвых людзей бесперабойным продажам кавуноў. І даходы рэзка падскочылі.

Некалькі разоў яго запрашалі на канферэнцыі і сімпозіумы за мяжу, але ён катэгарычна адмаўляўся ехаць, і ніхто не мог зразумець, чаму. «Баяцеся ляцець праз акіян?»—«Баюся вяртацца»,—прызнаваўся сябру.

Працоўны калектыў работнікаў камунальнай гаспадаркі вылучыў Віктара кандыдатам у народныя дэпутаты. «Мільянера—у Вярхоўны Савет?!—абурыліся ідэолагі.—Канец сацыялізму!»

Пайшлі чуткі, што за мяжой ён паступіў непатрыятычна: ці то прадаў нашы сакрэты, ці то завербаваўся японскім шпіёнам. З Токіо прыйшло пісьмо аб тым, што ночы праводзіў у завулках чырвоных ліхтароў. Не дараваў Уюноў! Значыць, добра нагарэла. Органы інфармавалі, што пасля разгону дэманстрацый у кабінах хаваюцца прадстаўнікі нефармалаў, што і сам Асокін прымае актыўны ўдзел у рабоце гэтага руху. Віктар прапаноўваў уладам сустрэцца з нефармаламі ў любой з яго ўстаноў і прыйсці да ўзаемаразумення, але ўлады ўпарта не ішлі на кантакт.

Пачалося цкаванне і ганенні ў друку. На яго ўстановы апалчыліся. Білі вокны, ламалі абсталяванне. Камісіі, праверкі былі адна за адной, узнікла версія пра крадзеныя будматэрыялы. Завялі крымінальную справу. Не давалі спакою рэкеціры. А тут яшчэ некалькі мнагадзетных сем'яў, якія доўгія гады безнадзейна стаялі ў чарзе на кватэры, у адчаі захапілі «Альгамбру», «Калізей», «Імперыял», забарыкадзіраваліся і пачалі жыць у кабінах.

Разумеючы, што спакойнае жыццё скончылася, аднойчы ўначы Віктар падпаліў свае ўстановы.

А потым Віктар узяў вядро з фарбай і на чорных міністэрскіх машынах пачаў маляваць белыя іерогліфы. Асабліва дасталося машыне міністра дарожнага будаўніцтва Шадрыпава—Віктар пазнаў яе па нумару.

У міліцыі яго доўга допытвалі, што азначаюць іерогліфы, ці не носяць злачынства палітычнага характару. Віктар маўчаў. Следчы па асабліва важных справах вызначыў, што адзін з найбольш часта паўтараемых іерогліфаў на машынах азначае жаночае імя Акіка. Паколькі на пытанні Віктар не адказваў і толькі насвістваў японскія мелодыі, яго адвезлі ў псіхіятрычную бальніцу.

Ашалелыя чыноўнікі патрабавалі, каб экспертыза прызнала Віктара здаровым, маўляў, яго трэба судзіць! Але ўрачы былі няўмольныя: «Гэта наш таварыш».

Наведаўшы яго, Сымон перадаў садавіну, пасяброўску сказаў: «Здольны вучань! У якой палаце?»—«У нашай, на тваім месцы». — «Вось як!»—«Калі трэба, уступлю».—«Што я—вар'ят! За гэты час зарабіў больш, чым за ўсё пенсійнае жыццё! Надоўга?»—«Пакуль не адбудуцца змены».

Стары здзіўлена свіснуў і працягнуў тоўстую зачытаную кнігу. «Што гэта?»—запытаўся Віктар. «Працы старажытных кітайскіх філосафаў. Ад іх ты даведаешся, у чым сэнс жыцця».—«На кітайскай мове?!»—здзівіўся Віктар. «У цябе будзе час авалодаць гэтай цудоўнай мовай і прачытаць філосафаў у арыгінале».

# Багушэвічавымі сцежкамі

Уладзімір СОДАЛЬ

## Мовы

Францішак Багушэвіч як ніхто да яго сказаў пра Беларусь і беларусаў. Нашу мову ён, як вядома, назваў спрадвечна бацькавай, святой, Богам нам дадзенай, такой жа панскай і людскай, як і іншыя мовы. І гэтыя вызначэнні ім не з неба ўзятыя. У іх шырокі еўрапейскі філалагічны фон, еўрапейскі кантэкст. Яны паўсталі ў нашага песняра з параўнання беларускай мовы з мовамі іншых народаў. А ў Багушэвіча было з чым яе параўноўваць. Ён ведаў, апрача роднасных моў, з прыроды яму блізкіх — польскай, рускай, украінскай — яшчэ і славянскую, чэшскую, нямецкую, французскую. Жывучы побач з літоўцамі і яўрэямі, не сумняваемся, ён меў уяўленне і пра мовы гэтых народаў. Менавіта з ведання ўсіх гэтых моў, з параўнання іх з беларускай і паўсталі ў Багушэвіча такія высокія вызначэнні нашай мове. Пра вытокі гэтых вызначэнняў, пра іх еўрапейскі фон павінен памятаць кожны беларус, разважаючы пра сваю мову. Гэта дапаможа даражыць родным словам, адчуваць яго самабытнасць, арганічнасць, разумець, што яно — жывая клетка ў вялікім жывым моўным арганізме народаў Еўропы.

●

У дзевятнаццатым стагоддзі веданне замежных моў лічылася непадзельным элементам агульнай культуры. У пераважнай сваёй большасці тагачасная інтэлігенцыя, ездзячы за мяжу, не мела патрэбы ў перакладчыках. Наш Францішак Багушэвіч не быў выключэннем з гэтага правіла. Яму таксама неаднойчы даводзілася ездзіць за мяжу. І вось які цікавы эпізод з гэтай нагоды данесла да нас гісторыя.

У 1896 годзе Францішак Багушэвіч наведаў Германію. У Дрэздэне яму выпала спаткацца з адным амерыканцам з Чыкага. Той не ведаў, што Багушэвіч з Вільні. Думаў, што ён немец, і пачаў з ім гаварыць па-нямецку. Багушэвіч таксама адказаў яму па-нямецку. Згадваючы гэтую размову, Багушэвіч пісаў: «Увесь час весела гаварылі, але ніхто з нас дасканала не разумеў — тады прыйшлі да вываду, што я ведаю англійскую мову, а ён польскую лепей, чым абодва нямецкую, і гаварылі мы кожны па-свойму, дапаўняючы выразы мімікамі».

## Якія мы дасведчаныя

Што Францішак Багушэвіч нарадзіўся ў Свіранах, было паведамлена ў 1900 годзе амаль ва ўсіх некралогах. Здавалася б, ніякага пытання не павінна паўставаць. Тым не менш, ва ўсёй нашай літаратуры аж да 1935 месцам нараджэння Фр. Багушэвіча называліся Кушляны. У 1935 годзе Ад. Станкевіч у сваёй кнізе «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» (Вільня) спецыяльна засяродзіў на гэтым увагу беларускай грамадскасці:

«Нарадзіўся Фр. Багушэвіч у 1840 годзе, але не ў Кушлянах Ашмянскага павета, як дагэтуль думалася, а ў Свіранах».

Аднак наша літаратуразнаўства і пасля гэтага працягвала называць месцам народзін Фр. Багушэвіча Кушляны. Спатрэбіцца яшчэ трэцяе «адкрыццё», трэці заход, каб увесці ў сталы літаратурны ўжытак назву Свіраны.

На гэты раз узяўся давесці справу да канца Сцяпан Александровіч.

У 1960 годзе ў кнізе «Старонкі братняй дружбы» ў артыкуле «Новае пра Ф. Багушэвіча» ён пісаў: «Да гэтага часу ў беларускім літаратуразнаўстве лічылася, што Ф. Багушэвіч нарадзіўся ў вёсцы Кушляны [...] Л. Узембла і Н. Роўба ў сваіх артыкулах адносна месца нараджэння беларускага паэта прыводзяць зусім новыя звесткі: радзімай Ф. Багушэвіча яны лічаць не Кушляны, а вёску Свіраны, якая знаходзіцца непадалёку ад Вільні».

Думка, што Кушляны — радзіма Францішка Багушэвіча настолькі ўвайшла ў свядомасць, што С. Александровіч, паведамляючы пра Свіраны, яшчэ і сам не можа даць гэтаму веры. Даследуючы гэты факт, ён асцярожнічае: «Можна было б браць пад сумненне верагоднасць гэтага сцвярджэння, — піша С. Александровіч у тым жа артыкуле «Новае пра Ф. Багушэвіча», — але справа ў тым, што адначасова розныя аўтары ў розных выданнях [...] пісалі пра Свіраны, як радзіму Ф. Багушэвіча. Трэба ўлічваць і той немалаважны факт, — развівае далей сваю думку С. Александровіч, — што адным з аўтараў артыкулаў пра беларускага паэта быў польскі літаратар і краязнаўца Напалеон Роўба, які не толькі быў асабіста знаёмы з Ф. Багушэвічам, але і сябраваў з ім... [...] Такія блізкія сяброўскія адносіны Н. Роўбы з Ф. Багушэвічам даюць падставу меркаваць, што ён ад самога паэта атрымаў дакладныя звесткі пра месца нараджэння беларускага пісьменніка.

Так вызначалася месца нараджэння Ф. Багушэвіча. Беларускаму літаратуразнаўству спатрэбілася амаль шэсцьдзесят гадоў, каб нарэшце раз і назаўсёды ў паэтавай біяграфіі замацавалася назва Свіраны. Пераканаяы, калі б кніга Ад. Станкевіча была даступная ўсім, то мы ўжо з 1935 года ў школьных хрэстаматыях і падручніках, у розных даведніках пазначалі б месцам нараджэння Багушэвіча Свіраны, а не Кушляны. Нам жа пасля гэтага адкрыцця, пасля ўвагі 1935 года, што Багушэвіч нарадзіўся не ў Кушлянах, а ў Свіранах, спатрэбілася яшчэ дваццаць пяць гадоў, каб адкрытае яшчэ раз адкрыць.

## З татараў...

Неяк аднаго разу паэтава ўнучка Станіслава Тамашэўская сказала, што Багушэвічы паходзяць з татараў. Вось даслоўнае яе паведамленне: «Продкі нашыя паходзяць з татараў, пасля неяк гэтак змяшалася з пакалення ў пакаленне» (З ліста С. Тамашэўскай за 18.І. 1977 г.)

Гэтае паведамленне было вялікай нечаканасцю. Але абнародаваць яго я не спяшаўся. Мала чаго маглі данесці сямейныя паданні і легенды!.. Але аднойчы, зусім выпадкова, зазірнуў у алфавітны паказальнік «Памятнай кнігі Гродзенскай губерні» за дзевяностыя гады мінулага стагоддзя — а ці няма там каго са сваякоў Багушэвіча, ці не закінуў каго лёс у гэты кут? І раптам знаходжу аж двойчы гэтае прозвішча. Праўда, па ініцыялах адразу адчуў, што не сваякі яны Францішку — у аднаго былі ініцыялы М. С., у другога А. А., але ўсё ж цікава, што гэта за Багушэвічы. Гляджу на пастаронкавыя зноскі, чытаю і дзіўлюся: першага звалі Мустафа Сулейманавіч Багушэвіч і служыў ён у Слонімскай саборнай мячэці, другі — Аўраам Аляксандравіч Багушэвіч, таксама магаметанскай веры, быў пісарам у Слонімскім аддзеле шляхетнай апекі.

## Пікантныя моманты

Францішак Багушэвіч за гады свае адвакацкае практыкі ў Віленскім акруговым судзе двойчы трапляў у даволі-такі складаныя псіхалагічныя сітуацыі.

...У 1893 годзе ў Вільні арыштавалі разам з усімі паперамі маладога беларускага паэта Адама Гурыновіча, аднаго з тых, каго менавіта Багушэвічавы творы абудзілі цікавасць да роднага слова, да беларускага прыгожага пісьменства. Памятаеце: «Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею. За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею...»

І вось не паспеў юнак як след разгарнуць свае крылы — і раптам — арышт. Арыштавалі на Пірамонцкім завулку, на сваёй кватэры, у чэрвені. Напачатку свой арышт Гурыновіч адбываў у чатырнаццатым будынку Віленскай цытадэлі. Тут жа вялося і следства, допыты.

Пра гэта ўсё, пэўна ж, чуў і ведаў Багушэвіч. Што ён думаў з гэтай нагоды? Што перажываў? Як пачуваўся? Ці даведаемся калі? Пад пагрозай жыццё яго вучня, яго паслядоўніка, які шчыра адгукнуўся на яго покліч ствараць беларускую літаратуру. Багушэвіч ходзіць побач, чуе і ведае, што робіцца вакол Гурыновіча, і бездапаможны хоць што-кольвек зрабіць. Хіба ж гэта не драма?

Здарэнне другое, не менш складанае і далікатнае.

У 1898 годзе на кватэры арганіста касцёла Усіх Святых Станіслава Грыжбоўскага — гэты касцёл недалёка ад дома, дзе кватараваў Ф. Багушэвіч, — пры вобыску судовым следчым Віленскага акруговага суда па асабліва важных справах былі знойдзены лісткі з вершам Ф. Багушэвіча «Свая зямля», надрукаваным на гектографе. У Віленскім акруговым судзе зноў узняўся вэрхал. Зноў крамола на беларускай мове!

Арганіста Грыжбоўскага арыштавалі. Пачалося следства. Высветлілася, што гэтыя лісткі з Багушэвічавым вершам пашыраў сярод сялянаў ксёндз Юр'еўскага касцёла Фрыдрых Жыскар яшчэ ў 1896 годзе. Безумоўна, святога айца тут жа арыштавалі. За пашырэнне антыўрадавых твораў ды яшчэ на беларускай мове яму пагражала судовая кара.

Усё гэта рабілася на вачах самога аўтара. Няцяжка ўявіць кожнага з нас на Багушэвічавым месцы. Але ён праяўляе вытрымку, волю. Не падае выгляду, што ўсё тое, што робіцца ў судзе вакол канфіскаваных твораў, мае нейкае дачыненне і да яго.

І толькі пасля смерці многія даведаліся, што віленскі адвакат Ф. Багушэвіч — якраз і ёсць аўтар усіх тых «злачынных» вершаў, якія выклікалі такую лютасць у чыноўнікаў, але рабіць што-кольвек было позна, заставалася толькі падзівіцца, як гэты чалавек змог гэтульні гадоў, ходзячы ў такой установе, як суд, пратрымаць у сакрэце **такую вялікую** таямніцу. А хмары над ім, як бачым, збіраліся не адзін раз.

## Віленскі зямельны банк

Гэтую ўстанову калісь ведала ўсё грамадзянства Віленшчыны. Дый не толькі Віленшчыны, але і Міншчыны. Тут жа вырашаліся лёсы многіх людзей. Адны з іх праз гэты банк зусім бяднелі, іншыя папраўлялі свае гаспадаркі, станавіліся заможнымі. Прыгадайма, як завітаў у гэтую ўстанову герой «Новай зямлі» дзядзька Антось (раздзел «Дзядзька ў Вільні»).

**У прасторнай, чыстай, светлай залі**
**Паны туды-сюды снавалі,**
**Развязна, моцна гаманілі,**
**Цыгары доўгія курылі,**
**А дзе каторы шарганецца,**
**Каля яго прыслужнік трэцца**
**І падае яму адзенне.**
**А сам — пакора і жычэнне;**
**. . . . . . . . . . . . .**
**Але й паны не ўсе тут роўны·**
**Адны з іх круглыя, як броўны,**
**Ідуць спаважна, ўперавалку;**
**Другія выпетрылі ў палку,**
**Адны трымаюць нос высока,**
**Другія ў дол спускаюць вока,**
**Апроч паноў у гэтай залі**
**І мужыкі ў кутках стаялі,**
**І людзі простага больш звання**
**Таўкліся ў банку ўжо ад рання.**

Такім убачыўся Віленскі зямельны банк дзядзьку Антосю на пачатку нашага стагоддзя.

Такім яго бачыў і Францішак Багушэвіч у канцы мінулага стагоддзя. Сюды яго прыводзілі самыя розныя справы і клопаты: і свае, і судовыя. Пра гэта мы даведаемся з Багушэвічавых лістоў да Яна Карловіча, а таксама з яго допісаў у часопіс «Край».

Між іншым, Віленскі зямельны банк месціўся на вуліцы Коннай, на той самай вуліцы, на якой жыў і Францішак Багушэвіч. А калі яшчэ быць больш дакладным, то гэты банк быў амаль побач з Багушэвічавай кватэрай.

Як сведчаць дакументы, ведаў дарогу да Віленскага зямельнага банка і яшчэ адзін беларус-гаротнік — пісьменнік Альгерд Абуховіч.

У снежні 1883 тут за даўгі назначаўся продаж яго маёнтка. Магчыма, праз нейкія клопаты ў гэтым банку Альгерд Абуховіч пазнаёміўся і з слынным жыхаром вуліцы Коннай Францішкам Багушэвічам. Ва ўсякім разе Альгерд Абуховіч ведаў віленскую паэтаву кватэру, яе адрас.

## Сымон Рэўка з-пад Барысава

Такім псеўданімам Францішак Багушэвіч падпісаў свой другі паэтычны зборнік «Дудка Беларуская». Даследчыкі Багушэвічавай творчасці даўно звярнулі ўвагу на геаграфічную назву ў паэтавым псеўданіме. Але прачытанне яго было пакуль што толькі такое, маўляў, гэтай назвай Багушэвіч хацеў паказаць свету: «Глядзіце, па-беларуску пішуць розныя людзі і з розных мясцін, з розных куткоў Беларусі, што аўтар «Дудкі Беларускай» — Мацей Бурачок — не адзіны».

І такое прачытанне пярэчанняў не выклікае. Яно правільнае. Але ці задумваўся хто з нас хоць калі, чаму паэт паставіў у свой псеўданім менавіта гэты геаграфічны арыенцір, — «З-пад Барысава», а не які-небудзь іншы, скажам: Сымон Рэўка з-пад Мазыра?

Адказ на гэтае пытанне часткова знаходзім у самога пісьменніка, у яго «Прадмове» да «Смыка Беларускага». Францішак Багушэвіч згадвае ў сваёй «Прадмове» працу вядомага этнографа і фалькларыста Яўстафа Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павету». Кніга гэтая выйшла ў 1847 годзе ў Вільні, і, як відаць, з прадмовы да «Смыка Беларускага», Багушэвіч яе ведаў, чытаў, яна яго ўразіла, запомнілася. Ведаў ён, як нядаўна высветлілася, і самога аўтара кнігі.

Студэнты Ф. Багушэвіч і Насенка. 1868 г., г. Нежын.

Знаёмства гэтае з вучоным ідзе з часу заснавання Віленскага музея старажытнасці (1856), якому Багушэвіч ахвяраваў шэраг каштоўных рэчаў, адным з заснавальнікаў гэтага музея быў, як вядома, ніхто іншы, як аўтар кнігі пра Барысаўскі павет Яўстаф Тышкевіч.

Грамадская і навуковая дзейнасць гэтага вучонага, яго шчырая зацікаўленасць гісторыяй беларускага краю, пэўна, і падштурхнулі пісьменніка паставіць у свой псеўданім назоў «З-пад Барысава». Думаецца, менавіта з павагі да асобы вучонага мы і маем гэты геаграфічны арыенцір у Багушэвічавым псеў-

даніме, тым больш, што гістарычная Барысаўшчына, Барысаўскі край разам з Лагойскам і Лагойшчынай, яшчэ і радзіма Яўстафа Тышкевіча.

●

Мы цяпер скрозь пішам, гаворым і друкуем: «Сымон Рэўка з-пад Барысава». Але чамусьці не звяртаем увагі, што на першым прыжыццёвым выданні «Смыка Беларускага» значыцца не Сымон, а «Szymon» (Шымон). У такім напісанні гэта імя і на першых паштоўках, прысвечаных Францішку Багушэвічу. Такое яго напісанне і пад прадмовай да «Смыка Беларускага». То як жа быць? Ці не парушаем мы тут аўтарскую волю? Ці лічым гэта за абмылку друку? Ці ўсё ж існуе і такая форма імя?

Раюся з нашымі атрапанімістамі. У «Слоўніку асабовых уласных імёнаў» (укладальнік М. Р. Суднік, Мінск, 1965) такая форма не значыцца. Але ў паўночна-заходніх гаворках Беларусі можна было калісь пачуць і Шымон і Шыман. Ёсць яна і ў польскай мове. Адсюль Шыманскі, Шымановіч. Значыцца, гэта ніякая не абмылка, а свядомы аўтарскі выбар.

Між іншым, паэтавы сучаснікі — яго біёграфы Напалеон Роўба і Люцыян Узембла — таксама гэтае імя ў Багушэвічавым псеўданіме перадавалі як Szymon», — у некралогах, напрыклад (1900).

Упершыню яго напісанне было парушана ў 1908 годзе пры падрыхтоўцы другога выдання «Смыка Беларускага» пецярбургскай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца».

На ім ужо маем «Symon».

З таго часу і пайшло напісанне гэтага імя ў такой форме — Сымон. Але ж не трэба забываць, што другое выданне — пра гэта сказана і на тытульным лісце — папраўленае, і мы не можам яго лічыць аўтарскім аўтэнтыкам. Для нас першакрыніцай «Смыка Беларускага» было і заўсёды будзе выданне 1894 года. А на ім двойчы маем напісанне гэтага імя як «Szymon». І тут як ні круціся, але ад напісанага, надрукаванага нікуды не адкруцішся. Тым не менш, пытанне застаецца: «То што будзем рабіць далей? Якога напісання будзем трымацца? Аўтарскага ці папраўленага?»

Мы ўсе, без выключэння, прызвычаіліся да формы «Сымон», якая, як нам здаецца, найболып адпавядае ладу беларускай мовы. Але ж на аўтарскім выданні чорным па белым выдрукавана — «Szymon».

## Беларуская, беларускі...

Пры жыцці Багушэвіч выдаў, як вядома, тры кніжачкі: «Дудка Беларуская», «Смык Беларускі», «Тралялёначка». Усяго ён меўся выдаць пяць. Дзве з іх — «Беларускія апавяданні Бурачка» і «Скрыпка Беларуская» не пабачылі свету.

Звяртае ўвагу, што ў назвах амаль усіх іх падкрэслена прысутнічае слова «беларускі, беларуская, беларускія»...

Імі Багушэвіч нібы настойліва падкрэсліваў, што ім стваралася не нейкая краёвая літаратура, але менавіта беларуская. Рабіў ён гэта не зважаючы ні на што, напорыста, пранікнёна, з надзеяй, што яго справу, яго пачыналнак падхопяць іншыя, маладзейшыя, яму невядомыя, што сваімі творамі, нават назвамі кніг ён абудзіць прыспаную свядомасць народа, дапамажа лепшым яго сынам усвядоміць сябе самімі, тымі, хто яны ёсць на самай справе, дапамажа вырвацца з атрафіраванага панаццва тутэйшых.

І Багушэвічавы кнігі зрабілі сваю справу. Яны спарадзілі Адама Гурыновіча, Альгерда Абуховіча, Каруся Каганца, Цётку, Ядвігіна Ш, Гальяша Леўчыка і шмат каго іншых, абудзілі народ да жыцця.

# ЛЕНІНГРАД:
# ЯК МАЕЦЕСЯ, БЕЛАРУСЫ?

**У рэдакцыі «ЛіМа» пабываў наш даўні (ажно з 60-х гадоў) карэспандэнт, гісторык Валянцін Грыцкевіч з Ленінграда. Ён адказаў на некаторыя пытанні супрацоўнікаў рэдакцыі газеты.**

**— Ці можаце вы штосьці расказаць пра грамадскае жыццё беларусаў у Ленінградзе? Па дадзеных апошняга перапісу іх там ці не 80 тысяч і яны знаходзяцца сярод жыхароў горада на трэцім месцы пасля рускіх і украінцаў.**

— Так, сапраўды, на трэцім месцы (у 30-я гады іх было толькі 30 тысяч). Улічваючы гэта, па вясне мінулага года кола асоб, зацікаўленых ва ўздыме беларускай свядомасці сярод беларусаў Ленінграда, стварыла Беларускае грамадскае культурнае таварыства ў Ленінградзе (скарочана БГКТ). Да яго далучылася яшчэ і Ленінградская суполка Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Рэгістраваць яе я і прыехаў у Мінск.

**— Які актыў БГКТ і суполкі ТБМ у Ленінградзе?**

— Каля 30-ці асоб. Пакуль, здаецца, няшмат, але гэта найбольш актыўныя аматары беларушчыны, якія адшукалі адзін другога. Ёсць у нас выкладчыкі ленінградскіх універсітэта і інстытута культуры, супрацоўнікі Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі і Музея этнаграфіі народаў СССР. Прыходзяць да нас інжынеры, рабочыя, студэнты, пенсіянеры і іншыя, нават ваеннаслужачыя тэрміновай службы.

**— Якія мэты ў БГКТ і ленінградскай суполкі ТБМ?**

— У першую чаргу — адраджэнне багатых культурных і навуковых традыцый горада на Няве. Здавён, ад заснавання яго, выхадцы з Беларусі ўносілі свой уклад у росквіт паўночнай сталіцы Расіі. Тут дзейнічалі такія выхадцы ці нашчадкі выхадцаў з Беларусі, як Кацярына І, «птушаняты гнязда Пятрова», святлейшы князь Меншыкаў, Шафіраў, Ягужынскі, — дарэчы, усе з самага пачатку існавання горада; тут падоўгу жылі магнаты з Беларусі, якія мелі свае палацы; працавалі тут і тыя беларусы, хто быў папрасцейшага паходжання: тут вучыліся браты Каліноўскія, Урублеўскі, іншыя будучыя ўдзельнікі паўстання 1863 года на Беларусі, тут навучаліся Цётка, Купала, А. Луцкевіч...

Асветніцкая, па традыцыі дэмакратычная місія і БГКТ, і філіі ТБМ у Ленінградзе заключаецца ў тым, каб лепей выявіць і ўдзел беларусаў у жыцці горада, прапагандаваць дасягненні беларускай культуры. Ёсць патрэба аб'яднаць усіх тых, каму дарагое і цікавае ўсё, што тычыцца жыцця Беларусі, а таксама прадоўжыць даўнія асветніцкія традыцыі даўнейшых беларускіх суполак у горадзе.

**— А што, і раней былі такія суполкі ў Ленінградзе?**

— Так, у дваццатыя гады тут дзейнічаў Беларускі клуб, выкладалася беларуская мова ў гуртках. Але з усімі нацыянальнымі клубамі, школамі, выданнямі на нацыянальных мовах было скончана ў трыццатыя гады.

**— Гэта ў Ленінградзе толькі «беларуская» тэндэнцыя аб'ядноўвацца?**

— Не. Гэта агульная тэндэнцыя розных этнасаў—у краіне і, у тым ліку, у нашым горадзе. Шмат людзей пачынае цікавіцца мінулым, сваімі каранямі, «адчуваць», як падкрэслівае акадэмік Д. С. Ліхачоў, «в нашем шатком мире стабильность, прочность, свое место и предназначение. И это же учит уважению к другим народам, другим культурам и одновременно самоуважению». Зразумела, мы гуртуемся і для лепшай узаемасувязі ўсіх нацыянальных культур на ленінградскай зямлі. Таварыства супрацоўнічае — і плануе супрацоўнічаць — з культурнымі дэмакратычнымі аб'яднаннямі, якія прадстаўляюць рускую, украінскую, літоўскую, армянскую, польскую, яўрэйскую, татарскую і іншыя культуры.

Вось вам прыклад. На першым жа пасяджэнні БГКТ выступаў у нас прафесійны камерны ансамбль усходнеславянскай музыкі пад кіраўніцтвам намесніка рады Украінскага культурнага таварыства кандыдата мастацтвазнаўства, члена Саюза кампазітараў Ігара Мацыеўскага.

Ансамбль выконваў беларускія песні ў зале Музея этнаграфіі, прысвечаным беларускай народнай культуры.

Падкрэсліваю, што вакол БГКТ аб'ядноўваюцца не проста беларусы па пашпарту, а прыхільнікі беларускай культуры, сярод іх памянёны Ігар Мацыеўскі, які стварыў кінастужку «Данчык» на «Беларусьфільме» і рускі археолаг Васіль Булкін, які вёў раскопкі Полацка, і украінскі журналіст Стэфан Шурко, і іншыя. Гэта наша прынцыповая пастава — аб'ядноўваць не па крыві, а па культуры.

**— Што ўжо зроблена сябрамі ленінградскіх БГКТ і ТБМ?**

— У актыве таварыстваў — арганізаваны ў верасні мінулага года (супольна з Украінскім культурным таварыствам) канцэрт Данчыка, паведамленні аб культурным жыцці Беларусі, аб грамадскім руху ў рэспубліцы, наладжванне сувязяў з Беларускім фондам культуры. І, зразумела, кантакты з іншымі беларускімі культурнымі таварыствамі па-за межамі рэспублікі (не кажучы ўжо пра сувязі з беларускімі суполкамі ў БССР). Сябры нашага таварыства на грамадскіх пачатках прачыталі некалькі лекцый па гісторыі краю ў Беларускім культурным таварыстве ў Таліне, якое ўзначальвае наш сябра Анатоль Лапышаў. Такія ж лекцыі нашы сябры прачыталі і ў Маскоўскім беларускім таварыстве. Выступалі яны і на чарговым Скарынаўскім семінары ў лістападзе мінулага года ў Інстытуце сусветнай літаратуры ў Маскве. З яго супрацоўнікам—старшынёй рады маскоўскага Беларускага таварыства Аляксеем Каўкам у нас старое сяброўства. Ездзяць нашы актывісты на сустрэчы і з беларускімі суполкамі ў Гародні, Салігорску, Наваполацку, Віцебску, Рызе, Вільні і іншых гарадах.

**— Якія вашы планы?**

— Хочацца дапамагчы распаўсюджванню кніг беларускіх выдавецтваў у нашым горадзе, арганізаваць навучанне роднай мове, сустрэчы з музычнымі ансамблямі, спевакамі, літаратарамі, іншымі прадстаўнікамі нашай культуры. Рыхтуем святкаванне 500-годдзя Скарыны, вечар вершаў М. Багдановіча, У. Караткевіча, Л. Геніюш, Н. Арсеньевай, У. Жылкі. Сябры БГКТ і ТБМ мастака Я. Чарнякевіч і В. Сівуха будуць рабіць выстаўку твораў беларускіх мастакоў у Ленінградзе.

**— Дзе і калі вы збіраецеся?**

— Невыпадкова тое, што і месца нашых сустрэч звязана з беларускай культурай. Гэта — Дзяржаўны музей этнаграфіі народаў СССР. Тут калісьці збіраў калекцыі вядомы этнограф Сержпутоўскі. Тут ёсць цікавая рэпрэзентатыўная экспазіцыя, прысвечаная нашаму народу. Сустрэчы адбываюцца кожную першую і трэцюю суботы кожнага месяца а 16-й гадзіне. Штомесячны наш лекторый «Старонкі гісторыі і культуры Беларусі» працуе кожную апошнюю нядзелю а 14-й гадзіне.

Вопыт выступленняў перад сябрамі беларускіх аб'яднанняў у розных гарадах Беларусі і Прыбалтыкі падказаў, што без сістэматызаванага агляду культуры і гісторыі Беларусі адукацыя нацыянальнай самасвядомасці будзе няпоўнай, абмежаванай. Праграма такога лекторыя, на маю думку, не можа быць копіяй праграмы па гісторыі БССР для школы (ці ВНУ): у лекторыя і школы (ці ВНУ) — розныя мэты. Мы планавалі праграму нашага лекторыя, зыходзячы з наяўнасці багатага беларусазнаўчага патэнцыялу мясцовай інтэлігенцыі, які нельга нават параўноўваць з такім жа патэнцыялам у іншых гарадах па-за межамі Беларусі. Ці можна было не выкарыстаць гэтага шанцу? Мы таксама ўлічваем попыт слухачоў на актуальныя веды.

У планы лекторыя ўваходзяць, напрыклад, такія тэмы, як архітэктура і археалогія розных гарадоў Беларусі (прычым пра кожны горад расказвае менавіта той спецыяліст, які займаўся раскопкамі ў ім), рэлігійнае пытанне ў нашым краі, народная музыка Беларусі з «жывым» выкананнем яе камерным ансамблем І. Мацыеўскага; мастацтва Беларусі ў адлюстраванні экспазіцый ленінградскіх музеяў, асобныя, найбольш важныя этапы гісторыі і культуры Беларусі, вайсковая і дыпламатычная гісторыя Беларусі, руска-беларускія духоўныя сувязі, руска - беларускія ўзаемаперасяленні, жыццё нацыянальных меншасцяў — яўрэяў, палякаў, татараў—на Беларусі і г. д.

Адно кепска — маламнагалюднасць нашых збораў. Мы яшчэ не прыцягнулі да сябе масы землякоў. Няма ў нас пакуль і выкладчыка роднай мовы. А ён надта патрэбны. Мо ў чытачоў «ЛіМа» ёсць знаёмыя ў Ленінградзе, якіх можна было б парэкамендаваць? БФК, дзякуй яму, забяспечвае нас лемантарамі, падручнікамі па мове. Спадзяёмся пераадолець цяжкасці.

**— Поспехаў вам у працы!**



✦

**Гаспадарамі чарговага вечара аўтэнтычнага фальклору ў мінскім Доме літаратара былі віцябчане. Фальклорны калектыў Запрудскага сельскага Дома культуры Глыбоцкага раёна (мастацкі кіраўнік М. Селязень) паказаў гледачам калядны абрад «Жаніцьба Цярэшкі». Народныя мелодыі выканаў ансамбль «Прасніца» Лёзненскага раёна. Шырока на вечары былі прадстаўлены народныя таленты Пастаўшчыны: убачылі мы ансамбль цымбалістаў і музыку-фалькларыста П. Кіёнка з г. п. Варапаева.**

На сцэне — фальклорны калектыў з вёскі Запруддзе Глыбоцкага раёна.

Фота Ул. КРУКА.

✦

**«Ён зрабіў больш за любога з нас»—так называлася рэцэнзія Роя Мядзведзева на першую частку кнігі «Архіпелаг ГУЛАГ» А. І. Салжаніцына («ЛіМ», № 51, 22 снежня 1989 года). Публікацыя выклікала цікавасць чытачоў, многія ўспаміналі свае паводзіны ў час кампаніі па ганьбаванню пісьменніка, называлі людзей, якія адкрыта выступілі ў абарону Салжаніцына і адначасова — у абарону сваёй годнасці. Гэта асобная тэма і, спадзяюся, яна з'явіцца на старонках газеты.**

**А зараз — радкі са свежага пісьма ад Р. А. Мядзведзева: «Нядаўна выйшаў у свет першы том «Сочинений» Салжаніцына з поўным тэкстам «Архіпелага». Некаторыя раздзелы другога тома былі апублікаваны «Новым миром», некаторыя публікуюцца часопісамі «Знание — сила», «Волга» і іншымі. Таму я вырашыў прадоўжыць публікацыю сваіх рэцэнзій. Я вельмі ўдзячны беларускай літаратурнай газеце за публікацыю рэцэнзіі на першы том «Архіпелага». Пасылаю ў гэтым пісьме — для гэтай самай газеты — і рэцэнзію на другі том. Думаю, што гэта публікацыя, крыху больш крытычная, чым першая, будзе цікавая для беларускіх чытачоў».**

**Застаецца дадаць, што «ЛіМ» — першая савецкая газета, якой аўтар перадае гэту рэцэнзію; яна друкуецца ўпершыню ў СССР.**

**А. ЛУКАШУК.**

**Рой МЯДЗВЕДЗЕЎ**

# КАЛЮЧЫ ДРОТ ПРАЎДЫ

**Другі том кнігі А. І. Салжаніцына «Архіпелаг ГУЛАГ»**

ВЫЙШАЎ у свет другі том кнігі А. І. Салжаніцына «Архіпелаг ГУЛАГ». Калі першы том змяшчаў падрабязнае даследаванне ўсяго таго, што папярэднічала з'яўленню мільёнаў савецкіх людзей у сталінскіх канцлагерах: сістэмы арыштаў і розных відаў турэмнага зняволення, катавальная следства, судовых і пазасудовых расправаў, этапаў і перасылак, дык у другім томе сваёй кнігі аўтар даследуе ўжо галоўную і асноўную частку імперыі ГУЛАГа — папраўчыя ці, як іх справядліва называе Салжаніцын, «знішчальна-працоўныя лагеры». Нішто не праходзіць тут міма ўвагі аўтара. Гісторыя ўзнікнення лагераў, эканоміка прымусовай працы, структура кіравання, катэгорыі зняволеных і штодзённы побыт лагернікаў, становішча жанчын і малалетак, узаемаадносіны радавых зэкаў і прыдуркаў, крымінальных і палітычных, ахова, канваіраванне, асведамляльная служба, вярбоўка стукачоў, сістэма пакаранняў і «заахвочванняў», работа бальніц і медпунктаў, розныя формы ўмірання, забойства і нескладаная працэдура пахавання зняволеных — усё гэта знаходзіць сваё адлюстраванне ў кнізе Салжаніцына. Аўтар апісвае разнастайныя віды катаржнай працы зэкаў, іх галодную пайку, ён вывучае не толькі лагерны, але і бліжэйшы прылагерны свет, асаблівасці псіхалогіі і паводзін зняволеных і іх турэмшчыкаў (па тэрміналогіі Салжаніцына «лагершчыкаў»).

Як і першы том, які выйшаў у свет у снежні 1973 года, гэты другі том кнігі Салжаніцына заслугоўвае самай высокай ацэнкі, тым больш, што гэта старраннае мастацкае даследаванне заснавана на дакладных фактах. Праўда, другая кніга не выклікае такога ашаламлення, узрушанасці, маральнага шоку, як першая — можа, таму, што яна другая. А можа, гэта ўражанне звязана з тым, што я ўжо раней прачытаў дзесяткі і дзесяткі мемуараў былых лагернікаў (у большасці сваёй, вядома, нідзе не апублікаваных) і запісаў сотні розных расказаў і сведчанняў пра лагернае жыццё. Мае значэнне і тое, што пры праўдзівасці асноўных фактаў (дробных фактычных недакладнасцей у другой кнізе «Архіпелага» значна менш, чым у першай) многія ацэнкі і меркаванні аўтара вельмі аднабаковыя і катэгарычныя, а яго абагульненні зусім не заўсёды абгрунтаваныя. У прыватнасці, гэта тычыцца яўнага згушчэння фарбаў пры адлюстраванні «вольнага свету» ў раздзеле «Замардаваная воля».

Але, вядома, усе недахопы другога тома, пра якія размова ніжэй, не перакрываюць ні мастацкай, ні сацыяльнай значнасці гэтай кнігі, якая не мае роўных ва ўсёй нашай літаратуры аб лагерах.

Некалькі гадоў таму ад аднаго з былых «сыноў ГУЛАГа», які наведаў Варкуту ўжо ў якасці вольнага (многіх лагернікаў цягне пабываць у тых мясцінах, дзе яны гадамі працавалі за калючым дротам, пра гэта піша і Салжаніцын), я пачуў пра адзін са звычайных для тых мясцін факт. Калі тут пачалі капаць катлаван для падмурка новай школы, дык коўш экскаватара, ледзь зняўшы тонкі верхні слой глебы, вывернуў вялізную колькасць чалавечых касцей. Гэта была, вядома, не сцяянка першабытнага чалавека, і ніхто з археолагаў сюды не прыбыў. Гэта была адна з вялізных брацкіх магіл, што ўзнікалі каля паўночных лагераў, калі ў вялікія ямы з восені выкапаныя катлаваны ўсю зіму скідвалі тысячы трупаў памерлых або расстраляных зняволеных, каб закапаць іх затым толькі з надыходам кароткага паўночнага лета. Будаўніцтва школы часова спынілі, але не для таго, вядома, каб паставіць помнік невядомым вязням. Уначы косці зэкаў адвезлі і закапалі дзесьці за мяжой горада (нічым прыкметным не пазначыўшы і гэтыя новыя магілкі). А на месцы ранейшай брацкай магілы дабудавалі школу.

На жаль, у нас мала надзеі, што там, дзе стаялі хоць бы самыя буйныя канцлагеры, будуць узведзены мемарыялы, што тут будуць адноўлены ў музейным парадку лагерныя баракі, зоны, вышкі і шахты, што будуць неяк адзначаны незлічоныя лагерныя могілкі, дзе пахавана, пэўна, больш савецкіх людзей, чым іх загінула ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мала надзеі, што тут будзе гарэць Вечны агонь, і на мармуровых плітах будуць выбіты прозвішчы памерлых і забітых. Магчыма, што помнікам гэтым людзям застануцца толькі кнігі. Лёгка перажыве сваіх ганіцеляў і ніколі не будзе забыты і «Архіпелаг ГУЛАГ», які прысвечаны ўсім тым, хто загінуў у лагерах і «каму не хапіла жыцця пра гэта расказаць».

## Пра лагерныя міфы

У нашай краіне, дзе няма свабоды друку і свабоды інфармацыі, дзе большая частка інфармацыі распаўсюджваецца па нейкіх закрытых каналах, непазбежна ўзнікае мноства чутак, у грамадстве распаўсюджваюцца дзесяткі розных міфаў, якія многімі людзьмі прымаюцца за несумненныя ісціны. Тым больш ва ўмовах лагераў павінны былі множыцца гэтыя часта вельмі далёкія ад рэальнасці легенды, чуткі і міфы. Наталля Рашатоўская спрабавала нядаўна сцвярджаць, што і кніга Салжаніцына пабудавана ў асноўным на гэтым лагерным фальклоры. Гэта, вядома, не так. Зразумела, многае з таго, пра што Салжаніцын даведаўся ад сваіх сулагернікаў і ад больш позніх карэспандэнтаў і расказчыкаў, ён не меў магчымасці (не па сваёй віне) праверыць дакументальна. Аднак уласны яго лагерны вопыт і інтуіцыя даследчыка і мастака ў большасці выпадкаў дазваляюць яму дастаткова дакладна аддзяліць у запісаных расказах праўду ад выдумак. Калі і трапляюць, хоць і вельмі рэдка, некаторыя легенды на старонкі салжаніцынскага «Архіпелага», дык галоўным чынам там, дзе размова вядзецца пра далёкае мінулае ці пра жыццё і «справы» вярхушкі «Органаў» (напрыклад, пра міністра МДБ Абакумава).

Думаю, што да такіх менавіта міфаў варта аднесці і расказ Салжаніцына пра 14-гадовага хлопчыка, які 20 чэрвеня 1929 года пры наведванні Горкім Салавецкага лагера асобага назначэння папрасіў Горкага застацца з ім сам-насам і затым паўтара гадзіны расказваў пісьменніку пра ўсе беззаконні, што чыніліся ў гэтым лагеры. Па словах Салжаніцына, Горкі выйшаў з пакоя пасля размовы з хлапчуком са слязьмі на вачах. Але ён не толькі нічога не зрабіў для зняволеных на Салаўках, але шмат разоў затым усхваляў салавецкіх чэкістаў, тады як хлапчук-праўдалюбец быў у тую ж ноч расстраляны гэтымі чэкістамі. Але ж сам Салжаніцын піша, што першыя падлеткі прыбылі на Салаўкі толькі ў сярэдзіне сакавіка 1929 года. Адкуль жа навапрыбыўшым насельнікам дзеткалоніі, ізаляваным ад дарослых зняволеных, было даведацца пра ўсё тое, што чынілася на Салаўках многія гады? Аднак калі гэты расказаны Салжаніцыным эпізод і з'яўляецца сумнільным, дык не выклікае сумненняў яго ўласны расказ пра многія беззаконні і самавольства на Салаўках, што пацвярджаецца і іншымі расказамі і сведчаннямі.

## Адкуль пайшлі лагеры?

Узнікненне ў нашай краіне канцэнтрацыйных лагераў для палітычных праціўнікаў Салжаніцын датуе 1918 годам. Гэта не паклёп, як заяўляюць некаторыя яго апаненты. Салжаніцын цытуе тэлеграму Леніна старшыні Пензенскага губкома Яўгеніі Бош, дзе Ленін раіць «сумніцельных змясціць у канцэнтрацыйны лагер па-за горадам» (ПЗТ, т. 50, с. 143—144). Можна было б прывесці і іншыя афіцыйныя дакументы. Так, у спецыяльнай пастанове СНК РСФСР ад 5 верасня 1918 года, у прыватнасці, гаварылася: «...Неабходна аберагчы Савецкую рэспубліку ад класавых ворагаў шляхам ізалявання іх у канцэнтрацыйных лагерах» («Еженедельник ЧК», № 1, 22 верасня 1918 г., с. 11). У лютым 1919 года член ЦК РКП(б) і РВС Паўднёвага фронту Сакольнікаў, пярэчачы супраць дырэктывы ЦК аб «расказачванні» (аб масавым расстрэле казакаў, якія дапамагалі Краснову або служылі ў белай арміі), прапаноўваў не расстрэльваць казакаў, а выкарыстаць іх для грамадскіх работ у вугальных раёнах, для пабудовы чыгунак, распрацоўкі сланца і торфу. Для гэтай мэты Сакольнікаў тэлеграфна прасіў «неадкладна пачаць узвядзенне і абсталяванне канцэнтрацыйных лагераў» (ЦПА, ф. 17, всп. 4, сп. 53, л. 54). Канцлагеры часоў грамадзянскай вайны былі вельмі прымітыўнымі пабудовамі і па сваім рэжыме мала чым падобны на лагеры 30-х гадоў. Іншы раз зняволеныя ў іх людзі прыцягваліся да працы. Былі выпадкі, калі ў прыфрантавых раёнах проста адгароджвалі нейкі ўчастак за горадам, вязні тут («сацыяльна-небяспечныя элементы») не працавалі, а яду ім прыносілі і перадавалі праз агароджу сваякі і сябры. К канцу 1920 года большасць вязняў канцлагераў, як гэта відаць з дакументаў ВЧК, складалі сяляне, арыштаваныя за «спекуляцыю». Са сканчэннем грамадзянскай вайны многія з такіх лагераў былі ліквідаваны, а іх вязні адпушчаны дадому. К пачатку нэпа канцлагеры для палітычных былі, відаць, ліквідаваны амаль паўсюдна (акрамя Салавецкага лагера асобага назначэння і некаторых палітізалятараў, пра якія піша і Салжаніцын).

Мы не маем магчымасці разбіраць тут пытанне аб тым, што ў гэтай ранняй гісторыі палітычных канцлагераў дыктавалася суровай неабходнасцю тых год, а што было яўна празмернай і непатрэбнай жорсткасцю. Але было б памылкова ставіць знак роўнасці паміж канцлагерамі часоў грамадзянскай вайны і сталінскіх часоў або ігнараваць той факт, што ў 1918—1920 гг. Савецкая рэспубліка вяла вайну адразу з некалькімі падтрыманымі інтэрвентамі белымі ўрадамі і што шматлікія канцлагеры, якія ствараліся на тэрыторыях, занятых белымі арміямі і інтэрвентамі, былі часцей за ўсё намнога больш жорсткімі, чым створаныя ў РСФСР. У часы ж Сталіна лагерны тэрор быў накіраваны супраць людзей безабаронных, бяззбройных і не варожых існуючай у краіне адзінай і моцнай уладзе. Для Салжаніцына гэтага адрознення як быццам не існуе.

## Пра паток 1937 года

Салжаніцын не ўтойвае сваёй непрыязнасці да тых савецкіх, партыйных і гаспадарчых кіраўнікоў, да вышэйшых камандзіраў Чырвонай Арміі, да кіруючых кадраў ВЛКСМ і ВЦСПС, а тым больш да кіруючых работнікаў НКУС і Пракуратуры, якія самі сталі аб'ектам жорсткіх рэпрэсій у 1937 і 1938 гадах. Яшчэ ў першым томе «Архіпелага» Салжаніцын пісаў: «Калі падрабязна разглядаць усю гісторыю пасадак і працэсаў 1936—1938 гадоў, дык галоўную агіду адчуваеш не да Сталіна з яго памагатымі, а да ўніжальна-брыдкіх падсудных — гадлівасць да душэўнай нізасці іх пасля ранейшай гордасці і непрымірымасці» (с. 138—139). Усе гэтыя людзі, паводле сцвярджэння Салжаніцына, былі ў гады грамадзянскай вайны або ў гады калектывізацыі і індустрыялізацыі бязлітаснымі да сваіх палітычных праціўнікаў, і таму яны не заслугоўваюць спагады цяпер, калі «сістэма» павярнулася і супраць іх саміх.

Такія ж адносіны аўтара да «патоку 1937 года» мы адчуваем і на старонках другога тома «Архіпелага». Салжаніцын з яўным задавальненнем і нават злаславасцю прыводзіць прозвішчы дзесяткаў буйнейшых дзеячаў Камуністычнай партыі, расстраляных у 1937—1938 гг. па загаду Сталіна. Яны ўжо заслужылі сваю долю, яны атрымалі тое, што рыхтавалі і рабілі для іншых. «Калі на маладога Тухачэўскага, — піша Салжаніцын, — калі ён пераможна вяртаўся з падаўлення даведзеных да галечы тамбоўскіх сялян, не знайшлося на вакзале яшчэ адной Марусі Спірыдонавай, каб забіць яго куляю ў лоб — гэта зрабіў недавучаны грузінскі свяшчэннік праз 16 гадоў» (с. 327).

Але мы ніяк не можам падзяліць гэты настрой і выказванні Салжаніцына.

Па-першае, ніяк нельга ігнараваць, што сярод загінуўшых у 30-я гады кіраўнікоў былі людзі, далёка не аднолькавыя не толькі па сваіх асабістых якасцях, але і па ступені сваёй адказнасці за злачынствы папярэдніх гадоў. Тут былі людзі, якія ўжо глыбока перарадзіліся, ужо захопленыя сталінскай сістэмай настолькі, што яны, не разважаючы, выконвалі самыя жорсткія і бесчалавечныя загады, не думаючы ні пра краіну, ні пра народ, а толькі пра сябе і сваю ўладу. Гэтыя людзі не толькі выконвалі загады, але і самі «праяўлялі ініцыятыву»,

---

АД АЎТАРА: Гэта рэцэнзія была апублікавана ў часопісах і газетах Захаду ў верасні — кастрычніку 1974 года. Як і рэцэнзію на першы том «Архіпелага», я напісаў гэтую рэцэнзію пасля выхаду за мяжой другога тома «Архіпелага» на рускай мове (выд. «Імка-прэс»).

дапамагаючы Сталіну і органам НКУС «выкрываць» і знішчаць «ворагаў народа». Але было нямала людзей, якія памыляліся, якія былі адначасова і зброяй і ахвярай іншага культу — культу партыйнай дысцыпліны. Сярод іх было шмат сумленных, самаадданых і смелых людзей, якія вельмі позна многае зразумелі. Было нямала думаючых, якія пакутавалі ад таго, што робіцца ў краіне, але верылі партыі і партыйнай прапагандзе. Пэўна, можна гаварыць сёння пра гістарычную і палітычную віну ўсяго партыйнага актыву за падзеі 20-х і 30-х гадоў. Але ніяк нельга ўсіх гэтых людзей агульна залічваць у злачынцы, якія атрымалі па заслугах. Лёс большасці рэвалюцыянераў-бальшавікоў застаецца адной з самых страшных трагедый у гісторыі нашай краіны, і мы ніяк не можам падтрымаць Салжаніцына, які са здзекам прапаноўвае пісаць у некралогах, што змяшчаюцца ў нашым друку, замест слоў «трагічна загінуў ў гады культу асобы» словы «камічна загінуў»... Лепшыя рускія пісьменнікі ніколі не дазвалялі сабе здзеку з мёртвых. Успомнім Пушкіна: «Риэго был пред Фердинандом грешен. Согласен я, но он зато повешен. Пристойно ли, скажите, сгоряча ругаться нам над жертвой палача».

Яшчэ калі чытаў першы том «Архіпелага», мяне непрыемна здзівілі словы Салжаніцына, што думка пра ўніжэнні, зведаныя ў Бутырскай турме перад расстрэлам наркомам юстыцыі Н. Крыленкам, які асуджаў раней на гэтыя ўніжэнні іншых людзей, — што гэтая думка неяк «супакойвала» Салжаніцына ў час апісання судовых працэсаў, на якіх Крыленка выступаў абвінаваўцам. Думаецца, што такая пазіцыя аўтара вельмі далёкая ад простай чалавечнасці, не кажучы ўжо пра тыя хрысціянскія прынцыпы «ўсёразумеючай мяккасці» і «некатэгарычнасці меркаванняў», якія дэкларуе Салжаніцын у канцы другога тома.

Пазіцыя Салжаніцына здаецца нам памылковай не толькі таму, што, як добра вядома, на змену знішчаным савецкім і партыйным кіраўнікам прыйшлі часцей за ўсё яшчэ горшыя. Таму ў часіны Яжова і Берыі можна было пашкадаваць і такіх чэкістаў, як Лацiс або Петэрс. Жорсткасць Лацiса і Петэрса—калі апраўданая, а калі і неапраўданая, ніколі ўсё ж не была своекарыслівай, садысцкай і дагаджальнай, гэтыя людзі, відаць, не змаглі б пайсці так далёка шляхам злачынства, як пайшлі Яжоў, Берыя, Закоўскі і да іх падобныя.

Трэба проста сказаць, што таго страшнага лёсу, які выпаў на долю арыштаваных у 1937—1938 гг. кіраўнікоў, не заслужыў ніхто. І немагчыма адчуваць задавальненне пры думцы аб іх уніжэннях і пакутах, нават калі ведаць, што многія з гэтых людзей заслугоўвалі смерці.

У адным з апавяданняў В. Шаламава гаворыцца пра лёс намесніка начальніка Ленінградскага УНКУС Ніканава, памагатага Яжова і Закоўскага, якому ў час «следства» раздавілі яечкі (пра гэты метад, як пра самае страшэннае катаванне, якое немагчыма вытрымаць, пісаў у першым томе і Салжаніцын). Калі чытаў апавяданне Шаламава, я не адчуваў ніякога задавальнення. Магчыма, гэты Ніканаў цалкам заслужыў за свае злачынствы расстрэл па суду. Але і ён не заслужыў такіх страшных пакут і здзекаў. Гэта глыбокая маральная памылка — думаць, што расправа Сталіна з асноўнымі кадрамі Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы была, няхай і ў крайне вычварнай форме, трыумфам нейкай гістарычнай справядлівасці. Не, гібель гэтых людзей стала пралогам да трыумфу яшчэ больш страшэнных несправядлівасцей — не толькі ў адносінах да партыі, але і да ўсяго народа нашай краіны.

Салжаніцын дзіўным чынам гатовы прызнаць, што і ўвесь савецкі народ, усе рускія і іншародцы заслужылі свой нялёгкі лёс, што выпаў ім у 20—40-я гады. Яшчэ ў першым томе ён усклікае, маючы на ўвазе ўжо не партыю, а самых простых людзей нашай краіны: «Мы патраціліся ў адной нястрымнай успышцы семнаццатага года, а потым СПЯШАЛІСЯ пакарыцца, З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ пакараліся... Мы проста ЗАСЛУЖЫЛІ ўсё далейшае» (с. 27, разрадка Салжаніцына). Нямала падобных жа выказванняў можна знайсці і ў другім томе «Архіпелага». Памылковасць і несправядлівасць такой пазіцыі здаецца занадта відавочнай, каб траціць час на яе абвяржэнне.

## Пра камуністаў — вязняў ГУЛАГа

Камуністы складалі, відаць, большасць сярод расстраляных у 1937—1938 гадах. Аднак сотні тысяч арыштаваных радавых камуністаў і партыйна-камсамольскіх кадраў сярэдняга звяна былі разам з іншымі зняволенымі адпраўлены ў лагеры. Іх лёсу Салжаніцын прысвяціў адзін з раздзелаў другога тома, ды і ў іншых раздзелах гэтага тома пра камуністаў гаворыцца шмат. Вельмі коратка закрануўшы тых камуністаў, для якіх «камуністычныя перакананні былі інтымныя, а не пастаянна на языку, якія не выстаўлялі сваю «партыйнасць» напаказ і не аддзялілі сябе ад іншых зняволеных», Салжаніцын галоўную сваю ўвагу ўдзяляе тым «артадоксам» і «дабранадзейным» (раздзел пра камуністаў так і называецца — «Дабранадзейныя»), якія і ў лагеры спрабавалі апраўдаць Сталіна і яго тэрор, якія спявалі на этапах: «Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек», якія лічылі ледзь не ўсіх зэкаў асуджанымі справядліва і толькі сябе выпадкова пацярпеўшымі. Салжаніцын знаходзіць нямала падстаў паздзекавацца з такіх «дабранадзейных» і «артадоксаў». Іншы раз яго іронія зусім заслужаная. Сапраўды, сярод арыштаваных у 1937—1938 гг. камуністаў было шмат такіх, хто працягваў верыць не толькі Сталіну, але і Яжову, хто трымаўся адасоблена ці нават варожа ў адносінах да іншых зняволеных. Але прасвятленне, па зразумелых прычынах не заўсёды поўнае, прыходзіла вельмі хутка, і ўжо праз некалькі месяцаў «следства» колькасць «дабранадзейных» і «артадоксаў» сярод арыштаваных членаў партыі хутка скарачалася. А ў лагерах іх і зусім было не шмат. Але, зразумела, асуджэнне Сталіна і органаў НКУС для большасці камуністаў зусім не азначала адмаўлення ад сваіх сацыялістычных і камуністычных перакананняў.

Салжаніцын яўна памыляецца, калі, апісваючы лёс камуністаў у лагеры, заяўляе, што яны «ніколі не пярэчылі супраць засілля блатных на кухні і ў прыдуры» (с. 337) і што «артадоксы» ўсе хутка добра ўладкуюцца (с. 329). Аўтар «Архіпелага» выказвае нават наступную гіпотэзу: «Ды ці не было пісьмовай або хоць бы вуснай дырэктывы: камуністаў уладкоўваць як лепш?» (с. 339).

Не, Аляксандр Ісаевіч, такой дырэктывы ніколі не існавала, і Вы добра ведалі гэта, калі ў аповесці «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» расказалі пра лёс камуніста Буйноўскага, без прычыны кінутага ў халодны карцэр. Па лагерным лёсе Барыса Дзьякава або Галіны Серабраковай нельга рабіць вывады аб становішчы і паводзінах асноўнай часткі камуністаў, якія апынуліся ў сталінскіх лагерах. У многіх адносінах іх становішча было нават горшым, чым становішча іншых катэгорый зняволеных, і гінула іх у лагерах ніяк не менш, а, бадай, і больш, чым іншых зняволеных. Наконт гэтага, вядома, няма дакладных статыстычных даных. Аднак з матэрыялаў партыйных канферэнцый, што праходзілі пасля XXII з'езда КПСС, мы ведаем, што ў Маскву ў 1955—1957 гг. вярнулася толькі каля 6% членаў партыі, арыштаваных тут у 1936—1939 гг. Астатнія 94% былі рэабілітаваны **пасмяротна.** Ды і цалкам па СССР з аднаго мільёна членаў партыі, арыштаваных у другой палавіне 30-х гадоў, вярнулася пасля 15—18-гадовага зняволення наўрад ці больш за 60—80 тысяч чалавек. Перажытыя пакуты пакінулі на гэтых людзях глыбокі след, і сярод іх вельмі мала засталося людзей, колькі-небудзь падобных на тых, пра якіх з такім сарказмам піша сёння А. І. Салжаніцын.

## Сацыялізм, рэвалюцыя ці рэлігія?

У чацвёртай частцы сваёй кнігі («Душа і калючы дрот») Салжаніцын гаворыць, у прыватнасці, пра сваё духоўнае перараджэнне ў лагеры, пра вяртанне да прывітай яму яшчэ ў дзяцінстве веры ў Бога, ад якой ён у юнацтве адмовіўся на карысць марксізму. Хоць і з агаворкамі, аўтар нечакана выказвае нават падзяку лагеру, бо менавіта перажытыя ў ім пакуты дапамаглі вяртанню Салжаніцына ў лона хрысціянства. «БЛАСЛАЎЛЕННЕ ТАБЕ, ТУРМА!» — піша аўтар вялікімі літарамі, заканчваючы раздзел «Узыходжанне» (с. 604).

У гэтай частцы кнігі Салжаніцын выказвае некаторыя глыбокія, хоць і вельмі горкія думкі. Але многае тут гучыць (ва ўсякім выпадку для мяне) фальшывай нотай. Усе гэтыя крайне прадузятыя водгукі аб марксізме, як «непаграшным, нецярплівым вучэнні, якое патрабуе толькі выніку, толькі матэрыі, але не «ДУХУ» (с. 598), усе гэтыя разважанні аб тым, што толькі вера ў Бога выратоўвала і ўзвышала дух чалавека ў лагеры, а вера ў будучую перамогу сацыяльнай справядлівасці, у лепшую грамадскую будову не перашкаджала духоўнаму разбэшчванню і ледзь не вяла прамой дарогай у стукачы, — усё гэта гучыць бяздоказна і ганарыста. Вартая жалю жорсткасць вядзе аўтара да той менавіта «нецярплівасці і непагрэшнасці» ў меркаваннях, у якой ён абвінавачвае марксізм. Салжаніцын не лічыць магчымым і для людзей нерэлігійных адрозніць дабро і зло.

Атаясамляючы сацыялізм і сталінізм, Салжаніцын, натуральна, не можа зразумець людзей, для якіх перажытая імі або іх суайчыннікамі трагедыя можа стаць стымулам толькі да ўзмацнення барацьбы за сацыяльную справядлівасць, за лепшую будучыню для чалавецтва на гэтай зямлі, за знішчэнне ўсякага прыгнятання чалавека чалавекам, уключаючы і псеўдасацыялістычныя формы такога прыгнятання. Салжаніцын не можа зразумець, што асновай сапраўды гуманістычнай маралі і глыбока чалавечай маралі могуць быць сацыялістычныя перакананні. І калі на сёння праблемы этыкі і маралі не знайшлі яшчэ ў марксізме-ленінізме цалкам здавальняючага вырашэння, дык гэта зусім не азначае, што навуковы сацыялізм па сваёй прыродзе няздольны ствараць маральныя каштоўнасці.

Падводзячы вынік сваім разважанням у лагеры, Салжаніцын піша:

«З таго часу я зразумеў праўду ўсіх рэлігій свету: яны змагаюцца са злом у чалавеку (у кожным чалавеку). Нельга выгнаць зусім зло са свету, але можна ў кожным чалавеку яго пацясніць.

З таго часу я зразумеў няпраўду ўсіх рэвалюцый гісторыі: яны знішчаюць толькі сучасных ім носьбітаў зла (а не разбіраючы ў спешцы — і носьбітаў дабра) — само ж зло, яшчэ павялічаным, бяруць сабе ў спадчыну» (с. 612).

Гэта проціпастаўленне не здаецца мне ні правільным, ні справядлівым. Бо неабходна змагацца і са злом у кожным чалавеку, і з сучаснымі нам носьбітамі зла, і з несправядлівымі грамадскімі ўстанаўленнямі. Гэтая барацьба адбываецца ў розных формах. Добра, калі яна ажыццяўляецца ў форме мірнага спаборніцтва ідэалогій, пры дапамозе рэформ і паступовых змен да лепшага. Але бывае непазбежным пакуль яшчэ ўжываць і рэвалюцыйныя формы барацьбы, якія хоць і могуць суправаджацца многімі ахвярамі і расчараваннямі, але зусім неабавязкова павінны весці да павелічэння зла ў гэтым свеце. Сказіць і павярнуць супраць чалавека і чалавецтва можна не толькі сацыялістычнае вучэнне, але і палажэнні любой рэлігіі. Гісторыя дае таму нямала прыкладаў, у тым ліку і гісторыя рускага праваслаўя, у якога таксама ёсць свае традыцыі абскурантызму. Як вядома, яшчэ ў XVI стагоддзі руская царква спальвала ерэтыкоў жывымі. Дарэчы, у паводзінах і ўчынках Сталіна можна знайсці не толькі ўласцівыя многім рэвалюцыянерам прагматычныя адносіны да насілля, да прымянення крайніх сродкаў, але дагматызм, спрытнасць, нецярпімасць і іншыя якасці, якія несумненна носяць у нейкай меры сляды пяцігадовага навучання ў праваслаўным духоўным вучылішчы і трохгадовага навучання ў праваслаўнай семінарыі.

Жудасныя харціны злачынстваў намаляваны Салжаніцыным у яго кнізе, і ў асуджэнні гэтых злачынстваў усе мы аднадушныя з ім. Але я працягваю думаць, што толькі перамога сацыялістычнага грамадства, пасапраўднаму сацыялістычных грамадскіх і этычных адносін можа трывала гарантаваць чалавецтва ад паўтору падобных злачынстваў.

3—13 верасня 1974 года.

## ГУКАЎ ЧЫСТАЯ КРЫНІЦА

Усяго шэсцьдзесят хвілін канцэртнага часу спатрэбілася камісіі, каб прыняць рашэнне аб прысуджэнні хору Мінскага вытворчага аб'яднання імя Кастрычніцкай рэвалюцыі звання народнага. Самадзейныя артысты пакарылі слухачоў майстэрскім выкананнем беларускіх песень каляндарнага цыкла, казацкіх плясавых, украінскіх і рускіх народных песень.

— Калектыў наш зусім малады, большасць яго ўдзельнікаў пачалі сур'ёзна займацца спяваннем два гады назад,— расказвае мастацкі кіраўнік хору Алег Сямёнаў. — У студзені сталі дыпламантамі трэцяга Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці. Цяпер вось новы поспех. Ён для нас тым больш радасны, што спяваюць у хоры ў асноўным людзі рабочых прафесій — сталявары, слесары - інструментальшчыкі. Музычная грамата ім даецца нялёгка, выручаюць вялікая працавітасць і шчырая любоў да песні. Мы стараемся, каб цудоўныя народныя песні ў нашым выкананні, не страчваючы сваёй пачатковай прыгажосці, гучалі свежа і цікава.

Т. БАГДАНОВІЧ,
кар. БЕЛТА.

г. Мінск.

## ЧАСЦІНКА ДУХОЎНАГА СКАРБУ

У духоўным жыцці вёскі Перабродддзе асабліва пачэснае месца займае народны хор. Аснова яго рэпертуару — фальклор, невычэрпныя жывыя крыніцы.

У апошні час мы многа гаворым і пішам пра зберажэнне народнай спадчыны, багаццяў фальклору. І тут трэба перш за ўсё мець на ўвазе практыку калектываў, якія працуюць у рэспубліцы, у прыватнасці, на Прыдзвінні. Перабродскі хор — адзін з іх.

Ужо 44 гады кіруе ім Аляксандр Сяргеевіч Сяліцкі. Хто падлічыць, колькі аддадзена сіл, каб загучалі па-сапраўднаму, па-народнаму сакавіта беларускія песні — то сумныя, нават жалобныя, то светлыя і празрыстыя, як вада тутэйшых азёр Набіста і Абстэрна.

...Я прыехаў у Перабродддзе з тэлевізійнай групай. Мае сябры — музыказнаўца Я. Герашчанка, рэжысёр В. Раманоўская, гукарэжысёр П. Раманоўскі рабілі ўсё, каб хор і ў тэлеперадачы гучаў чыста, каб слухач у эфіры мог адчуць усю яго багатую палітру, гаму адценняў, сапраўдны сакавіты водар беларускай народнай паэзіі і музыкі.

Амаль да поўначы працягвалася наша гутарка з Аляксандрам Сяргеевічам і яго жонкай Святланай Міхайлаўнай, бібліятэкаркай, адной з актыўных удзельніц хору: гаварылі пра кнігі і музыку, пра канцэрты прафесійных калектываў і выканаўцаў, якіх так не хапае ў вёсцы, пра абслугоўванне сельскага працаўніка і ролю інтэлігенцыі на вёсцы.

За пяць дзесяцігоддзяў хор перажыў і перыяды росквіту, і няўдачы. Была і заспакоенасць, і «пачыванне на лаўрах», асабліва пасля вялікага поспеху ў канцы 50-х гадоў. Але сёння ў рэчышчы сапраўднага адраджэння ўсёй беларускай культуры калектыў нібы нарадзіўся зноў. Гэта могуць засведчыць сотні аматараў народных спеваў у Віцебску, Полацку, Мінску.

На жаль, у хоры мала моладзі. Але ж трэба клапаціцца аб папаўненні, аб новай змене.

Мне здаецца, пры такіх калектывах, як Перабродскі народны хор, павінны нараджацца калектывы-спадарожнікі, у якіх вучыліся б спяваць дзеці.

Пра ўсё гэта я кажу ў сувязі з беларускай фальклорнай традыцыяй. Але не магу не сказаць і пра забытыя традыцыі іншых народаў, што жывуць на Беларусі, напрыклад — традыцыі яўрэйскай народнай творчасці. Якія песні слухаў я ў дзяцінстве на Палессі, дзе яны гучалі на беларускай і рускай, на ўкраінскай і яўрэйскай мовах! І разумелі іх усе без перакладу. А песні цыган? Іх многа жыве на Віцебшчыне — і добра, што падрыхтавала, нарэшце, і паказала абласная тэлестудыя перадачу-канцэрт, дзе прагучалі цыганскія песні.

І ўсё гэта павінна сёння адраджацца, калі мы хочам, каб не на паперы, а на справе расцвітала народная культура.

Давід СІМАНОВІЧ.

Калектыў Дома літаратара СП БССР і сакратарыят праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі выказваюць глыбокае спачуванне метадысту Дома літаратара НОВІКАВАЙ Аліне Сяргееўне з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора — смерці МАЦІ.

